Янка Золак



# Вятрыска з радзімай краіны



*Збор выбраных твораў*



*Янка Золак*

# Вятрыска з радзімай краіны



**Збор выбраных твораў**

МІНСК
*БелАДІ*
1996

ББК 84(4Беu)
З-79
УДК 882.6-1

*Укладальнік і аўтар прадмовы*
***Л. Пранчак***

**Золак Янка**
**З-79** Вятрыска з радзімай краіны: Зб. выбр. тв./Уклад. і прадм. Л. Пранчак. – Мн.: БелАДІ, 1996 – 312 с.

ISBN 985-6319-01-3

Збор выбраных твораў Янкі Золака (Антона Міхайлавіча Даніловіча), беларускага паэта-эмігранта, які жыве ў Злучаных Штатах Амэрыкі, друкуецца ў Беларусі ўпершыню. Дасюль яго вершы публікаваліся на бацькаўшчыне толькі ў калектыўных зборніках «Песьняры Случчыны» (1943 г.), «Туга па Радзіме» (1992 г.).

Выданьне падрыхтавана на падставе аўтарскага рукапісу з захаваньнем правапісу арыгінала. Зацікавіць прыхільнікаў беларускай паэзіі, дасьледчыкаў айчыннай гісторыі і літаратуры.

**З 8820600000** **ББК 84(Беu)**

ISBN 985-6319-01-3

# САМОТНЫ ПАЭТ

## Гутарка з маўклівым чалавекам

Па звычцы, што ўвайшла за доўгія гады ў завядзёнку, ён прачынаецца звычайна да ўсходу сонца. Апранаецца, бярэ свой кіёк-крывульку й выходзіць на ранішнюю праходку. Хадзіць пешшу яму рэкамендаваў доктар, і ён, па магчымасьці, стараецца прытрымлівацца тых рэкамендацый. Маршрут для праходкі ўжо шмат гадоў адзін і той жа. Адзін-два кварталы вакол свайго дома. У канцы заўсёднага ранішняга мацыёну ён зварочвае на свой панадворак і йдзе да высознага канадыйскага клёна, які горда ўзвышаецца над навакольнымі дамамі й дрэвамі. Клёну, пэўна, гадоў за сто. Але ён яшчэ дужы й здаровы. Клён — адзіная на сьвеце жывая істота, з якой яму добра й спакойна. Мо таму, што абое старыя. Хоць ён сябе старым ня лічыць. Для сваіх 82 гадоў ён дужы й рухавы. Яшчэ й чарку любіць узяць. Але доктар ня раіць. Вось ужо гэтыя дактары. Тут бяз іх і кроку ня зробіш: мусіш параіцца... Але, бывае, нешта находзіць на яго, калі ён забывае на ўсе парады й рэкамендацыі й дае волю сваім жаданьням. Куфаль піва ці кілішак «сьмірноўкі» пасьля шматдзённай смагі бывае асабліва жаданым і смачным... Сьвет ізноў набывае колеры, вяртаецца страчаны настрой і абыякавасьць зьмяняецца ўзьнёсласьцю й натхненьнем. Ён тады зачыняецца ў сваім пакоі, бярэ самапіску й які-небудзь кавалак паперы й спрабуе пісаць. На жаль, апошнія гады натхненьне рэдка наведвае яго. І ён зьмірыўся з гэтым. Дні яго аднастайныя й доўгія, як кроплі вады падобныя адзін да другога. Толькі дажыўшы да старасьці, ён можа распараджацца сваім часам так, як хоча. Перабірае архіў, робіць вопіс, рэдагуе ранейшыя вершы й прозу, перачытвае Быкава й Караткевіча. І знаходзіць у гэтай працы часовы супакой. Ён дае





сабе волю быць паэтам. Паэт па натуры, ён усё жыцьцё саромеўся быць ім на людзях. Гэта была яго патаемная мара, якая й па сёньня засталася марай. Не таму, што ня спраўдзілася, а таму што ён нават баяўся, каб яна спраўдзілася. Быць паэтам ён ня меў ні часу, ні магчымасьцяў. Яму здавалася, што паэзія — гэта толькі вечная мара. Колькі было выпадкаў, калі яна станавілася явай, а ён, нібы не заўважаў нічога, закідаў пісаньне, аддаваўся чорнай фізычнай працы, каб праз нейкі час ізноў вярнуцца да вершаў і зноў — у які ўжо раз — даказваць людзям і сабе — што ён паэт. Быў час, калі ён амаль не пісаў вершаў. Пісаў толькі тады, калі ня мог не пісаць. Такіх вершаў у яго мала. Але толькі ў іх ён шчыры й адкрыты, як на споведзі, безабаронны й слабы, як малое дзіця, жорсткі й дакладны ў характарыстыках сваіх герояў. Яго эпіграмы надзвычай вострыя й ядавітыя. Ня ведаю, ці рашыцца ён калі-небудзь надрукаваць іх, але перакананы, што напісаць іх мог толькі сапраўдны паэт.

У час першай нашай сустрэчы, слухаючы яго вершы, я пра сябе назваў яго самотным паэтам. А пасля неаднойчы пераконваўся ў дакладнасьці гэтага вызначэньня. Негаваркі, замкнёны ў сабе й няўсьмешлівы, ён у момант чытаньня пераўвасабляўся: загараліся вочы, голас набываў сілу й мяняў тэмбр... Ён дэкламаваў на купалаўскі манер — аднатонна й на расьпеў. У тыя хвіліны ў ім перамагаў паэт, загнаны ім самім жа ў пацёмкі сваёй душы. Але пераўвасабленьне тое доўжылася толькі некалькі хвілін — пакуль гучаў голас. Калі ён змаўкаў, паэт зноў паміраў у ім. На момант прыадкрыўшы сваю душу, ён, нібы спахапіўшыся, зноў зачыняў яе на ўсе магчымыя засовы й станавіўся абыякавым і маўклівым. Жыцьцё навучыла яго ня быць шчырым і адкрытым. Шчырасьць — вялікая раскоша, якую можа дазволіць сабе хіба што чалавек моцны й незалежны альбо паэт. Ён дазваляў сабе. Але толькі ў вершах. І то зрэдку. Чаму паэт душыў у сабе паэта? Пытаўся я ў яго. Але ён маўчаў і разводзіў рукамі... Мо таму, што сваё жыцьцё ён





пражыў зусім ня так, як хацеў і марыў, а так, як змог, як склаліся абставіны, якія нярэдка перакрэслівалі яго намаганьні. Альбо таму, што ён напісаў далёка ня ўсё, што выношваў у сэрцы й да чаго хінулася яго душа, а толькі тое, што напісаў: на што хапіла таленту, волі й паперы. Бальшыня яго вершаў параскідана па блакнотах і лістках у выглядзе чарнавікоў і накідаў. Усё ніяк не даходзяць рукі, каб упарадкаваць іх, давесці да ладу й надрукаваць. Канчатковы вынік ніколі ня быў для яго важнейшым за сам працэс творчасьці. Колькі вершаў ён страціў, колькі не дапісаў, колькі забыўся перапісаць з памяці — ён і сам ня ведае. Шмат. Але ён не шкадуе іх. Бог даў — Бог узяў.

Паэзія, якую ён паўсюдна шукаў у жыцьці, ня стала сэнсам яго жыцьця. А засталася болем яго няспраўджаных жаданьняў, анямелым голасам яго пачуцьцяў і перажываньняў. Ня стала, але магла. Бо пачынаў ён хораша й шматабяцаюча. Першыя вершы надрукаваў у 30-х гадах.

Апынуўшыся пад нямецкай акупацыяй, працаваў вясковым настаўнікам, карэктарам у газэце, служыў асьветовым афіцэрам у Беларускай Краёвай Абароне. І ўсюды пісаў вершы. Некаторыя з іх увайшлі ў зборнік «Песьняры Случчыны», выдадзены ў Слуцку ў 1943 годзе... Ён ведаў, што гэтага было дастаткова, каб пасьля вайны трапіць на доўгія гады за калючы дрот ці за Спакраты. Ведаў і баяўся. Таму й апынуўся далёка ад дому. Спачатку ў Нямеччыне, пасля ў Амэрыцы. Тады, у 1944, ён сьвядома выбраў выгнаньне. Хоць рашэньне гэта далося нялёгка й балюча, бо прыйшлося назаўсёды пакінуць сям'ю, бацькоў, Беларусь. Ён прыняў выгнаньне, як лёс, — са шкадаваньнем і без нараканьняў. Пакінуўшы бацькаўшчыну, як мог, прыстасоўваўся да чужыны. Каб выжыць, каб нанава збудаваць сваё жыцьцё. Гэта цяпер ён кажа: у нас, у Амэрыцы, — а спачатку язык не паварочваўся, душа не прымала чужой мовы, без якой тут, як бяз рук... Жывучы ў Амэрыцы фізічна, духова ён заўсёды імкнуўся ў Беларусь, якую згубіў для сябе незваротна. Яна





яшчэ адна яго няспраўджаная мара, яшчэ адзін непраходзячы боль. Час нібы застыў для яго. Ішлі гады, але яны не мянялі яго поглядаў і перакананьняў, не прытуплялі шчымлівую ростаньтугу. Ён так і застаўся на ўсё жыцьцё ўзьнёслым і бескампрамісным паэтам-юнаком, які аднойчы й назаўсёды, як у вышэйшую ісьціну, паверыў у беларускую ідэю, беларускае Адраджэньне. Ён і цяпер, праз 50 гадоў самавольнага выгнаньня, верыць у яе й фанатычна ёй адданы. Пазбавіўшы сябе Радзімы, ён увёў яе ў культ рэлігіі, культ бажаства й увесь час маліўся й моліцца ёй цяпер, не зважаючы на зьмены й перамены, не зьвяртаючы ўвагу, што ён ужо ёй чужы, а яна яму таксама чужая.

Мачыха рэдка замяняе родную маці. Чужына ніколі не становіцца радзімай. Ён спасцігаў гэтыя прапісныя тэзы на ўласным вопыце, у штодзённым жыцьці. У Амэрыцы, нягледзячы на яе неабмежаваныя магчымасьці, ён не дасягнуў ніякіх надзвычайных посьпехаў, ня стаў знакамітым, не зрабіўся багацеем. Затое заўжды меў страху над галавой, хлеб і да хлеба.

У прыгожым двухпавярховым доміку, які набыў пасьля доўгіх гадоў працы на фабрыцы, ён зрабіў сабе на другім паверсе рабочы пакоік — сьветлы, прасторны, з вокнамі на тры сьцяны. І праводзіў там амаль увесь свой вольны час, забываючы пра гаспадарчыя справы, за рэдагаваньнем «Беларускай думкі», за наборам чарговага тому сваіх твораў, за напісаньнем лістоў і артыкулаў... Гэта цяжка паддаецца разуменьню, але гэта факт: у Амэрыцы ён стварыў беларускае выдавецтва і ў падвале свайго дому друкаваў беларускія кнігі й часапісы, календары й газэты. Нездарма ж яго празвалі мільтаўнаўскім Скарынам. Дзеля друкарні ён ахвяраваў заробкам, забавай і, падчас, нават сябрамі. Беларускае слова й у Амэрыцы не адпускала яго душу. Ён стаў яго вечным палонным і не працівіўся гэтаму.

Калі ён запрасіў мяне ў сваю майстэрню, я на нейкі час застыў на парозе. Бо за дзьвярыма пачыналася таямніца, якую я каторы час імкнуўся спасьцігнуць, вандруючы па беларускіх

асяродках Амэрыкі: як і чаму беларусы, апынуўшыся па-за бацькаўшчынай захавалі сваю мову, песьні, народныя традыцыі? Чаму ў іх сэрцах абвастрылася цяга да беларушчыны? Чаму яны пранясьлі яе праз усё жыцьцё, часам адрынуўшы й ня прыняўшы культуру краіны, якая дала ім прытулак?..

«Вось тут я й твару», — з напускной жартаўлівасьцю кажа ён. Абапал сьцен і між вокнамі — кніжныя паліцы з энцыклапедыямі, слоўнікамі, перыядычнымі выданьнямі — усё толькі па-беларуску. Ля вакна — старадаўні столік на ножках-цыбулінах, аздоблены просьценькай разьбой па дрэву. На ім — друкарская машынка зь беларускім шрыфтам. На сьцяне — партрэты Скарыны й Каліноўскага... Пазьней у яго ўтульнай хаце я па-новаму перачытаў яго кнігі, рукапісы, архівы. Там пачыналася гэтая гутарка, якая расьцягнулася на цэлы тыдзень. Зранку мы размаўлялі дома, а пад вечар ішлі ў бліжэйшы бар — да Рычы, бралі па куфлю ледзянога цёмнага піва, якое з непрывычкі ламала зубы, і зноў прадаўжалі размову. Я задаваў пытаньні, а ён цярпліва адказваў на іх. Маленькімі глыткамі цэдзячы духмянае піва, ён распавядаў мне пра свае жыцьцёвыя прыгоды, няпросты й пакручасты лёс, нетаропка й спакойна, нібы гаварыў пра іншага чалавека, якога ён добра ведае. Настолькі добра, наколькі можна ведаць самога сябе...

— *Я магу задаваць Вам любыя пытаньні?*

— Безумоўна. Усё, што цябе цікавіць.

— *А пра што Вы не хацелі б гаварыць?*

— Ды ні пра што не хацеў бы. Навошта варушыць старыя раны. Мінулае памерла ўва мне. Я жыву сёньняшнім днём. Жыву самотнікам. За сваё жыцьцё страціў шмат блізкіх мне людзей і зноў застаўся адзін. Але прывык, і мая адзінота мне не ў цяжар...

— *А чаму Вы не любіце гаварыць пра сваё жыцьцё?*





— Бо ня лічу яго такім цікавым, што варта пра гэта на кожным вуглу крычаць. Усё маё жыцьцё ў маіх вершах. Так усе паэты кажуць. І гэта праўда.

*— Калі не пішаце вершы, тады чым займаецеся?*

— Чакаю пошту й чытаю — гэта цяпер мае заняткі. Бывае што-небудзь напішу. Бывае, тэлефануе Палікарп Манькоў — мы знаёмы з ім яшчэ з бацькаўшчыны. Зрэдку бываю ў царкве ці на імпрэзах у беларускім цэнтры.

*— Ці загаіліся Вашы духовыя раны?*

— Так, і загаіліся, і зарубцаваліся. Зараз мне нічога не баліць, я ні аб чым не шкадую. Я зрабіўся раўнадушным...

*— Але ж для паэта гэта раўнасільна фізічнай сьмерці...*

— Ну дык што зробіш? Рана ці позна чалавек памрэ. Гэтак-сама, як памірае паэт у чалавеку. Гэта справа часу й узросту.

*— А колькі Вам цяпер?*

— Споўнілася 82 гады. Але адчуваю я сябе як у 28.

*— Гэта Амэрыка так цудадзейна дзейнічае?*

— Мабыць, — так!

*— За тыя 40 гадоў, што Вы жывяце тут, Вы пасьпелі адчуць сябе амэрыканцам?*

— Як ні дзіўна, але — не. Безумоўна, я грамадзянін Амэрыкі, але на гэтым маё амэрыканства й заканчваецца. Бо за час свайго побыту я ня ўспрыняў у поўні ні мовы, ні літаратуры, ні традыцыяў гэтай краіны. Так атрымалася, але я валодаю толькі бытавой ангельскай мовай. З 40 гадоў майго жыцьця тут я правёў больш часу сярод беларусаў, чым сярод амэрыканцаў: і на працы, і ў грамадзкім жыцьці. І ніякіх нязручнасьцяў не адчуваў. Толькі цяпер — у старэйшым веку — зразумеў, што гэта ня зусім добра. Веды ж ніколі не абцяжарваюць чалавека.

*— Як даўно Вы грамадзянін ЗША?*



## 11

— З 23 сьнежня 1957 года. Прыняў грамадзянства пасьля шасьцігадовага побыту ў Амэрыцы як падарунак да Калядаў.

*— У Амэрыку Вы прыехалі як перамешчаная асоба. Ці зьмяніўся Ваш статус цяпер?*

— Я лічыў сябе палітычным эмігрантам, бо вымушаны быў пакінуць Беларусь з палітычных меркаваньняў. Хоць справа нават ня ў тым, кім я сябе лічыў. Такі статус мелі ўсе дэпісты — Displase Persones — насельнікі лагераў, якімі спачатку апекавалася UNRRA, а пазней IRO. Цяпер я наўрад ці магу назваць сябе палітычным эмігрантам. Дакладней будзе — амэрыканскі пенсіянэр.

*— Ці былі выпадкі, каб беларусы сьвядома адмаўляліся ад прыняцьця амэрыканскага грамадзянства?*

— Дакладна ня ведаю. Тут можна жыць чужаземцам і раз у год адзначацца ў Аддзеле Іміграцыі й натуралізацыі. Але гэта нязручна. Навошта сьвядома пазбаўляць сябе гарантаваных правоў? Калі стала зразумела, што на Беларусь зваротнай дарогі няма й невядома калі яна будзе, мы прысягнулі на вернасьць Амэрыцы. Чалавек ня можа быць бяздомным і безрадзімным. Практычна ўсе сьвядомыя беларусы, стаўшы амэрыканцамі, працягвалі займацца беларускімі справамі. Але амэрыканскія законы такую дзейнасьць абмяжоўваюць. Яна не павінна быць скіравана супраць Амэрыкі.

*— Гэтыя абмежаваньні тычацца хутчэй за ўсё палітычных арганізацый і палітычнай дзейнасьці.*

— Так. Таму многія з дэпістаў, прыняўшы грамадзянства, выйшлі з кіраўніцтва і сяброўства беларускіх суполак палітычнай арыентацыі. У некаторай ступені гэта аслабіла беларускі рух у Амэрыцы, пазбавіла яго многіх здольных і актыўных дзеячоў.

*— Якое месца займала палітыка ў Вашым жыцьці?*

— Аніякае! Бо я заўсёды быў далёкі ад палітыкі, хоць не ад палітыкаў, якія спрабавалі ўцягнуць мяне ў свае суполкі. Але





гэта ім не ўдалося й яны нярэдка злаваліся. Я ніколі не хацеў улады, панаваньня над людзьмі. Я хацеў займацца сваёй справай: друкаваць беларускія выданьні, пісаць вершы. І, па магчымасьці, рабіў гэта.

*— А хіба паэзія ў такіх варунках ня можа быць палітыкай?*

— У некаторай ступені — так! І ў маёй творчасьці сустракаюцца палітычныя ноткі. Але гэта ўсяго рэакцыя на нейкія падзеі ці зьявы альбо іх адлюстраваньне. Паэзія можа быць палітычнай, але не палітыкай.

*— Як жа Вы растлумачыце мне такі факт. Вершы паэтаў замежжа, і Вашы ў прыватнасьці, прысвечаныя 25 Сакавіка, Слуцкаму паўстаньню, перш чым гісторыкі распавялі людзям праўду пра гэтыя падзеі, сфарміравалі грамадскую думку і ў гэтым сэнсе выканалі палітычную ролю...*

— Згодзен. Але гэта хутчэй выключэньне. Дапоўніць твае прыклады я не магу.

*— Добра, працягваючы палітычную тэму, хачу спытаць Вас, за гады жыцьця на выгнаньні адбылася пераацэнка жыцьцёвых каштоўнасьцяў?*

— Я ня думаю, што ў мяне былі падставы нешта пераацэньваць. Бо хрысціянскія каштоўнасьці заўсёды былі для мяне вышэйшымі. Іншая справа, што чалавек не заўсёды мае дастаткова волі й сілы, каб жыць так, як патрабуюць тыя законы. Некаторыя каштоўнасьці я па-новаму спасьцігнуў ужо ў сталым веку. Найважнейшая з іх — любіць людзей, не дазваляць гардыні ўзяць верх над сэрцам і розумам, умець дараваць... Шкадую толькі, што дзеля таго, каб зразумець гэта, я павінен быў пакінуць Бацькаўшчыну.

*— Ад чаго Вы цяпер адракліся б у сэнсе сваіх палітычных перакананьняў?*

— Ад камуністычнай ідэалёгіі. Ідэалёгія горш за каросту. Яе ніякія лекі ня возьмуць. Толькі больш моцная ідэалёгія можа асіліць камунізм. Для мяне такой ідэалёгіяй стала беларушчы-

на. Я змог вырвацца з путаў забабонаў і вярнуўся да свайго, роднага, беларускага.

*— А з чаго пачыналася Ваша зацікаўленьне беларушчынай?*

— Напачатку было Слова. І Слова было — Бог... Памятаеш, як пачынаецца адна са сьвятых кніг? Так было і ў мяне. Я быў зачараваны мовай маіх бацькоў, гучаньнем родных слоў. Пачаў складаць вершы. Моўная стыхія — гэта цэлы Сусьвет. І я адчуў сябе яго часьцінкай. Мова — зьява фізічная. Бо яна мае не толькі літаравае выражэньне, але і гук, гучаньне. Значыць, яна жывая па сваёй прыродзе. Яна жыве, пакуль хвалі яе гукаў ляцяць у прасторы, калі прасьцей казаць, то яна — мова — жыве, пакуль гаворыць на ёй яе народ.

*— Наколькі розьняцца Вашы погляды на гісторыю Беларусі цяпер і тады, калі Вы жылі там?*

— Асабліва ня розьняцца. Дзякуй Богу, я вывучаў гісторыю Бацькаўшчыны па кнігах Гарэцкага, Пічэты, Карскага, Ігнатоўскага, Тарашкевіча. У першай палове 20-х гадоў я ведаў і пра І Усебеларускі Кангрэс, і пра БНР, і пра Слуцкае паўстаньне. У Беларусі толькі пару гадоў таму сталі гаварыць пра гэта. А тады гэта былі нядаўнія падзеі. Шмат новага й цікавага з гісторыі Беларусі я даведаўся падчас нямецкай акупацыі, а таксама пазьней, жывучы ў Амэрыцы, дапоўніў свае веды з працаў Івана Касяка, Івана Любачкі.

*— Вайна скалечыла Ваша жыцьцё?*

— А што ты думаеш! На вайне забіваюць не толькі фізічна, але і маральна. Страхам перад сьмерцю, бездапаможнасьцю чалавека перад зброяй, немагчымасьцю абараніць сябе.

Беларусы зрабілі спробу падчас вайны будаваць сваю дзяржаву. І ў гэтым кірунку шмат добрага было зроблена. У сэнсе вяртаньня да беларушчыны, адмовы ад камунізму.

*— Вы верылі, што пры немцах Беларусь можа быць вольнай?*



## 14

— Не! Беларусь не магла быць вольнай пад акупантамі. Якой бы масьці яны ня былі. Гэта для мяне відавочныя рэчы. Але немцы далі шанц беларусам рабіць свае школы, выдаваць свае газэты, мець свае нацыянальныя арганізацыі. Пры бальшавіках гэтага ў сапраўднасьці ня было.

*— Праз 50 гадоў пасля вайны Вы больш крытычна ацэньваеце свой удзел у ёй?*

— Я й цяпер перакананы, што рабіць беларускую справу трэба было. Дзеля Беларусі. У імя Беларусі. Мой удзел у вайне быў пасыўным. Для таго каб выжыць, давялося працаваць у школе, рэдакцыі газэты... Нягледзячы на страляніну, разруху й няпэўнасьць у кожным дні, — я даволі шмат пісаў. І друкаваўся. У паэзіі я знаходзіў радасьць. Я стварыў свой сьвет і жыў у ім, часта не заўважаючы, што творыцца вакол. Калі быў пакліканы ў Беларускую Краёвую Абарону, то, мо ўпершыню за ўсю вайну, сутыкнуўся з рэальнасьцю й трагічнасьцю паўсядзённага жыцьця. Я заўважыў, што вакол вайна й яе каса занесена над маёй галавою. Гэта жахлівае адчуваньне...

*— Тады Вам прыйшлося быць паміж немцамі й бальшавікамі. Цяпер Вы зрабілі б іншы выбар?*

— Я малю Бога, каб нікому не прыйшлося быць у такой сітуацыі. Я не хацеў бы рабіць ніякага выбару. Я хацеў бы быць са сваімі людзьмі, а не выбіраць паміж чужынцамі.

*— Падчас вайны Вы надрукавалі шмат патрыятычных вершаў, услаўляючы Беларусь. Як гэта ўспрымалі немцы?*

— А хто іх ведае! Ты думаеш яны чыталі іх?

*— Думаю, што чыталі. Існавала ж цэнзура...*

— О, так. Каб я напісаў нешта супраць Кубэ, напрыклад, са мной хутка расправіліся б.

*— А Вы не баяліся, што з Вамі могуць рапправіцца за тыя вершы й партызаны таксама?*

## 15

— Баяцца то не баяўся, але такое магло адбыцца ў любы дзень. Я ня думаю, што ім былі да спадобы мае вершы. Таму большасць паэтаў, якія друкаваліся ў беларускіх выданьнях таго часу падпісвалі свае творы псеўданімамі. У зборніку «Песьняры Случчыны» ёсць вершы В.Блакітнага, Леаніда Гая, Базыля Явара. Я па сёньня ня ведаю, хто гэтыя людзі, хоць і працаваў у рэдакцыі «Газэты Случчыны». Бо гэта іх псеўданімы. Падпісвацца сапраўднымі імёнамі было небясьпечна. Маглі прыйсьці й забіць. За слова. І такія выпадкі былі.

*— Ад'езд з Беларусі ў 1944 годзе, мабыць, самая трагічная старонка ў Вашым лёсе...*

— Гэта так. Я пасьля неаднойчы думаў, ці правільна я зрабіў? Грызьлі сумненьні. Балела сэрца. Але іншага выйсьця ня было. Хіба галаву ў пятлю? Але ж гэта вялікі грэх...

*— Пакідаючы Беларусь, Вы разьвіталіся з ёй назаўсёды?*

— У галаве быў такі сумбур і трывога, што пра гэта ня думалася. Не забывай, што гэта быў ваенны час. Асэнсаваньне свайго стану прыйшло ў Нямеччыне. У лягеры. Нейкі час мы былі інтэрніраваны. Пасля нас выпусьцілі з-за дроту. Многія пазнаходзілі працу. Пачалі ствараца беларускія асяродкі. Закончылася вайна й зьявілася нейкая пэўнасьць у будучыню.

*— У якім лягеры Вы жылі ў Нямеччыне?*

— Спачатку — у беларускай групе лягеру ў Гангофер зідлюнг у Рэгенсбургу. А пазьней — у Міхельсдорфе й Бакнангу.

Гэта быў надзвычайны час. Людзі пасьля доўгіх гадоў нястачы атрымалі спакой, страху над галавой, больш-менш прыстойную ежу. Бальшыня з іх была сьвядомымі беларусамі. Арганізавалі школку для дзетак, гімназію, пабудавалі царкву. Я нейкі час працаваў настаўнікам у пачатковай школцы, а пазьней трохі ў гімназіі. У лягеры была свая беларуская адміністрацыя.

Але, калі асноўную масу беларусаў перасялілі з Рэгенсбургу ў іншыя лягеры, у Рэгенсбургу засталася невялічкая група, у



# 16

тым ліку й я з сям'ёю. Адміністратарам там быў вядомы мовавед доктар Янка Станкевіч, вельмі цікавы чалавек. І пра яго самога й пра яго навуковую дзейнасьць ходзяць легенды. Ён спрабаваў увесьці ў беларускую мову некалькі новых слоў. Удалых і ня зусім. Напрыклад, слова «спадар» з яго лёгкай рукі так шырока пайшло ў сьвет, што, можа, людзі й ня ведаюць, што адшукаў яго Янка Станкевіч. Калі я быў на бацькаўшчыне, то ўсюды чуў яго. І да мяне так зьвярталіся, і па радыё гаварылі.

Янка Станкевіч прапанаваў мне быць яго сакратаром, бо ведаў мой прыгожы почырк. Я згадзіўся, але працавалі мы нядоўга, бо здарыўся такі выпадак: ён загадаў мне напісаць сьпіс жыхароў лягера згодна яго граматыкі. Напрыклад, калі нехта Васіль Міхневіч меў сына Пятра й дачку Ганну, дык дзеці пісаліся б так: Пятро Васілёнак Міхневіч, Ганна Васілішка Міхневічышка. А калі яна замужам за Апанасовічам, дык яе поўнае імя — Ганна Васілішка Апанасовічыха. Я адмовіўся рабіць сьпіс у такім выглядзе. За гэта Станкевіч звольніў мяне з адміністрацыі. Але перарабляць сьпіс па-свойму ня стаў.

Трэба сказаць, што яго моўныя новаўвядзеньні прыжыліся толькі сярод пэўнай часткі дэпістаў. У Амэрыцы хадзіла па руках эпіграма, напісаная, здэцца, Рыгорам Крушынам:

Пад скабамі тыхтала б'ецца,
Як борзды таўкач у мяжджэрыку.
У Крывію дух мой імкнецца,
А кадаўб вязу я ў Амэрыку.

Крушына выкарыстаў лексіку Янкі Станкевіча. Ты ўсё зразумеў у гэтых радках?

— *Здагадаўся. Але што такое мяжджэрык і кадаўб — ня ведаю.*

— Так Станкевіч называў ступку й цела. Я табе яшчэ некалькі эпіграм і анекдатычных гісторый расказаў бы, але ты не напішаш... Там лексіка зусім пазаслоўнікавая. А ўтварыліся тыя

словы дзякуючы збегу складоў. Асабліва, калі Станкевіч ужываў замест «ёсць» — «е» і «ё».

*— У Амэрыцы Вы супрацоўнічалі з Янкам Станкевічам?*

— Аднойчы. Спрабавалі выпускаць насьценны беларускі каляндар. Але сумеснай працы не атрымалася. Ён накідваў сваю граматыку, а я крытыкаваў яго за гэта.

*— У Вас шмат ворагаў было ў жыцьці?*

— Калі гаварыць пра асабістае жыцьцё, то няпрыяцеляў хапала. Сумна казаць пра гэта, але былі такія й сярод беларусаў.

*— Ваша даваенная сьпецыяльнасьць спатрэбілася ў Амэрыцы?*

— Ты жартуеш хіба? Каму ў Амэрыцы быў патрэбен выкладчык беларускай мовы й літаратуры? Хіба што ў нядзельнай школцы пры царкве вучыць дзяцей беларусаў роднай мове. Але там і без мяне хапала настаўнікаў.

*— А Вы дзе працавалі?*

— Прыйшлося асвойваць іншыя сьпецыяльнасьці. Можа, ня вельмі прэстыжныя й грашовыя, але патрэбныя. Працаваў на чыгунцы, а ў бальшыні на трыкатажнай фабрыцы — стаяў за станком.

*— З беларускага інтэлігента сталі амэрыканскім пралетарыям?*

— Які з мяне пралетарый! Але жыў з уласнага мазаля. Нават верш напісаў пра гэта.

*— А чаму не паспрабавалі заняцца літаратурнай ці журналісцкай працай?*

— Я займаўся ўсім гэтым, але пасьля таго, як закончу працу на фабрыцы. Альбо па выхадных. Крадучы час у жонкі й сям'і, пазбаўляючы сябе забавы й адпачынку.

*— З літаратурнай працы Вы не змаглі б пражыць?*





— Даўно працягнуў бы ногі, каб спадзяваўся на гэта. Трэба быць вялікім ідэалістым, каб у Амэрыцы паспрабаваць жыць на ганарары.

*— Такіх ідэалістых сярод беларусаў ня было?*

— Я ня ведаю такіх. Хіба толькі тыя, што працавалі на радыё «Свабода»: Рыгор Крушына, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік. І то некаторыя з іх займаліся фізычнай працай.

*— А Вы пісалі дзеля ганарару?*

— Вершаў дзеля ганарару ніколі не пісаў. Публіцыстыку — спрабаваў, калі атрымаў запрашэньне працаваць на радыё «Свабода». Напісаў некалькі камэнтароў пад псеўданімам Палікар Дзярэча. Але ў час зразумеў, што радыёжурналістыка не мая справа.

*— А пра паэзію Вы так ня думалі?*

— Чаму ж, бывала, і пра паэзію так думаў. Пагартай мае зборнікі — убачыш, што былі вялікія перапынкі, калі я не напісаў ніводнага радка. У кожным выпадку на гэта была нейкая прычына, а мо й ня было ніякай. Проста ня пісаў.

*— Настальгія спрыяе творчасьці?*

— Безумоўна. Уся выгнанская паэзія сентыментальная па сваёй сутнасьці. Але ж гэта хвароба й толькі. Я пісаў не ад настальгіі.

*— Але калі настальгія прайшла, Вы сталі пісаць менш...*

— Гэта праўда, было такое. Але не цяпер. Цяпер настальгія праявілася з большай сілаю, асабліва, калі я зьездзіў у Беларусь. Але не яна асноўны штуршок мае творчасьці, а любоў да Бацькаўшчыны, вера ў яе прышласьць і незалежнасьць.

*— Вас перакладалі па-ангельску?*

— Спрабаваў адзін мой знаёмы суродзіч-доктар. Але што ў яго выйшла, я ня ведаю.

# 19

*— А амэрыканцы не спрабавалі?*

— Яны нават ня ведаюць, што я паэт.

*— ?!*

— Так! Гэтага да нядаўняга часу ня ведалі нават сябры маёй сям'і. Я маю на ўвазе амэрыканцаў небеларусаў. Адкуль яны будуць ведаць? А я не хвалюся гэтым, бо лічу паэзію асабістай справай. Беларускі паэт у Амэрыцы — вялікі самотнік!

*— Можа ўсёткі больш правільна назваць Вас амэрыканскім паэтам, які піша па-беларуску?*

— Называй, як хочаш: што ад гэтага зьменіцца. Але амэрыканскім паэтам я сябе ня лічу.

*— Вы належалі да якіх-небудзь творчых суполак?*

— Да літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына», якое заснаваў у 1945 годзе ў Рэгенсбургу Юрка Віцьбіч. Органам згуртаваньня стаў часапіс «Шыпшына», дзе друкаваліся і мае творы. Я дапамагаў Віцьбічу рыхтаваць васкоўкі для рататара. Выйшла дзевяць нумароў «Шыпшыны», апошні ў 1950 годзе ўжо ў ЗША.

*— Якія аднosіны былі ў Вас з іншымі эмігранцкімі газэтамі й часапісамі?*

— З некаторымі з іх я супрацоўнічаў. Да прыкладу, друкаваўся ў «Баявой ускалосі», якую рэдагаваў у Канадзе Сяргей Хмара. Цяпер падтрымліваю кантакт з ньюёркскім «Беларусам». Там час ад часу зьяўляюцца мае вершы.

*— Вы належыце да Беларускага інстытуту навукі й мастацтва?*

— Не, але выданьні іх чытаю з цікавасьцю: і «Запісы», і кнігі з сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі».

*— А Вам не прапаноўвалі выдаць свае творы ў гэтай сэрыі?*

— Не, бо я не належу да інстытуту.

*— Я ведаю, што гадоў трыццаць таму Вы купілі аматарскую друкарню, заснавалі выдавецтва й самі выдавалі кнігі. Раскажыце пра гэта.*

— Было такое. Калі зьявілася магчымасьць, я набыў невялікі друкарскі прэс і да яго крыху кірылічных шрыфтоў. Засеў за сьпецыяльную літаратуру й самастойна вывучыў друкарскую справу. Друкарню я разьмясьціў у падвале сваёй хаты. Напачатку суткамі не вылазіў адтуль і хоць не адразу, але апанаваў новую для мяне прафесію. Выдаваў газэту «Беларускі патрыёт», пасля «Сялянскі кліч», літаратурны дадатак да «Беларускага патрыёта». З маёй друкарні выйшла некалькі нумароў брачасапіса «Палесьсе», адзін нумар «Прыйсьця». Друкаваў брашуры. Напрыклад, «Асновы маралі. (Фундамент этыкі)» Яўхіма Кіпеля. А калі добра асвоіў тэхналёгію друкаваньня, перайшоў на выданьне зборнікаў вершаў. Фактычна быў рэдактарам і друкаром кнігі Уладзіміра Клішэвіча «Далячынь», перавыдаў зборнік Нічыпара Чарнушэвіча «Дзіва». Гэты зборнік мне паказаў Юрка Віцьбіч. Я перачытаў яго й застаўся вельмі ўражаным. Ад рукі перапісаў яго, а пасьля набраў у сваёй друкарні й выдаў. Наклад быў невялікі, але хапіла, каб падараваць сваім сябрам. Мне хацелася, каб людзі ведалі гэтага таленавітага паэта. Гэтаксама, як і паэтаў, якія друкаваліся ў «Газэце Случчыны» падчас вайны. Я сабраў іх вершы й выдаў тут зборнічак «Зьнічкі Случчыны». Надрукаваў яшчэ некалькі невялікіх кніжачак.

*— Свае творы, пэўна ж, таксама друкавалі?*

— Друкаваў. У 1979 годзе выдаў першы том сваіх вершаў, а гады праз два — другі. Выдрукаваў таксама зборнічак гумарэсак «За чужы грэх» і зборнічак лінгвістычных нататкаў «Падкашнічак».

*— Уявіце, што Вы ня мелі б свайго выдавецтва, — дзе б Вы маглі выдаць свае кнігі?*



## 21

— Яны й па сёньня ляжалі б у маім стале. Тут хапае друкарняў, якія б маглі іх выдаць, але я ня меў сродкаў, каб заплаціць за гэта.

*— Мецэната ці фундатара не спрабавалі знайсьці?*

— Дзе яго тут знойдзеш? Ды й натура мая загордая, каб некага прасіць. Я люблю быць незалежным. Багатых беларусаў, якія маглі б быць фундатарамі, я ня ведаў. Пра мецэнацтва я таксама ня чуў нічога. Хоць нейкія спробы ў гэтым кірунку рабіў Уладзімер Пеляса. Ён выдаў некалькі кніжак беларускіх пісьменьнікаў. У прыватнасьці, зборнікі Янкі Юхнаўца, Міхася Кавыля.

*— Чаму не падтрымлівалі беларускіх паэтаў беларускія палітычныя й грамадзкія арганізацыі?*

— Я не магу сказаць, што не падтрымлівалі. Кіраўніцтва Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускага вызвольнага руху, асабліва ў першыя гады сваёй дзейнасьці на чужыне вельмі прыхільна ставілася да паэтаў. Усе яны мелі, а некаторыя й цяпер маюць, свае друкаваныя органы, дзе зьмяшчалі творы, блізкія ім па ідэалёгіі. Калі паэт ня друкуецца, ён страчвае вялікі стымул для творчасьці.

*— Вы ўсе свае творы пісалі для друкаваньня?*

— Не, я пісаў, бо меў цягу да пісаньня. А напісаўшы, цешыў сябе надзеяй, што калісьці гэта нехта зможа прачытаць...

*— Ці ня гэта штурхала Вамі, калі Вы засноўвалі часапіс «Беларуская думка»?*

— Тут усё крыху складаней. «Беларуская думка» ня толькі літаратурна-мастацкі, але й грамадзка-палітычны часапіс. Ён узьнік падчас глыбокага крызісу ў беларускім асяродку. Ты ж ведаеш, што беларускія дзеячы, жывучы яшчэ ў лагерох для перамешчаных асобаў у Нямеччыне, падзяліліся на дзьве асноўныя палітычныя групы: прыхільнікаў БНР і прыхільнікаў БЦР. Гэта быў штучны, і, я сказаў бы, недарэчны падзел. Бо

абедзьве групоўкі паводле іх дэкларацыяў былі за незалежнасьць Беларусі і прызнавалі Акт 25 Сакавіка 1918 году. Падзел той трывае яшчэ й па сёньня. Шматлікая група дэпістаў — бэцэзраўцаў перасялілася з Нямеччыны ў Саўт Рывер. Неўзабаве тут утварыўся прыход праваслаўнай царквы пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага патрыярха. Настаяцелем прыходу стаў айцец протапрасвітэр Мікалай Лапіцкі. Каб мець магчымасьць праводзіць грамадзкую працу, гэтая група стварыла Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА). Адзін з сяброў камітэта падаў думку выдаваць газэту ці часапіс. У лістападзе 1959 года была створана ініцыятыўная група. Часапіс вырашылі назваць «Беларуская думка». Выбралі рэдкалегію ў складзе Антона Даніловіча, Леаніда Галяка, Міхася Кавыля, Івана Касяка, а. Мікалая Лапіцкага, доктара Мікалая Шчорса. Барыс Шчорс ачоліў адміністратыўнае кіраўніцтва. Рэдкалегія прызначыла мяне галоўным рэдактарам. Так нарадзіўся часапіс «Беларуская думка». А ў наступным годзе выйшаў першы яго нумар.

— *Часапіс гэты выходзіць і па сёньняшні дзень?*

— Так, выйшла ўжо 40 нумароў. Зьмяніўся галоўны рэдактар, назусім адышлі некаторыя сябры рэдкалегіі, але часапіс жыве. Ён адыграў вялікую ролю ў падтрыманьні беларускага жыцьця ў Амэрыцы.

— *Але, на жаль, ён ня змог прымірыць беларускіх дзеячоў?*

— Ён жа ніколі ня ставіў перад сабой такой мэты. Ды гэта й не пад сілу часапісу.

— *А каму тады пад сілу?*

— Цяжкае пытаньне. Я сам думаў пра гэта неаднойчы й прыйшоў да высновы, што пакуль цяперашняе пакаленьне не адыдзе, — спадзевы на гэта нікчэмныя.

— *Але ж беларускія дзеячы падзелены ня толькі па палітычных меркаваньнях, але й па рэлігійных?*

— Тота ж! Супрацьстаяньне паміж імі зайшло вельмі далёка. Ня ўсе простыя людзі ведаюць нават яго прычыны.

*— Вы заўсёды былі веруючым чалавекам?*

— Не. Быў і бязбожнікам, калі працаваў у школе да вайны. Бо гэтага патрабавалі бальшавікі.

*— А як прыйшлі да веры?*

— А я не адыходзіў ад яе. Проста нейкі час быў пазбаўлены магчымасьці адкрыта маліцца. А калі такая магчымасьць зьявілася, я з радасьцю вярнуўся ў лона праваслаўнай царквы. Было гэта ў лягеры ў Рэгенсбургу. Цяпер я належу да царквы сьвятой Ефрасіньні Полацкай.

*— Царква дае Вам духовае адхланьне й супакаеньне?*

— Адхланьня — не, бо я не фанатык. А супакаеньне я там знаходжу, гэтаксама, як часам і ў жыцьці.

*— У другім томе Вашых твораў цэлы разьдзел вольных перасьпеваў з «Псалтыра». Гэта спроба рэлігійнай паэзіі?*

— Пачынальнікам беларускай рэлігійнай паэзіі зьяўляецца баптыст Даніла Ясько. Ён выдаў цэлы зборнік хрысьціянскіх песьняў. Я захапіўся працай і пераклаў больш за дзесятак псальмаў. Яны ніколі не выкарыстоўваліся ў царкоўнай службе. Для мяне гэта ня столькі паэзія, колькі асэнсаваньне й прачытаньне сьвятога пісаньня.

*— У Вас ёсць празаічныя творы?*

— Уся мая проза пакуль у чарнавіках. Шмат што не закончана. Для скаўцкага часапісу я пісаў аповесьць «Т.Д.Ч.» — нешта накшталт «Тимур и его команда» Аркадзя Гайдара. У «Беларускай думцы» друкуецца мая аповесьць «Ціхі стаў». Спадзяюся закончыць яшчэ адну аповесьць «Віталія». Гэта фантастыка. Пісаў я й драматычныя творы. Але нічога не надрукаваў. Некалькі п'ес не закончана. Праўда, адзін мой драматычны абразок быў пастаўлены дзецьмі ў Беларускім цэнтры. Для дзяцей я напісаў таксама вершаваную казку «Бабок».

# 24

*— Вы перайшлі на дарэформенны беларускі правапіс у Нямеччыне ці ў Амэрыцы?*

— У Беларусі. Падчас акупацыі. І з тога часу прытрымліваюся яго. Я карыстаюся правапісам, уведзеным Браніславам Тарашкевічам і папраўленым Язэпам і Антонам Лёсікамі. Я па ім вучыўся й лічу яго больш адпаведным для беларускай мовы.

*— Але калі Вашы вершы друкуюць на бацькаўшчыне, то выкідаюць мяккі знак, уносяць іншыя граматычныя праўкі...*

— Мне ў гэтым бачыцца баязьлівасьць калялітаратурных чыноўнікаў, іх нежаданьне ці няздольнасьць пазбыцца ранейшых звычак. Калі ў Менску рыхтаваўся зборнік «Туга па Радзіме», Барыс Сачанка папрасіў у мяне дазволу ўключыць мае вершы. Я даў яму згоду, але пры ўмове, што вершы будуць надрукаваны ў маім правапісе. Нават з Міхасём Кавылём напісалі наконт гэтага ліст Сачанку. Але ён не зьвярнуў на яго ніякай увагі й надрукаваў так, як захацеў, фактычна зняважыўшы пісьменьнікаў, якія не карыстаюцца сучасным правапісам, бо ён накінуты прымусова з мэтай русыфікаваць беларускую мову, прыпадобіць яе да расейскай.

*— Вы нацыяналіст?*

— Напэўна. Але ў бальшавіцкім разуменьні гэтага тэрміна.

*— Ці адчулі радасьць, калі ўбачылі свае вершы надрукаванымі ў Беларусі?*

— І радасьць, і смутак. Радасьць, што нарэшце збылося! Смутак — бо гэтага дня прыйшлося чакаць каля 50 гадоў.

*— Вы б хацелі належаць да Саюзу пісьменьнікаў Беларусі?*

— Не, бо той Саюз у сапраўднасьці толькі прафсаюзная арганізацыя. А прафсаюзы — школа камунізму. Яна не для пісьменьнікаў. Ды я ўжо яе праходзіў калісьці. Паўтараць пройдзенае няма ахвоты. Ды й век ня той.





*— Хто з беларускіх паэтаў Вам бліжэй?*

— Янка Купала.

*— А з амэрыканскіх?*

— Ніхто ня блізкі.

*— Вам удаецца сачыць за падзеямі на Беларусі?*

— З цяжкасьцю. Інфармацыю я атрымліваю толькі з беларускамоўнай перыёдыкі, якая прыходзіць у Амэрыку нерэгулярна.

*— Як па-вашаму, Беларусь зрабіла крок наперад на шляху да сваёй незалежнасьці?*

— Зусім кароценькі. Я дзіўлюся, чаму ў Беларусі так многа ворагаў беларушчыны. Іх заўсёды хапала, але што цяпер так шмат, — для мяне гэта балюча.

*— У чым Вам бачыцца заслуга эміграцыі перад бацькаўшчынай?*

— Па-першае, у тым, што эмігранты на чужыне захавалі чысьціню беларускай мовы, а па-другое, і гэта, мабыць, галоўнае — пазнаёмілі Захад з Беларусьсю.

*— Што будзе з беларускімі асяродкамі ў Амэрыцы? Яны з'амэрыканізуюцца?*

— Зусім магчыма, бо гэты працэс пачаўся.

*— Вам гэта не абыходзіць?*

— Абыходзіць, але я нічога не магу тут паправіць. І ня ведаю, хто мог бы спыніць гэты працэс. Нашы дзеці ў сваёй большыні амэрыканцы, а я так і ня стаў ім. Патрыятызм трэба ўзгадоўваць, тады ён дасьць плён.

*— Пра што я не спытаў у Вас?*

— Ня ведаю. Чытаць чужыя думкі ня ўмею й вучыцца гэтаму не хачу.

*— Вы паэт толькі тады, калі пішаце вершы ці ў жыцьці таксама?*

— У штодзённым жыцьці я Антон Даніловіч. Паэтам Янкам Золакам я станаўлюся, калі ка мне прыходзіць Муза. Антон Даніловіч з Янкам Золакам жывуць памяркоўна. Бываюць непаразуменьні, але часовыя.

*— Янка Золак не адзіны Ваш псеўданім?*

— У школе свае вершы я падпісваў Антось Вірок. У «Газэце Случчыны» друкаваўся пад псеўданімам Янка Золак. У ЗША ужываў розныя псеўданімы: А. Здрок, З. Ажына, К. Асьцюк. К. Аса, Яз. Дольны. Найбольш прыстаў да мяне псеўданім Янка Золак. Сябры завуць мяне й Янкам, і Антонам: як каму ўздумаецца.

*— Аб чым Вы шкадуеце найбольш, калі ў думках азіраецеся на пражыты шлях?*

— Шкадую, што жыцьцё праляцела так хутка. Наперадзе нічога мяне не чакае. Жыць мінулым сумна. Таму я стараюся асабліва не заглыбляцца ў свае перажываньні. Усяго было на маім вяку: і добрага, і ня зусім. Бачыў сьмерць, губляў і знаходзіў родных людзей, сам мог неаднойчы памерці й паміраў... Але выжыў. Я гляджу на гэты сьвет як госьць. Надзеі, радасьці мінулі. Прыйшла старасьць, трэба звыкацца з ёю й забывацца пра сябе мінулага.

*— Чаму так песімістычна?*

— Як ёсць!

*— Ня веру, што пасля столькіх жыцьцёвых нягод Вы так лёгка здадзіцеся на волю лёсу?*

— Ня верыш? І правільна робіш! Здавацца я ня збіраюся. Калі й бурчу крыху, дык гэта таму, што не заўжды задаволены сабой. Усё сваё жыцьцё я жыў з думкай аб Беларусі. Дзеля яе ахвяраваў нават асабістымі інтарэсамі. Каб ня родная мова,





наўрад ці выжыў бы на чужыне. Яна мой адзіны сродак сувязі са зьнешнім сьветам. Ды й вершы я пісаў, каб несьці мову маю ў сьвет, у людзі. Доўгі час марыў, каб вершы мае дайшлі да радзімы. Цяпер гэта стала магчымым і я шчасьлівы ад гэтага. Дасьць Бог і ў роднай мове застанецца й маё слова, мой сказ ці мой верш! Дзеля гэтага я жыў на гэтым сьвеце!..

* * *

Такая атрымалася размова. Я сьвядома не прыгладжваў і не рэдагаваў яе, а ў канцы паставіў шматкроп'е... Бо шмат аб чым ня спытаў яшчэ, шмат пытаньняў засталіся без адказаў, некаторыя пацягнулі за сабой новыя пытаньні. Адказы на іх прыйдзецца шукаць у вершах паэта, як ён і раіў напачатку нашай сустрэчы. І гэта добра. Будзе падстава яшчэ раз зьвярнуцца да яго творчасьці.

«Упершыню ў сваім жыцьці я так шмат размаўляў», — прызнаўся мне Янка Золак. І мне было прыемна чуць гэта ад маўклівага чалавека. Мне падалося, што маўклівасьць яго ад самотнасьці, а самотнасьць ад натуры — затоенай і адзінокай.

Позьнім лістападаўскім вечарам мы вяртаемся з ім з бара ад Рычы. Вуліцы невялікага гарадка зіхацяць ад пазалоты й чырвані апошняй лістоты. Восень самая прыгожая пара ў Нью Джэрсі. Мо таму, што вельмі пагодная й доўгая. Пасьпяваеш прывыкнуць да прыгажосьці. А калі яна знікае, становіцца нявымоўна сумна й шкада яе. Гляджу на голыя вершаліны клёнаў і кажу пра свае адчуваньні спадару Золаку. Ён маўчыць. А пасьля гучна, без ніякага ўступу пачынае чытаць:

Не хачу аб журбе гаварыць,
Толькі восень любіць не пакіну.
Я кахаю яе, як жанчыну, —
Аж да самай зімовай пары...

Прачытаў і зноў замаўчаў. А ў мутным асеньнім небе тужліва крычаць дзікія гусі. Яны пакідаюць Нью Джэрсі й ляцяць на поўдзень, каб вясной зноў вярнуцца сюды. Іх пранізьлівыя крыкі падспудна навяваюць смутак, наскрозь пранізваюць сэрца... Іх разьвітальная туга так зразумела чалавечай душы.

«Здэцца, сам паляцеў бы з імі», — кажа сам сабе самотны паэт. І дадае абыякавым голасам: — Каб толькі ведаў, што ляцяць яны ў Беларусь...»

*Леанід Пранчак*
*20 сьнежня 1994 г.*
*Мільтаўн*



## 29

### СОНЦУ

Ты ўзыйдзі, зазьзяй,
Сонца яснае!
Прагані, спужай
Ночку цёмную;

Ты рассып-расьсей
Шчодрай жменяю
Па краіне ўсёй
Косы-промені;

Разгані, разьвей
Хмары-воблакі,
Асьвяці, сагрэй
Землю-матухну;

Ты сьвяці і зьзяй
Па-над нівамі.
Атулі наш Край
Ласкай матчынай!

*7 жніўня 1941 г.*



## ДАЖДОМСЯ!

Хоць восень лютуе ў прасторах —
Прадвесьніца жорсткай зімы, —
Мы верым і ведаем: скора
Даждомся прадвесьня і мы.

Хоць можа зіма і наложыць
На землю аковы і сны,
Мы верым: яна нас ня зможа,
Даждомся прыходу вясны.

*1 кастрычніка 1941 г.*



## 31

## У ПОШУКАХ ДОЛІ

Цісьне грудзі мне скруха-навала,
Цісьне, душыць і ўдзень і ўначы.
Дзе-ж ты, доля мая, запрапала?
Мо' прыстала ў палёх, ідучы?

З ціхім плачам гамоняць у гаю
Кроны сумныя белых бяроз.
Хоць я песьню калі й засьпяваю,
Зрок туманіцца вільгацьцю сьлёз.

Хай сумуюць бярозы у гаю!
Па шляхох Беларусі пайду:
Або долю сваю напаткаю,
Або крыж пад бярозай знайду.

Я іду, а над роднай краінай
Цёмнай хмарай ляцяць крумкачы,
Не даюць мне прасьветлай хвіліны
І спакою ні ўдзень, ні ўначы.

Я іду, а прысады шапочуць
Мне ціхутка і ўдзень і ўначы,
Нібы гольлем сказаць яны хочуць:
«Долю знойдзеш, з людзьмі ідучы!»

*2 кастрычніка 1941 г.*





### 32

## ЧОРНЫ СМУТАК

(Трыялет)

Чорны смутак цудоўную песьню
Заглушыў і ў мяне адабраў,
І пад ногі сабе падабраў
Чорны смутак цудоўную песьню.
Хоць у небе курлыкаў жураў,
Нясучы прывітаньне прадвесьню,
Чорны смутак цудоўную песьню
Заглушыў і ў мяне адабраў.

*10 кастрычніка 1941 г.*







## НЕЧАКАНАСЬЦЬ

Хоць восень яшчэ панавала,
Зьбірала багацьця дары,
Ды з поўначы ветрам нагнала
Прыкметы зімовай пары.

Ўсе клёны, вязы і бярозы
Яшчэ лістапад не атрос,
А зямлю скавалі марозы,
Насыпала сьнегу з нябёс.

*17 кастрычніка 1941 г.*



34

## ДА БЯРОЗЫ

Ня сумуй, бялявая бяроза,
Ня сумуй!
Ня ўсыпляй ты мары-крозы
На зіму!

Не аддам цябе завеі-скрусе
Я на здзек.
Ды й зіма на Беларусі
Не на век.

Мы з табою радасьць напаткаем
Не адну
І сугучна засьпяваем
Пра вясну.

К нам яна у кветкавым убраньні
Прыйдзе зноў;
Веру: вернецца каханьне
І любоў.

*18 кастрычніка 1941 г.*





35

## УНОЧЫ

Сьпіць сяло ў тумане белым,
Зоркі сьвецяць, ня мігнуць.
Сьпіць і сэрца анямела,
На душы туга і муць.

Ціха ўсё… Ад краю вёскі
Даляцеў сабачы брэх…
Нікнуць рэха адгалоскі
Каля сьцен і каля стрэх.

Ціха зноў… А ў сэрца з болем
Сьлёзы капаюць з вачэй…
Не цягніся, ночка, болей!
Сонца, выблісьні хутчэй!

*19 кастрычніка 1941 г.*







## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

За лясамі, за лугамі,
За люстранаю ракою
Хтосьці срэбнымі плугамі
Неба зорнае араў.
Ён магутнаю рукою
Падразаў карэньне траў.

І на ўзораным палетку
Лемяхом зарніц-заранак,
Заквітнелі зоры-кветкі,
Як валошкі у палях;
Ды застаўся неўзараным,
Як агрэх той, Млечны Шлях.

*20 кастрычніка 1941 г.*





37

## МАЯ МАЛІТВА

О ня дай, Бог, больш нікому
Гэткай чорнай долі,
Як таполі адзінокай,
Што расьце у полі,
Што вятрыскі абвяваюць,
Гнуць і ломяць гольле…
Хай-бы лепей затанула
Гэтакая доля!

О ня дай, Бог, больш нікому
Гэтакага зьдзеку,
Як вісіць над нашым Краем
І над чалавекам!
Пакажы яму, о Божа,
Шлях да вызваленьня,
Дай Ты сілу, дай Ты долю
І багаславеньне!

*23 кастрычніка 1941 г.*



## 38

## ПЕСЬНЯ ЗАВІРУХІ

Закружуся, завірую
І пасьцелю сьнегавую
Я навокал пасьцялю.
Я пуховую пярыну
Па усёй зямлі раскіну,
Ўсё дазваньня пабялю.

І, гайсаючы па полю,
Мо’ чыю сустрэну долю:
Укладу, закалышу.
А за песьні-весялухі
Беласьнежнай завірухі
Адбяру ў яе душу.

Надарэмна бацька, маці
Будуць сына свайго ждаці, —
Бо ня вернецца ўжо ён.
Надарэмна жонка, дзеці
У вакно будуць глядзеці,
Адганяючы прэч сон.

Не шкадую я нікога:
Ні старога, ні малога,
Хто ў маю пасьцелю лёг,
Я, адна, ў бялюткім пуху —
Уладарка-завіруха —
На дарогах і ў палёх.

*29 кастрычніка 1941 г.*



39

## НОВАЙ ДАРОГАЙ

Новай дарогай іду, пазіраю
Сёньня вясёлы і горды.
Вецер прынёс мне з далёкага краю
Песьні вясновай акорды.

Сэрца мне поўняць мэлодыі,
Гукі
Самі складаюцца ў песьні;
Ведаю: Край мой, пазбаўлены мукі,
Нанава заўтра ўваскрэсьне.

Край дарагі мой упэўнена будзе
Долю сваю будаваці…
Краю радзімы! Гаротныя людзі!
Нельга пра вас не сьпяваці!

*3 лістапада 1941 г.*



## 40

## ЗДРАДА

Вёска зьнікла, а лёгкія сані
Ўсё лятуць у туман, у сьнягі...
Ты казала, мяне не абманіш
І ніколі ня будзеш з другім.

А сягоньня ў марознай дрымоце
Разьліваецца звон з-пад дугі...
Маё сэрца баліць у самоце,
Бо цябе абнімае другі.

Мабыць, сэрца жанчыны чароўнай
Таямніча, як сіні туман...
Там заўсёды жывуць палюбоўна
Абяцаньне і здрада-абман.

*3 лістапада 1941 г.*





41

## ЗІМА-ЧАРАЎНІЦА

На прасторах зіма-чараўніца
Лебядзіны рассыпала пух,
Красіць твары, як сонца суніцы,
Ветрам колкім захлупвае дух.

Ды ня нам гэтых ветраў пужацца,
Гэтых жартаў свавольнай зімы:
Па скрыпучаму сьнегу прамчацца
У нядзелю задумалі мы.

Пад праменьнямі сонца іскрыста
Зьзяе срэбрам пуховая бель.
Рвецца вецер шалёна, са сьвістам,
Нібы хоча спыніць наш разьбег.

Па раўніне, па ўзгорках, па схілах
Лыжы гонкія пішуць наш круг.
Ні мароз, ні вятры нас ня схіляць,
Не сатруць і не зломяць наш дух.

*7 лістапада 1941 г.*



42

## БРАТУ

Прачынайся, мой брат, мой нябога,
Прачынайся з адвечнага сну
Ды выходзь да шырокай дарогі
Сустракаць маладую вясну!

Станавіся пад сьцяг вызваленьня,
Каб суцішыць вайны землятрус,
Каб квітнела ў сваім адраджэньні
Дарагая мая Беларусь!

Прачынайся! Свой голас магутны
Загучэць па-свабоднаму змусь;
Па ўсім сьвеце няхай будзе чутны
Гучны кліч твой:
«Жыве Беларусь!»

*7 сьнежня 1941 г.*





43

## РОДНАМУ КРАЮ

Родны Край, людзьмі забыты,
Колькі ты пакуты зьнёс!
Колькі раз, чужынцам біты,
Праліваў ты мора сьлёз!

А ці раз твае палеткі
Спусташаў пажар вайны,
І расьсейваліся дзеткі —
Твае дочкі і сыны?!

Твае дзетухны-нябогі
Жабракамі ў сьвет ішлі,
Лёс пакутны, лёс убогі
На паказ людзям нясьлі.

І ці раз крывёю сэрца
Аблівалася ў грудзях,
Як у цяжкай паняверцы
Ты стагнаў, шукаў свой шлях?!

Колькі раз, мой родны Краю,
Над табой вісеў туман!..
А цяпер, хоць сьвет палае,
Ты шукай свой талісман!

*8 сьнежня 1941 г.*



## 44

### СВАЙМУ НАРОДУ

Узьнімайся, хто быў катаваны,
Хто адважны, хто мужны і дуж!
Нібы рэкі, вясной раскаваны,
На сваіх варагоў лютых руш!

Узьнімайся да плённае працы,
Скінь з павекаў адвечныя сны,
Ды будуй сваёй долі палацы,
Церабі доўгі шлях да Вясны!

Узьнімайся! Грамадаю дружнай
Выйдзі сьмела на вольны разлог!
Кроч да шчасьця чаканага мужна
Каляінамі трудных дарог!

Кінь адвечную жальбу і гора!
Бач, як зоры на небе гарацъ,
І над роднай зямліцы прасторам
Новай долі усходзіць зара?!

Узьнімайся-ж грамадаю дружнай,
Годзе ў горы і роспачы ныць;
Кроч да шчасьця чаканага мужна,
Церабі доўгі шлях да Вясны!

*15 сьнежня 1941 г.*







## ЗАКЛІНАНЬНЕ ЗІМЫ

Што ты, нямілая, лютая зімка,
Ў сховах трымаеш зямлю?!
Ці табе поўначы цёмнае, дзікае
Вольны прастор стаў ня люб?

Што ты халоднаю жудасьцю вееш,
Сьнегам заносіш палі,
Смуткам і жахам, сцьюдзёная, сееш
Ўсюды на роднай зямлі?

Згінь, прападзі! Дай убачыць на сьвята
Маці-краіну маю.
Променям сонца над роднаю хатай
Песьню хвалы я сьпяю.

Хай маё сэрца ад замеці лютай
Не супыняе біцьцё;
Хай у Радзіме, ад путаў раскутай,
Б'ецца струменем жыцьцё.

Дай мне убачыць над роднай зямліцай
Працы свабоднае плён,
Дай мне пачуць, як ліецца крыніцай
Ворагу вечны праклён!

*25 сьнежня 1941 г.*



## 46

Гнула, гнула вішаньку, —
Не сагнула:
Легла я пад вішаньку
Дый заснула.

Легла я пад вішаньку
Дый заснула,
Як прыехаў міленькі —
Не пачула.

А прыехаў міленькі
З гарадочку
На пару кароткую —
Адну ночку.

Я-ж яго ня бачыла:
Я праспала,
Ці кахае міленькі
Ня спытала.

Прападзі-ж ты пропадам,
Сон дзявочы!
З-за цябе я выплачу
Кары вочы.

*29 студзеня 1942 г.*





47

## ДАГАРАЮЦЬ ДРОВЫ

Дагараюць апошнія дровы,
Уецца сінімі зьмейкамі чад.
У часы завірухі зімовай
Я жыцьцю свайму нават ня рад.

У пару завірухі зімовай
Сэрца прагне вясны і цяпла,
Хоча суму цяжкія аковы
Спапяліць на вугольлі датла.

Дагараюць апошнія дровы,
Уецца зьмейкамі чад угары.
Не парваўшы нядолі аковы,
Няпрыкметна й жыцьцё дагарыць.

*7 лютага 1942 г.*



## МАЛАДОСЬЦЬ

Языком сасмаглым
вецер землю ліжа,
Языком сасмаглым
вецер ліжа сьнег.
Хай мароз сіберны
твар і цела ніжа, —
Не заб'е ён мары,
мары аб вясьне.

Жорсткі сьнег рыпліва
пад нагамі енчыць,
Ды імкнуцца крокі, —
ня спыніць іх бег!
Маладосьці нашай
няпрыстойна кленчыць;
Не сагнуць ёй шыю
ні мароз, ні сьнег.

Маладосьць заўсёды
пераможным маршам
Непахісна мкнецца
ў новых дзён прасьцяг.
Дадае нам сілаў,
грэе сэрцы нашы
Бел-чырвона-белы
над Радзімай сьцяг.

*21 лютага 1942 г.*







## СЯБРУ

*Лявону Случаніну*

Табе, як сябру і паэту,
За дружбу цёплую тваю,
Сяброўскай ласкаю сагрэты,
Ад сэрца шчырага пяю
Я гэту песеньку сваю.

Свае найлепшыя парывы,
Агонь душы і сэрца жар
Нясеш ты ў сьпеве гутарлівым
Любімай Бацькаўшчыне ў дар,
Як верны сын яе й пясьняр.

І ты, як чулы сын народу,
Гарыш агнём ягоных дум.
Калі-ж душу ў часы нягоды,
Як ланцугом, зацісьне сум, —
Сьпявай пра шчасьце і красу!

Няхай цьвіце на роднай глебе
Твой сьпеў, як гожы васілёк;
Хай ён лунае ў родным небе,
Як лёгкакрылы матылёк
Лунае ў сонечных палёх!

*23 сакавіка 1942 г.*



## НЕ СУЦЯШАЙ

Не суцяшай!.. Ласкавым словам
Ты не загоіш сэрца боль,
Бо хто ў зямлі сырой пахован,
Не ажыве ніколі больш.

Усё, што ўзятае магілай,
Ня можа к сонцу мець зварот.
Ты не заменіш сэрцу мілай,
Хоць апячэш цалункам рот.

І мы, нібы ад буралому, —
Час прыйдзе — ляжам у зямлю.
Дык не заві-ж мяне к былому
І ня пытай, хто сэрцу люб.

Не суцяшай!.. Яна з магілы
Ка мне ужо ня прыйдзе больш...
Ты-ж не заменіш сэрцу мілай
І не загоіш сэрца боль.

*16 красавіка 1942 г.*





## 51

### УСПАМІН

Ціха... Ноч... Аксамітавы змрок...
Мы у садзе пад белаю вішняй,
Перайшлі запаветны парог
І насустрач нязнанаму вышлі.

І тады ў тую цёплую ноч
Мне шаптала зялёнае вецьце,
Што пагляд васілёчкавых воч
Не дарыла нікому ты ў сьвеце.

Верыў я і жадаў яшчэ больш
Патануць у пяшчотах каханьня,
Піць, забыўшы мінулага боль,
Пацалункі да сіняга раньня.

Каб я мог, я хацеў бы ў касу
Уплясьці табе нізанку зорак,
Ды зьнячэўку рассыпаў расу
Па мурожнай траве новы золак.

*19 красавіка 1942 г.*



## 52

Хоць як ні жыві ты:
Пануй ці мадзей, —
Спагады ня знойдзеш
Ніколі ў людзей.

Ці ён — твой знаёмы,
Калега, сваяк, —
Бліжэй яму к целу
Сарочка свая.

Ці восень, ці лета,
Вясна, ці зіма, —
Знаёмых ёсьць процьма,
А сябра няма.

Жыві-ж, пакуль долю
Па крошцы зьбярэш,
Або, як сабака,
Пад плотам памрэш.

*24 красавіка 1942 г.*



## ДАЙЦЕ КРЫЛЬЛЕ!

Дайце магутнае крыльле!
Я палячу да нябёс.
Там, дзе вятры завіхрылі,
Можа, здабуду свой лёс.

Буду змагацца з вятрамі,
Біцца насьмерць, да крыві,
Покуль магутнае раме
Не распрастае крывіч.

Буду змагацца да змогі.
Покуль час прыйдзе ўміраць,
Можа, прышле мне падмогу
Наша бунтарная раць.

Стаўшы магутнай гурбою,
Зможам віхровы хаўрус,
Грымнем наш кліч пасьля бою:
«Жыў і жыве беларус!»

*1 травеня 1942 г.*



54

## Я НЯ ПЛАКАЎ БЫ...

Апрануўшы схудзелыя плечы
Лахманамі убогай сукні,
Я пайду па шляхох чалавечых
Па зямлі у пякельным агні.

На плячах спрацаваных, сагнутых
Непасільнаю працаю ў крук,
Міма твараў пыхліва надзьмутых
Пранясу, як нагноены струп,

Сваю крыўду, адвечнае гора.
Хай глядзіць і дзівуецца сьвет,
Няхай людзі пытаюць-гавораць:
«Чаму жаласна плачаш, паэт?»

Адкажу, не хаваючы болю:
«Я ня плакаў бы болей нідзе,
Каб народ мой знайшоў сваю долю,
І заняў свой пасад між людзей!»

*1 травеня 1942 г.*



55

## ЛІРЫ

Ты чаго сумуеш,
Ліра песьнярова?
Ці ты гора чуеш,
Ці мо' нездарова?

Кінь журыцца, ныці,
Засьпявай вясёла,
Як у сьпелым жыце
Наліваны колас!

Засьпявай, сяброўка,
Аб каханым краю,
Як пяе салоўка
На сьвітаньні ў гаю!

Рассыпай навокал
Трэлі дзіўных тонаў,
Каб пайшлі у скокі
Нівы і загоны!

Дык пакінь журыцца,
Ліра песьнярова.
Хай пяе, іскрыцца
Матчынае слова!

*16 травеня 1942 г.*



Мілы жыта сеяў,
Я за ім грамадзіла;
Ён са мной кахаўся.
Я яго прынадзіла
Русаю касою,
Юнаю красою.

Завітаць учора
Абяцаўся міленькі,
Разагнаць мой смутак,
Прыгалубіць шчыранька.
Ждала я мілога
З просьбаю да Бога.

Я прасіла Бога:
— Божа мой каханенькі,
Прынясі мілога
Да мяне ты раненька.
Цяжка мне, марозна
Жыці з мілым розна.

Рана ці ня рана,
Хоць парою познаю
Хай прыедзе мілы мой
З думкаю нягрознаю.
Сумна мне, маркотна
Дзеўчыне самотнай.



## 57

Хай прыедзе мілы мой,
Як сьцямнее вокала.
Пра жыцьцё, здароўечка
Запытаю ў сокала:
Ці жывы-здаровы,
Чаго хмурыщь бровы?

*30 травеня 1942 г.*



58

## ВЕЧАР

Луг, палеткі апавіты
Срэбнай ватай туману...
Вечар мяккі, сакавіты
У вільгоце патануў.

У саду салоўка звонка
Расьпявае ў гольлі сьліў.
Вечар дзіўную гамонку
Над прасторамі разьліў.

Па вадзе лагоднай рэчкі
Чуцен вёслаў лёгкі ўсхліп.
Вечар дзіўны на парэчкі
Галаву сваю схіліў.

Апавіўшы цемрай сёлы,
Кудры клёнаў, вежы ліп,
Вечар пахкі, вечар кволы
Да вакна майго прыліп.

*31 травеня 1942 г.*





## 59



Я пасею песьні
На радзімых гонях,
Можа, яны ўзыйдуць,
З ветрам загамоняць;

Зашумяць, як жыта
Буйнае калосьсем;
Загудуць мо' ў небе
Сьпевам-сугалосьсем;

Новаю пагудкай
Зазьвіняць-заграюць,
Каб суцішыць гора
Дарагога Краю.

Буду сеяць песьні
На радзімых гонях,
Хай цьвітуць, красуюць
І нуду прагоняць;

Хай ляцяць іх тоны,
Як у небе гусі,
І пяюць аб долі
Маці-Беларусі.

*6 чэрвеня 1942 г.*



60

## ЖНІЎНЫМ ВЕЧАРАМ

Жніўным вечарам задумным
Ты ішла сярод жанок,
З карагодам несла шумным
Залатых жытоў вянок.

У вяночку тым зьвілося
Жыта буйнае калосьсе;
Між калосься — васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

Прыпыніўшыся на грудзе,
Я ўдыхаў жытоў цяплынь,
І лілася ў мае грудзі
Песьняў радасная плынь.

Гэтых жніўных песьняў хвалі
Маё сэрца хвалявалі,
Бо ў тых песьнях — васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

На ўспамін аб днёх шчасьлівых,
Нібы ў гожыя вянкі,
Я у песень пералівы
Уплятаю васількі.

«Бо няма таго цьвяточка,
Што мілей над васілёчка.»
Цешаць сэрца васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

*6 чэрвеня 1942 г.*





**61**

## РОДНАЕ СЛОВА

Над палеткамі роднага краю
Пранясלася пажога вайны,
Спапяліла шалёную зграю,
Абудзіла спрадвечныя сны;

Разбудзіла радзімую мову
І яна паляцела у сьвет.
Беларускае роднае слова,
Я вітаю цябе, твой паэт!

Ты ўзышло на суцэльных руі́нах,
Цёплай ласкай сагрэла душу.
Над маёю зьнядбанай краінай
Хай плыве няўміручы твой шум;

Абдары сваёй ласкай сардэчнай
Нашы мары, надзеі і дні;
Няўміручае, сьпеўнае! Вечна
Над калыскай дзіцячай зьвіні!

Сей разумную праўду народу,
Абуджай, заклікай і вядзі.
Як паходня ў баях за свабоду
Беларускаму люду сьвяці!

*23 ліпеня 1942 г.*
*6 верасьня 1994 г.*



62

## НА СКОНЕ ДНЯ

Дзень сканаў...
На захадзе хмурлівым
Адцьвіла ружовая зара,
І тушыла бляскаў пералівы
Хмараў буйных цёмная гара.

Дзень сканаў,
І ночка-гаспадыня
Атуліла стомлены абшар.
Толькі сэрца ў цемрыве ня стыне:
Там гарыць майго каханьня жар...

*7 жніўня 1942 г.*





## 63



Часам стане сумна дужа…
Каб разьвеяць гэты сум,
Паплыву я, мілы дружа,
На чаўне шчасьлівых дум.

Паплыву я у краіну
Шчасьця, ласкі і красы,
Каб сьпяваць, а сум свой кінуць
На сухія верасы.

Дык плыві са мною, дружа,
На чаўне шчасьлівых дум;
Хай віхры над намі кружаць,
Разганяюць песьняй сум!

*20 верасьня 1942 г.*



64

## ВОСЕНЬ

Вецер гайсае па сьвеце,
Кружыць над бруднаю лужай.
Вецьце сумуе аб леце,
Тужыць аб сонейку дужа.

Поле залітае зольлю,
Сьніцца яму бліскавіца.
Доля у нас без патолі,
Рдзіцца ня можа зарніцай.

Лісьце (ня так, як калісьці)
Геры іграе на леры.
Выйсьця шукаем мы ў сьвісьце,
Верачы ў шчасьце бяз меры.

*20 верасьня 1942 г.*





65

## ДОБРА

Добра ў сярбрыстую ночку
Зор залатых пільнаваць,
З мараў сплятаці вяночкі,
Думкі аб шчасьці снаваць.

Добра глядзецца у просінь
Срэбрам затканых нябёс,
Слухаць, як жоўтая восень
Лісьце цярусіць на плёс...

*25 верасьня 1942 г.*



3 Зак. 365

## КРАІНЕ

Мілая Маці-Краіна,
Любая сэрцу да сьлёз!
Плакалі мы, што ты гінеш,
Бачылі чорны твой лёс.

Доўга жыла ты ў прыгоне,
Гора цярпела і зьдзек...
Верылі мы: не заслоняць
Хмары твой сонечны дзень.

Верылі: зьнікнуць напасьці,
Прыйдзе канец барацьбе,
Кветка Купальская шчасьця
Будзе цьвісьці для цябе!

Час прамінуў... Нашы путы
Зьбіты магутнай рукой.
Верым душою раскутай:
Прыйдзе вясна і спакой.

З радасьцю, з гордасьцю бачу:
Зьнік з тваіх вочаў дакор;
З вераю моцнай ва ўдачу
Тчэш сваіх дзён чантыкор.

Мілая Маці-Краіна,
Любая сэрцу да сьлёз!
Ведаю, ты не загінеш;
Сэрцам я чую твой лёс.

*27 верасьня 1942 г.*





## 67



Як зірну я ў бяздонныя вочы,
На крамянасьць грудзей і плячэй, —
Так і хочацца ў срэбныя ночы
Выпіць сум з васількковых вачэй;

Піць яго пакрысе, паступова,
Каб самому быць п'яным у дым,
Каб з тваёй маладосьцю нанова
Адчуваць і сябе маладым;

Піць цалункі — кавалачкі долі,
Каб у сэрцы пажар затушыць
І забыць, што на сьвеце ёсьць болі:
Болі сэрца і чулай душы.

Глупства ўсё: і багацьця чырвонцы,
Калі ёсьць вось такая, як ты, —
Што сагрэе мяне так, як сонца
Саграває прастор залаты.

*28 верасьня 1942 г.*



## АГОНЬ ДУШЫ

Агонь маёй душы ў прасторы
Ня згасьне сьвечкай васкавой.
Ён будзе ў радасьці і ў горы
Сьвяціць паходняй баявой.

І, дзе сьвятло яго пральецца,
Мой родны брат — Беларусін
Ад сну цяжкога атрапнецца,
І — што ён варт — пакажа ўсім.

*7 сьнежня 1942 г.*



69

## ПАРОША

Эх, дзянёк які харошы!
А паветра — нібы хмель...
Сёньня выпала пароша,
І срабрыцца ўсюды бель.

Я іду... А песьня птушкай
Вырываецца з грудзей;
Залатыя сьнегу стружкі
Робяць сэрца маладзей.

Эх, дзянёк які харошы!
Навакол іскрыцца бель.
Сёньня выпала пароша,
Разьліла ў паветры хмель.

*1 лютага 1943 г.*



70

## ДАВОЛІ

Даволі плакаць і журыцца,
Сыны крывіцкае зямлі,
Даволі сьлёзы крыўды ліць!
Хіба-ж над намі ня іскрыцца
Свабоды новая зара;
Ня йдзе шчасьлівая пара?

Браты, зірнеце! Перад вамі —
З руінаў, з вогнішчаў вайны,
Дзе колісь нашыя сыны
Сваімі слалі галавамі
Для зорнай будучыні шлях, —
Раджае волатаў зямля.

Яна радзіла нашу сілу.
«Пагоні» роднай белы конь,
І меч у коньніка — агонь —
Нясуць для ворагаў магілу;
А нам, крывіцкія сыны, —
Сьвятло шчасьлівае вясны.

Даволі-ж плакаць і журыцца,
Сыны крывіцкае зямлі,
Даволі сьлёзы крыўды ліць!
Над намі зорамі іскрыцца
Свабоды ясная зара,
Ідзе чаканая пара.

*1 лютага 1943 г.*



## РАДЗІМЕ

Над табой, дарагая Радзіма,
На тваіх васількових прасторах,
Лютавалі шалёныя зімы,
І скуголіла ў роспачы гора.

Але ты, нібы волат-асілак,
Непахісны, цярплівы і дужы,
Не сагнутая іхняю сілай,
Не скарылася сіверу-сьцюжы.

І сягоньня, пасьля дзікіх зімаў,
Іх сібернага скогату-песьні,
Ты выходзіш нязломнай, Радзіма,
На простор і чакаеш прадвесьня.

*9 лютага 1943 г.*



## НЯ КУВАЙ

Ня кувай, зязюля,
у зялёным гаю,
Бо цябе у сьведкі
я не пазаву.
Ня кувай, зязюля,
я не загадаю,
Я не загадаю,
колькі пражыву.

Для чаго мне жыці
і цярпець пакуты?!
Дык нашто аб жыцьці
у цябе пытаць,
Калі ў родным краі,
ланцугамі скуты,
Не магу спакойна
ні заснуць, ні ўстаць?

*13 лютага 1943 г.*



# 73



Прылятае з вясной лёгкакрылай
Сонцавейнае радасьці зьніч.
Я выходжу, каб песьняю шчырай
Прывітаць нашы новыя дні.

Абагрэтая ласкаю шчырай,
Мкнецца ў далі дарога жыцьця...
Так і хочацца звонкаю лірай
Сеяць песьні па Краю наўсьцяж.

Над маёю Радзімай прадвесьне
Рассыпае пяшчотаў цяпло.
І цьвітуць мае звонкія песьні
Каляровай вясёлкаю слоў.

*4 красавіка 1943 г.*



## 74

Мне народ падарыў сваё сэрца.
У гэтым сэрцы надзеі жывуць;
Яны сьцелюцца гожым каберцам,
Хоць вакола — вайны каламуць.

Хоць вакола — глыбокія раны
Болем цісньуць Радзіму маю, —
Веру: край, ад вякоў рабаваны,
Знайдзе некалі долю сваю.

І тады, упрыгожаны ў краскі,
Зазіхціць ясным сонейкам дзень,
Прынясе сонцавейныя ласкі
Шчасьця новага сьвежы струмень.

Хоць вакола — глыбокія раны,
Хоць у сэрцы пакута і боль, —
Я вітаю народжаны ранак,
Што прагоніць асеньнюю золь.

*11 красавіка 1943 г.*





**75**

## ЖАЎРУК

Яшчэ сонца ня ўстала з пасьцелі,
Не прамыла расою вачэй,
А ўжо з неба дзівосныя трэлі
Раз-па-разу ліюцца званчэй.

Ці аматар-музыка ў блакіце
Рассыпае званочкі ў прастор,
Ці то струны — чароўныя ніці,
Ці анёлаў сьпяваючых хор?

То ня арфы цудоўнае граньне,
Ня ігра чарадзеевых рук, —
Гэта ў небе, вітаючы раньне,
Расьпявае шчасьлівы жаўрук.

*12 красавіка 1943 г.*



## 76

## БЕЛАРУСУ

Годзе пець сумныя песьні,
Годзе ўжо плакаць, тужыць;
Скінуўшы покрывы плесьні,
Трэба змагацца і жыць!

Помняць збалелыя плечы
Зьдзекі, мінулы прымус...
Трэба жыццём чалавечым
Жыць і табе, беларус!

Трэба вясёлкавай песьняй
Нашу расквеціць зямлю;
Трэба, каб ранак прадвесьня
Сэрцу быў дораг і люб!

Хай расьцьвіце васількамі
Праўды сьвятое прамень;
Хмарай закрыты вякамі,
Выблісьне сонечны дзень!

Годзе-ж пець сумныя песьні;
Помнячы зьдзекі, прымус,
Скінуўшы покрывы плесьні,
Годзе тужыць, беларус!

*31 травеня 1943 г.*



## 77

## ГАДЫ ПРАМІНАЮЦЬ

Гады прамінаюць,
віхраць у прасторы;
Адтуль ім звароту няма.
Які з іх шчасьлівы,
няшчасны каторы, —
Ня знае мо' й доля сама.

А кожны з нас хоча
і шчасьця, і волі,
І кожнаму хочацца жыць.
Ды толькі патрэбна
жаданую долю
У жорсткім змаганьні здабыць.

Шчасьлівую долю
ня кожны знаходзіць,
Ня кожны, хто хоча яе.
Жывым у змаганьні
мацнейшы выходзіць
І гімн перамозе пяе.

Гнілое, благое
і слабае духам
Загіне і згубіць сьляды;
Зьмяцецца, як пыл
у часы завірухаў,
І новае ўстане тады.

## 78

Дык хай сабе годы
лятуць у прасторы,
Зьмяняючы крокі падзей.
Які з іх шчасьлівы,
няшчасны каторы, —
Залежыць ад нас, ад людзей.

*1 чэрвеня 1943 г.*



Жыцьцё — нібы мора:
Ягоныя хвалі
Пужаюць і вабяць мяне...
Аб клятым Учора —
Ні капелькі жалю...
Хай клятае Ўчора міне!

Хаця яшчэ Сёньня
Віруе у далях,
Дзе чуецца рокат глухі, —
Міну я прадоньне
Разьюшаных хваляў
І выйду на бераг сухі.

Я сілаю волі
Скірую мой човен,
Упэўнена рушу ў прасьцяг.
І выплыву к долі,
Надзеямі повен
На сьветлае Заўтра жыцьця.

*4 чэрвеня 1943 г.*

## НОЧКА

Ночка з чорнае кудзелі
Нітку доўгую прадзе,
Знекуль думкі наляцелі:
«Ці прыжду я новы дзень?»

Час ідзе хадой пачварнай;
Ды ў маруднай той хадзе
Хтось рукою уладарнай
Тушыць зоры, блізіць дзень.

Ночка ходзіць за ваконцам,
Нітку доўгую прадзе...
Дзе ты, радасьць?
Дзе ты, сонца?
Дзе ты новы сьветлы дзень?

*6 чэрвеня 1943 г.*



## 81

Чорнай птушкаю ночка засьне,
Мігацяць залацістыя зоры;
Разам з імі ў пакутлівым сьне
Абыходжу Радзімы prасторы.

Бачу я, што паўсюдна вайна
Прынясла незалечныя раны;
Дзе віхурай прайшлася яна —
Нівы кроўю заліты, стаптаны.

Ліхаімцы рабуюць дабро,
Забіваюць жанок, малалетак,
Разьліваюць нявінную кроў
І драсуюць сялянскі палетак.

Ды жыве яшчэ вера ў вачах
Юных носьбітаў нашай свабоды.
Любы край наш яшчэ не зачах, —
Яго веліч убачаць народы.

Прыйдзе час — лепшай долі гады, —
Мы залечым крывавыя раны.
Загучыць тады сьмех мапады
На prасторах, красою убраных.

*6 чэрвеня 1943 г.*



82

## РАЗМОВА З ВЕТРАМ

— Буйны вецер, сябрук гутарлівы!
Раскажы, не хавайся ад нас:
Ці прыждом, каб над Краем шчасьлівы
Промень долі ніколі ня гас?

— Ня сумуй, не бядуй! — кажа вецер, —
Беларусь яшчэ ўстане ад сну;
Яе доля ня блудзіць па сьвеце,
Яна ў муках народзіць Вясну.

*16 чэрвеня 1943 г.*





**83**

## МОЛАДЗІ

Табе, наша моладзь, ад шчырага сэрца
Мы дорым пачуцьцяў агні.
Твой сьцяг вызваленьня над краем ўзаўецца,
І воляй аквецяцца дні.

Ты — нашая сіла і наша надзея!
Магутнымі ўзмахамі крыл
Прагоніш нядолю і шчасьце пасееш,
Расквеціш зарой небасхіл.

Жыві-ж і красуйся на радасьць і славу
Свабоднай, васкросшай зямлі!
Жадаю ад сэрца, каб вашыя справы
Прыгожаю кветкай цьвілі.

*21 чэрвеня 1943 г.*



## ШПАКІ

У садочку дружным хорам
Песьняй цешацца шпакі;
Селі, быццам па згавору,
Упрыгожыўшы узорам
Гольле дрэва і сукі.

Не наслухацца, так міла
Засьпявалі на вярбе.
Што за гукі, што за сіла,
Маё сэрца паланіла,
Прыкавала да сябе!

Тыя гукі шчабятаньня —
Дань міжвольная журбе;
Гэта — песьня адцьвітаньня;
Гэта — з летам разьвітаньне
Чую сёньня на вярбе.

*3 жніўня 1943 г.*



85

## НЯ ПЫТАЙ

Ня пытай, чаго ўздыхаю
Раз-па-разу гарачэй;
Ня пытай, ці я кахаю
Сінь вазёрную вачэй.

Ня пытай, куды імклівіць
Ручаінка думак-мар;
Ня пытай, ці я шчасьлівы
Ў цяплыні дзявочых чар.

Ня пытай, аб чым я мару
Вечароваю парой.
Калі водблескам пажару
Сонца зьнікне за гарой.

Ня пытай, ці сэрца звоніць,
Калі ты у час такі
Валасы мае і скроні
Песьціш дотыкам рукі.

Ня пытай, чаму іскрыста
Зіхацяць каралі слоў,
І чаму я так срабрыста
Рассыпаю дум цяпло.

Ня пытай, чаму ня плача
Залацісты летні дзень.
Ня пытай!.. Сама ты бачыш:
Я шчасьліўшы ад людзей.

*3 жніўня 1943 г.*

## ЛЯ РЭЧКІ

Нямытае неба. Заспаныя хмары
Паволі над рэчкай плывуць,
І месяц двурогі ня кідае чары
На хваляў рачных каламуць.

Ад подыху ветру чарот, нібы п'яны,
Хістае-калыша галоўкі свае.
І вобраз каханай з пуховых туманаў
У дзіўнай красе паўстае.

І томяцца грудзі салодкім жаданьнем
Той вобраз чароўны пяшчотай абвіць,
Напіцца бальзаму з крыніцы каханьня,
Каб раны душы загаіць.

*22 жніўня 1943 г.*



## 87

Адплылі каласістыя дні
У бязьмежныя сінія далі.
Ў небе гусі шнуркамі караляў
Праплылі над абшарамі ніў.
На палетках, калючых ад жніў,
Ветры песьні свае засьвісталі.
Неба шэрага нудныя далі
Не асьвецяць маланак агні.

Прытуліўся да плоту, прылёг
І так жаласна плача-скуголіць,
Просіць сонцавай ласкі, патолі
Пасівелы ад часу быльнёг.
На мяжы сірата-васілёк
Шэпча ветру пра сумную долю.
У зрудзелым, бязрадасным полі
Толькі ён цешыць сэрца здалёк.

Восень яркаю медзьдзю згары
Асядае на клён і каліну,
І туман свае чары накінуў,
Каб схаваць ясны погляд зары.
Не хачу аб журбе гаварыць,
Толькі восень любіць не пакіну.
Я кахаю яе, як жанчыну,
Аж да самай зімовай пары.

*18 верасьня 1943 г.*



## ДА ШЧАСЬЛІВЫХ ДЗЁН

Грамадою шчыльнай, дружнай, —
Да пляча плячо —
Крочым сьмела мы і мужна
Да шчасьлівых дзён.

Не бяда, калі міжвольна
Сум блісьне ў вачох!
Перад намі ў далях вольных
Ясны шлях відзён.

Ні маланак бліскавіцы,
Ні грымотаў грук
Нас ня змусяць супыніцца,
Наш ня збочаць крок.

Ёсьць у сэрцы ў нас навага —
Сіла нашых рук...
Біцца з ворагам з адвагай
Мы далі зарок.

І мы ўсе гарым жаданьнем:
Датрымаць зарок,
Выйсьці з гэтага змаганьня
Да шчасьлівых дзён.

Сіле віхараў свавольных
Ня спыніць наш крок,
Бо прад намі ў далях вольных
Ясны шлях відзён.

*22 верасьня 1943 г.*



Ты прыйдзі, як засьвецяцца зоры
Дыяментамі ў высі нябёс.
Сядзем побач з табой, пагаворым
Пра жыцьцё, пра каханьне і лёс.

Будзем слухаць пад вэлюмам ночы
Таямнічай вясны галасы,
Буду ласкава зорыць у вочы,
Буду песьціць твае валасы.

Абніму я цябе і пяшчотна
Пацалункамі ўкрыю чало.
Я забуду аб долі самотнай,
Як адчую каханьня цяпло.

Месяц к нам у акенца загляне,
Усхвалюе пачуцці, й бяз сну
Я сустрэну ружовае раньне
І яшчэ раз услаўлю вясну.

Ты прыйдзі, майго сэрца жаданьне,
Без цябе болей жыць не магу.
Ты прыйдзі! Я ўсю сілу каханьня
Для цябе аднае берагу.

*19 лістапада 1943 г.*

## У САДЗЕ

Вясновым сонцам сад расквечан;
Пялёсткі сыплюцца, бы сьнег,
Яны і ўранку і пад вечар
Пяюць аб ласкавай вясьне.

Бялее сад, бялее вёска.
Снуюцца думкі ў галаве;
А я ляжу ў пуху пялёсткаў
На мяккай шоўкавай траве.

І так прыемна маім вочам
Сачыць за росквітам вясны,
Якая радасьць мне прарочыць
І навявае крозы-сны.

*20 лістапада 1943 г.*



91

## ВОРАГАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Чаго вам хочацца, сатрапы?
Нашто вам трэба наша кроў?
Нашто рвяцё агіднай лапай
З кагорты нашай змагароў?

За што вы помсьціце, скажэце?!
Хіба за тое, што яны
Вучылі нас, як жыць на сьвеце
Бяз крыўды, зьдзекаў і маны?

Няўжо вы хочаце наганам
Спыніць за Бацькаўшчыну рух,
Сваёю сілаю паганай
Здушыць крывіцкі вольны дух?

Няўжо вы хочаце прымусіць
Крывіцкіх доблесных сыноў
Зрачыся Маці-Беларусі
І пад прыгон пайсьці ізноў?

Ня ўдасца вам, забойцаў зграя,
На Беларусь надзець хамут!
Вам ня гуляць у нашым краі,
Ня цешыць сэрца звонам пут!

Дарэмны вашы намаганьні:
Жыў беларус і будзе жыць!
Ён сам здалее у змаганьні
Свой шлях да волі пралажыць!

## 92

Вы ня спужаеце нас болей
Пагрозай сьмерці з-за вугла;
І, шлях цярэбячы да волі,
Мы зьнішчым вас усіх датла.

Надыйдзе грозны час расплаты!
За кроплі нашае крыві, —
Ня хопіць вам, забойцы-каты,
Ўсёй вашай чорнае крыві.

*14 сьнежня 1943 г.*



93

## З НОВЫМ ГОДАМ!

З Новым Годам!
З новым шчасьцем,
Вас вітаю, крывічы!
Хай сягоньня ў вашай хаце
Сьмех вясёлы загучыць!

Мы ня марна працавалі,
Год Стары ня зганьбіў нас:
Мы сваё жыцьцё кавалі,
І наш горан не пагас.

Я хацяў баёх за долю
Паў ахвярай не адзін,
Ды каваць для нас няволю
Мы нікому не дадзім!

І хай Год Стары аб стратах
Нас прымусіў патужыць, —
Беларусь дажджэцца сьвята,
Беларусы будуць жыць!

Хоць ад тых крывавых ранаў
І цяпер нас боль пячэ,
Край, вякамі рабаваны,
Досыць мае сіл яшчэ.

Новы Год нясе надзею,
Што у жорсткай барацьбе,
Сілай мужнасьці, у дзеях
Волю выкуем сабе.

## 94

Мы збудуем на руінах —
Згуртаванаю сям'ёй —
Долю роднае краіны,
Шлях да вольнасьці сваёй.

Дык сьмялей у бой з напасьцяй
У змагарны гэты час!
З Новым Годам,
З новым шчасьцем,
Крывічы, вітаю вас!

*24 сьнежня 1943 г.*



95

## НОВАГОДНІЯ ДУМКІ

Яшчэ адзін змагарны год
Сышоў з жыцьцёвай явы...
Хоць мелі ў ім мы шмат нягод, —
Ён быў і годам славы.

Яму на зьмену Новы йдзе,
Сьнягамі ахрышчоны...
Каму: ці шчасьцю, ці бядзе
Ён — бацька нарачоны?

Ці-ж нам аб гэтым варажыць,
Сядзець, чакаць патолі?!
Калі па-людзку хочам жыць, —
Каваць выходзьма долю!

Ніхто ня знае загадзе,
Што нам рыхтуюць годы...
Нас, можа, Новы павядзе
Да шчасьця, да свабоды.

*1 студзеня 1944 г.*

96

## МАЦІ

Маці! Ня плач, ня журыся,
Сьлёз дарагіх не рані,
Думкам ліхім не карыся,
Роспач ад сэрца гані!

Цяжка — я ведаю — маці,
Сына чакаці з вайны,
Думаць аб долі дзіцяці,
Бачыць нядобрыя сны.

Вер, што твой сын не загінуў,
Шчасьце ня здрадзіць яму,
Ён абміне дамавіну,
Хоць і нацерпіцца мук.

Зло не заўсёды на сьвеце;
Пройдзе навала нягод, —
Новай зарою засьвеціць
Шчасьця народнага ўсход.

Вер, што цябе абароніць
Твой ненаглядны сынок.
Пацеркі-сьлёзы аброніць
Радасьць матуліна зноў.

Прыйдзе жаданая доля,
Сядзеш ты з сынам за стол.
Маці! Цябе аніколі
Больш не пакрыўдзіць ніхто.

*1 студзеня 1944 г.*

97

## ДАЛАКОПАМ

Гэй, выходзьце, браты-далакопы!
Час глыбокую яму капаць,
Каб нядолю-няволю краіны
Назаўсёды у ёй пахаваць.

Ня пужайцеся цяжкае працы
І што ў вас на руках мазалі,
Бо ідуць грамадою шматлікай
На ўспамогу да вас кавалі.

Яны выкуюць з моцнае сталі
Гартаваную схову-труну,
Каб нядолю-няволю краіны
Там на вечныя векі замкнуць,

Ды укінуць труну тую ў яму;
Вам-жа трэба зямлёй засыпаць.
Дык выходзьце-ж, браты-далакопы,
Для нядолі магілу капаць!

*3 студзеня 1944 г.*



4 Зак. 365

Грыцко ЧУПРЫНКА

## БАЦЬКУ
(вольны перасьпеў)

Бацька, пакінь галавою панураю
Роспачна-горна ківаць!
Час ліхалетні мне грознаю бураю
Сіл не здалеў падарваць.

Ёсьць у меня яшчэ сіла кіпучая,
Сэрца стамілася ныць.
Кліча нас блізкая доля квітучая,
Хто-ж мяне можа спыніць?!

Сэрца мне поўніць жаданьне адзінае:
Хочу змагацца і жыць.
Што-ж мяне стрэне наступнай гадзінаю, —
Рана яшчэ варажыць.

Шчасьце, зьмяшанае з горкай атрутаю,
Можа, і стрэну я дзе;
Толькі ты ведай: з няпраўдаю лютаю
Сын твой змагацца ідзе.

Хто не змагаўся з ліхою гадзінаю,
Дань не аддаў барацьбе, —
Хай пахавальную, хай лебядзіную
Песьню сьпявае сабе.

Вер: налюцца жывільнымі сокамі
Вольныя нашы палі;
Мы яшчэ ўзьнімем да неба высокага
Славу сваю, як калісь!

*З украінскае мовы.*
*7 студзеня 1944 г.*







## ЮНАЦКІЯ ГОДЫ

(Трыялет)

Адляцелі юнацкія годы
У далёкі, няведамы вырай.
Нібы гук ледзь кранутае ліры,
Адляцелі юнацкія годы.
Не вярну я малітваю шчырай
Віхрабежныя іх карагоды...
Адляцелі юнацкія годы
У далёкі, няведамы вырай.

*14 студзеня 1944 г.*







## МОЙ ДУХ

(Трыялет)

Мой дух ня страціў маладосьці,
Хоць пачалі срабрыцца скроні;
Хоць да магілы старасьць гоніць,
Мой дух ня страціў маладосьці.
Жыцьцё яшчэ у сэрцы звоніць,
Крынічаць думкі весялосьці...
Мой дух ня страціў маладосьці,
Хоць пачалі срабрыцца скроні.

*14 студзеня 1944 г.*



## НЯ ЗДРАДЗІМ КРАЮ

*І.Н.Хіхлушу*

Былі часы... Цяжар няволі
Хаваў ад нас блакіт нябёс.
Ісьці цярністаю дарогай
Наканаваў нам жорсткі лёс.

І мы ішлі... Даўгія годы
Цярпелі зьдзекі і прымус;
Ды выбіў час: пад громы буры
Ідзе да волі беларус.

Пад сьвіст суворай навальніцы,
Пад гул разгневаных стыхій,
Любоў да маці і Радзімы
Злучыла лёсы і шляхі.

І сёньня мы напорным крокам
Прастуем сьмела у жыцьцё.
Дае нам сілу, гарт і мужнасьць
Стыхіяў грознае выцьцё.

Зьмяніць кірунак, здрадзіць Краю
Суворы лёс ня змусіць нас.
Мы будзем роднай Беларусі
Сынамі вернымі ўвесь час.

*14 лютага 1944 г.*





## МОЙ АДКАЗ

Мне кажуць так:
«Ня псуй паперу,
закінь у запечак
пяро,
Бо прыдуць «нашы»
і, халеру, —
цябе —
пасадзяць у астрог;

Або прашыюць
куляй грудзі
І цела
кінуць бяз труны;
Цябе навек
забудуць людзі,
Твой труп
расьцягнуць груганы.

Ты не заслужыш
гучнай славы,
Не нажывеш
багацьця ты,
Ня ўбачыш сонца
твар яскравы,
Не для цябе
агонь сьвяты!»

## 103

То кажуць мне,
што марна трачу
Я залатыя дні жыцьця,
Што усёроўна
ўжо ня ўбачу,
Як сьпее шчасьцем
даль-прасьцяг.

Я адкажу
ілжэпрарокам,
Якія плямяць
чэсьць душы,
Якія хочуць
страху змрокам
Мае парывы задушыць:

«Ня трэба славы
мне німала,
А я хачу,
каб мой народ
Больш не цярпеў
пакут Тантала
І не папаў
пад цяжкі бот.

Хоць шмат я жыў, —
жыцьця ня бачыў,
І сьмерць
ня страшна для мяне.
Цяжэй
за ўсякія няўдачы, —
Калі цябе
народ кляне!»



## 104

І не скажу ім
больш
ні слова...

Палезуць зноў, —
я плюну ў твар.
Ды свой
да скону —
ганарова —
я з рук
ня выпушчу
штандар.

*25 лютага 1944 г.*



## 105

Не кажы мне, што сэрца астыла,
Што у ім больш няма пачуцьця,
I што Паркі — варожая сіла —
Перарве маю нітку жыцьця.

Ты мяне яшчэ знаеш замала...
Хоць прайшлі маладыя гады,
Маё сэрца цябе пакахала,
Як ня ўмее кахаць малады.

Маё сэрца яшчэ не астыла...
Покуль нітку жыцьцё дапрадзе,
Нашых дзён бурапенная сіла
Не дае яму стыць, халадзець.

*25 лютага 1944 г.*

106

## ТОДАРУ ЛЕБЯДЗЕ

(Адказ на сібірскія лісты)

О, любы дружа! Як балючы
Твае сібірскія лісты!
На сэрца цісьне боль палючы,
Ў вачах ад сьлёз туман густы.

Табе, — ты пішаш, — апастылеў
Чужы халодны край — тайга,
Дзе ў царстве сьнегу, вечнай стыні
Бізун лютуе і наган.

Ня лепш і ў нас, гаротны дружа!
Свой родны край ты-б не пазнаў.
Тут кроў людзкая стыне ў лужах —
Пакутаў, зьдзекаў сьвежы знак.

Амаль штодня у нас хаўтуры:
Хаваюць нашу маладосьць...
Я ў родным краю — цень пануры,
Не гаспадар, а толькі госьць.

Мы ўсе жывём у вечным страху
За наша хісткае жыцьцё,
Бо шмат каго ужо на плаху
Крывавы кат бязьвінных цёг.

Цудоўны край паволі вяне,
Ідзе на глум яго краса.
Спыніць наругу мы ня ў стане,
І сьлёзы нашыя — раса.



## 107

Хоць бэз сінее каля плоту,
Ды толькі ён ня цешыць нас,
Бо і на ім чэкіст у ботах
Трымае кованы абцас.

Ня толькі дзесьці за Байкалам
Касьцьмі лажыцца беларус;
І ў нас чужацкая навала
Расправу чыніць і прымус.

Сялян бяз іхнае ахвоты
Усіх сагналі у калгас,
І трэба ліць ім рагі поту,
Каб зарабіць на хлеб і квас.

Табе ў чужыне сьніцца ніва,
Дзе песьні звонкія дзяўчат
Ліюцца гучна, з пералівам,
Над соннай моўкнасьцю прысад.

Але павер, гаротны дружа,
Што гэта — толькі гожы сон!
Жняя ня можа нават здужаць,
Каб заглушыць пакутны стогн.

Хоць цяжка жыць, ды сэрца грэе
Краса палёў, краса садоў.
Яна трымае ў нас надзею
На прыйсьце вольнасьці гадоў.

*1 сакавіка 1944 г.*





# 108



Калі часам у словах людзей
Мне пачуецца крыўда, абраза, —
Тады ў сэрцы маім зазьвініць-загудзе
Струн акорд і замоўкне адразу.

І ні болю, ні злосьці няма
На таго, хто пакрыўдзіць задумаў;
Толькі сэрца маё сьцісьне лёдам зіма,
І чало апаўецца задумай.

Калі-ж хто будзе ганьбіць мой Край,
Ці пасьмее над ім наглуміцца, —
У мяне тады ўспыхне на шчоках зара,
Запылаюць у гневе зраніцы;

Закіпіць тады ў сэрцы ў мяне
Хваля крыўды пякучай адразу;
І таму, хто сьвятыню душы закране,
Не дарую ніколі абразу!

*1 сакавіка 1944 г.*



## 109

### МАЕ ХАЦЕНЬНІ

Хочацца мне: на хвіліну
Гора забыўшы й пра сьмерць,
Разам з каханай дзяўчынай
Выпіць вясны мае хмель.

Хочацца: покуль сканаю,
Сілы вярнуць свае зноў,
Зьвіць для радзімага Краю
Песьняў цудоўны вянок.

Хочацца мне: для Айчыны
Штосьці такое зрабіць,
Каб паказаць, як у чынах
Трэба Радзіму любіць.

*1 сакавіка 1944 г.*



110

## ВЯСЕНЬНІ ДЗЕНЬ

Сонца шле палём праменьні,
Песьціць ласкава іх рунь.
Дзень вясёлы, дзень вясеньні
Па зямлі імкнецца ўгрунь.

Срэбным сьмехам ручаёчкі
Зазьвінелі на дварэ...
Эх, вясеньнія дзянёчкі,
Ня любіць вас — проста грэх!

Сэрца мкнецца на прасторы,
Да прагалінаў лясных,
Дзе птушыным звонкім хорам
Набрынялі дні вясны.

*2 сакавіка 1944 г.*

## САЛДАТКА

Ты чакаеш... У вочах надзея:
Вось ён прыйдзе дадому ізноў,
Бурнай радасьцю сэрца сагрэе,
Гадаваць будзе разам сыноў.

Будзе песьціць, купляць ім дарункі...
А калі адляцяць жураўлі,
Будзе дум сваіх плесьці карункі
Аб жыцьці на уласнай зямлі.

А пасьля за марозным вакенцам
Ветры песьні зімы завядуць...
Пад гудзеньне свайго верацённа
Ты забудзеш былую бяду.

Неўзаметку надыйдуць Каляды,
Затрашчаць ад марозу платы,
Але ў хаце — ялінка-прынада,
Дзеткі сьмехам зьвіняць залатым.

Скончыць песьню сваю верацёнца,
Вытчаш кужаль, нашыеш хусьця...
І вясной за вільготным вакенцам
Заліе сонца даляў прасьцяг.

Ён паедзе араць, сеяць поле,
Ты-ж ля град завіхнешся спарней.
Усьміхнецца вам ласкава доля —
Годзе, годзе ў бядоце марнець.



## 112

Дык чакай... Бог дасьць гэтак і будзе...
Зажывеш з ім шчасьліва ізноў,
Акрыяюць змарнелыя грудзі,
Дачакаеш пацехі з сыноў.

*3 сакавіка 1944 г.*





# 113



Нямнога трэба для паэты,
Каб ён забыў тугу і сум.
Тваім сяброўствам абагрэты,
Ён славіць шчасьце і красу.

*16 сакавіка 1944 г.*



## 114

## ТЫ ПАРАНІЛА СЭРЦА

Красавала вясна па-над сьветам,
Наліваліся сокам палі…
Ты параніла сэрца паэта,
І цяпер яно моцна баліць.

Чым я вылечу гэтую рану,
Дзе я лекаў для сэрца знайду?
І няўжо ў ціхі сонечны ранак
Я сканаю ад болю і дум?

Не рабі-ж маё сэрца калекай!..
Покуль сонца асьвеціць лугі,
Дай ты мне, даражэнькая, лекаў,
І ня дай мне памерці з тугі.

*17 сакавіка 1944 г.*





## 115



Вусны просяць пацалунку,
Губкі-ж кажуць: «Не крані!»
Дзе-ж твая такая струнка,
Каб магла адно званіць?

*18 сакавіка 1944 г.*



116

## ЖЫВІ ЎСМАК

Плывуць вясноваю паводкай
Сягоньня думы да мяне,
Яны мне кажуць аб кароткай
Людзкое існасьці вясьне.

Вясна людзей, як і прыроды, —
Ўсяго адзін шчасьлівы міг;
За ёю-ж — буры і нягоды;
І — чалавек згарэў і зьнік.

Пакуль вясна твая красуе
І ня прыйшла жыцьця зіма,
Пакуль у целе кроў пульсуе,
Жыві, каб чуць у жыцьці смак!

Жыві-ж, каб бурнаю паводкай
Пражыць жыцьця свайго вясну,
І ў марах кволых і салодкіх
Ня даць душы тваёй заснуць!

*9 красавіка 1944 г.*

117

## ДЗЯЎЧЫНЕ

Над ракою ў канцы вёскі
Вербы долу гнуцца...
Плача бедная дзяўчына,
Градам сьлёзы льлюцца.

Ня хілеце, вербы, долу
Гальляйко паныла!
Ой ня плач ты, дзяўчыначка,
Ня тужы аб мілым!

Яму выпала дапрасьці
Спраў вялікіх ніці —
Ад прыблудаў і чужынцаў
Край свой бараніці.

Дзе дыміць зямля крывёю,
Дзе усё ў руінах,
Там твой мілы з варагамі
Б'ецца за Краіну.

Прыйдзе восень, лісьце вербаў
Паплыве з вадою...
Мілы вернецца дадому
Пераможцам з бою.

Будзе палка мілаваці
Пацалункам шчырым...
Ой ня плач ты, дзяўчыначка,
Ня тужы аб мілым!

*14 красавіка 1944 г.*

## НЯ КРЫЧЫ!

Ня крычы: «Мяне абразіў
Гострай кпінаю паэт», —
Бо такой, як ты, «заразе»
Не дагодзіць цэлы сьвет.

*29 красавіка 1944 г.*





## 119

## «АПЯКУНУ»

*Х. І-ну*

Ты пнешся быць апякуном,
Чытаеш часта мне «маралі»;
Ды прад такой, як ты, «шпаной»
Я не рассыплю слоў каралі.

*30 красавіка 1944 г.*



## МАТУЛІ

Бывай, матуля! Ненадоўга
Цябе пакіне родны сын.
Пайду, каб выканаць свой доўг я,
А ты дажджом сьлязін ня сып!

Я веру, маці: не загіну.
Ня трэба ліць каштоўных сьлёз.
У бойцы жорсткай за краіну,
Здабыць ёй мушу лепшы лёс.

Ня трэба плакаць, турбавацца,
Ты — лепш — мяне багаславі...
У бойцы з ворагам — прызнацца —
Нямала выльлецца крыві.

Маліся, мама, каб Магутны
Мне даў адвагі, новых сіл,
Каб вораг куляю бяспутнай
Мяне дачасна не скасіў.

Калі адгрукаюць гарматы,
Вятры разгоняць бітвы дым, —
Вярнуся я да роднай хаты
Яшчэ дужэйшым, маладым.

Ня трэба, любая, журыцца,
Застацца дома не заві;
Я мушу сэрцу пакарыцца,
А ты мяне багаславі.



## 121

Бывай, матуля! Ненадоўга
Цябе пакіне родны сын...
Іду, каб выканаць свой доўг я,
Каб шлях расчысьціць для красы.

*14 чэрвеня 1944 г.*



**122**

## ПРА СЯБЕ

(Аўтаэпіграма)

Над хлявом на сенавале
Ўсе пасьля работы спалі;
Ды ня сьпіць 'шчэ Янка Золак:
Думкі ўе у дзесяць столак.
І з тых думак па кусочку
Кроіць верш, нібы сарочку.
Вокал — цемра, цішыня,
Ды яму — не паршыня.

*21 кастрычніка 1944 г.*





123

## МАЗАЛІ

На руках маіх шмат мазалёў...
Хіба-ж я іх саромецца мушу?!
Гэта знак, што я ў целе нашу
Беларускую чэсную душу.

*22 лістапада 1944 г.*



## ПАЛАНЯНКА

Знаў калісь я цябе паўнагрудай,
Ты цьвіла, нібы кветка вясной;
А сягоньня на сьнежаньскіх грудах
Цябе стрэў на сьцяжыне лясной.

Я сустрэў і мне стала балюча:
Прада мною — ці ты, ці ня ты?
Дзе пагляд вачанятак палючых,
Дзе пунсовасьць твае пекнаты?

Колісь быў я табой зачараваны,
Закаханы у кожны твой рух.
Сёньня-ж губкі твае зацалаваны,
Грудзі мятыя сотнямі рук.

Маладосьць твая лёсам аплёвана,
Апавіў зачараваны круг…
О, няўжо табе так наканована?!
Мо' ляпей тады — пасак і крук?

*12 сьнежня 1944 г.,*
*19 сьнежня 1945 г.*





**125**

## ТВАЁЙ УСЬМЕШЦЫ

Сваёй усьмешкаю прыгожай
Зачараваць любога зможаш,
Але мяне ты не заманіш,
Каб сеў у зломаныя сані.

*2 студзеня 1945 г.*



## ПРЫЗНАНЬНЕ

Не магу я табе абяцаць
Горы скарбаў, малочныя рэкі.
І каханьне да скону, навекі
Не магу я табе абяцаць.

Многа горычы, крыўды зазнала
Маё беднае сэрца ў жыцьці.
Дык ці-ж можа каханьне цьвісьці,
Калі горычы сэрца зазнала?

Не пакрыўджуся я, не заплачу,
Калі ўцьвеляць душу яшчэ раз.
Каб у сэрцы агонь не пагас,
Не пакрыўджуся я, не заплачу.

Як і кожны сьмяротны з людзей,
Я і ў горы меў шчасьця хвіліны;
І аб іх я жыву успамінам,
Як і кожны сьмяротны з людзей.

*16 студзеня 1945 г.*





## 127

## Я НЕ ПАДДАМСЯ ТРЫВОГАМ

Край мой! Я, скрыўджаны Богам,
Змушан пакінуць цябе.
Торбу узьдзеўшы на плечы,
Сьцежкай пакут чалавечых
(Долі цяжкой не пазьбег),
Сумна паплёўся ў дарогу.

Сумна паплёўся ў дарогу,
Цяжкі свой крыж нясучы.
Жаль непамерны разлукі
Скоўваў мне ногі і рукі,
Ціха шаптаў: «Адпачынь,
Ты не пазбудзеш трывогаў.»

Хоць не пазбуду трывогаў,
Крочу ў нязнаную даль.
Крочу шукаць сваю долю
І у змаганьні за волю —
Супраць разьюшаных хваль —
Згінуць ці ўзяць перамогу.

Хоць я пакрыўджаны Богам,
Тварам ня падаю ніц.
Горды, хоць, часам, пануры,
Крочу праз буры-віхуры
З верай у лепшыя дні.
... Я не паддамся трывогам!

*18 студзеня 1945 г.*



Як шалёныя ў пене коні,
Праняслася мая маладосьць,
І цяпер маё сэрца палоніць
Ліхадзейная мачыха — злосьць.

З маладосьцю прайшло каханьне,
І цяпер — толькі сум і туга.
Прада мной ня жыцьцё, а бадзяньне
Без дарог, бяз пуцін, наугад.

*2 лютага 1945 г.*





## 129

## СЭРЦУ

Беднае сэрца, чаго ты жадаеш?
Беднае сэрца, куды ты імкнеш?
Часта журбою мяне спавіваеш,
Часта хвалюеш мяне.

Часта хвалюеш мяне ты да болю...
Што-ж мне рабіць у нагодзе такой?
Чым я цябе, маё сэрца, здаволю,
Дзе я знайду супакой?

Дзе я знайду супакой на хвіліну?
Пэўна ня тут, у чужой старане...
Можа, я разам з табой не загіну?
Ты на Радзіму імкнеш?

*16 лютага 1945 г.*



5 Зак. 365

## 130

### БОГА ПРАШУ Я

Я сёньня сумую і плачу,
І сьлёзы мае — сьлёзы сына,
Што, можа, ужо і ня ўбачу
Цябе, дарагая Краіна.

А хочацца мне, як ніколі,
З тваімі прасторамі зьліцца,
Абняць і лясы тваe й поле,
З гаючых крыніцаў напіцца.

І Бога прашу я, каб хмары
Зьнікалі з твайго небасхілу,
Каб зьдзейсьніў Ён нашыя мары,
Даў волю, даў долю, даў сілу.

*4 сакавіка 1945 г.*







## СУМ ПА РАЗІМЕ

З Краю роднага, з роднага дому
У чужы і няведамы край
Мяне выгнаў мой лёс-пустадомак
Сумаваць і павольна ўміраць.

Я жыву і — здаецца — весёлы
Па чужацкай вандрую зямлі,
Толькі сьняцца мне нашыя сёлы,
Сьняцца любыя сэрцу палі.

Сьніцца мне: на вячорках дзявочых
Песьні родныя срэбрам зьвіняць...
Сьлёзы горкія льлюцца мне з вочаў,
Аніяк не магу іх суняць.

І тады я павольна згараю
У пякучай сардэчнай журбе!
О, мой любы, гаротны мой Краю,
Як-жа цяжка мне жыць без цябе!

*14 сакавіка 1945 г.*







## КАМУ ПАСКАРДЖУСЯ?

Каму паскарджуся, каму?
Свой сум пушчу на вецер.
Няхай ён цяжар маіх дум
Нясе па белым сьвеце.

Няхай нясе у родны Край
Маю тугу па родных
І скажа: «Цяжка паміраць
На чужыне бязродным!»

*3 чэрвеня 1945 г.*



**133**

## НЕАДАСЛАНЫ ЛІСТ

О тата родны! Мама дарагая!
Нашто, няшчасны, я прыйшоў на сьвет?
Чаму яшчэ ў юнацкім маю
Апаў-асыпаўся жыцьцёвы цьвет?

За грэх які я змушан сяньня
На лёс цяжкі, суворы наракаць,
І ў чужыне, у роспачы выгнаньня
Вясны чужое росквіт сустракаць?

Ня знаю я, што вам пісаць аб долі
Маёй, знаёмых і маіх сяброў...
Шукалі мы дабра і волі,
Ды апынуліся за дротам лягероў.

Жыцьцё сабачае... Нібы ў палоне...
Яда — «гемюзэ» (бручка) на штодзень,
Дый той так мала, што ўжо сёньня
Не чалавек я — толькі шэры цень.

Нуда мне сушыць розум; сушыць сэрца,
Смыліць тугой аб доме і аб вас.
Няўжо мне з вамі болей не сустрэцца?
Няўжо ўначы прамень надзеі згас?

О тата родны! Мама дарагая!
Праз дрот кардонаў, праз лугі-лясы
Вітаньне вам з няволі пасылаю.
Цалую моцна вас. Выгнанец-сын.

*5 чэрвеня 1945 г.*



Сумна мне з табою, Янка Золак,
Каратаць бязрадасныя дні.
Завіваць, плясьці у сорак столак
Дум сваіх, жаданьняў ніць.

Ты ня здолен сэрца мне і душу
Абагрэць пяшчотаю, цяплом.
Ад нягоды я шукаць ня мушу
Паратунку пад чужым крылом.

Напаіў ты песьні горкаю атрутай,
Апавіў пялёнкаю тугі,
Патаптаў бяз жалю сваю руту,
Здрасаваў жыцьцёвыя лугі.

Дык навошта-ж віць у сорак столак
Ненадзейных думак-мараў ніць?
Сумна мне з табою, Янка Золак,
Каратаць бязрадасныя дні.

*21 лістапада 1945 г.*





## НА ПРАСТОРАХ СЛУЧЧЫНЫ

На прасторах Случчыны
Восеньская стынь
Ладзіць баль-заручыны,
Голячы кусты.

З холаду завялаю,
Пала ружа ніц...
Коціцца навалаю
Зграя чужаніц

З думкаю драпежнаю:
Паняволіць край
І душу мяцежную
У палон забраць.

Прагрымеў над Случчынай
Кліч, нібы прыбой:
«Гэй, народзе змучаны,
Час ісьці у бой!»

Водгульле грымучае
Рвала карані...
І пайшлі рашучыя
Край свой бараніць.

Над кагортай сьмелаю,
Вабячы ў прасьцяг,
Бел-чырвона-белаю
Птушкай рэе сьцяг.





Босыя, разьдзетыя,
Забывалі сны, —
Біліся з саветамі
Случчакоў сыны.

Палымнелі топалі
Сьвечкамі ля хат...
Цімкавічаў, Копыля
Не забудзе кат.

Над палёў абшарамі
Кулі пыл уюць...
Многія ахвярамі
Паляглі ў баю.

Сіл ня стала здужаці
Бальшавізму здань;
Адступілі мужныя
Аж за рэчку Лань.

Але пад Сіняўкаю
Ў цела случчакоў
Упілася п'яўкаю
Здрада палякоў.

Змоўклі і выгнанцамі
Пабрылі у сьвет
Тыя, што паўстанцамі
Слалі волі сьлед.

Ды ня змоўклі гонкія
Случчыны лясы.
Славе песьню звонкую
Склалі верасы.



## 137

Песьня тая й сёньнячы
Водгульлем зьвініць.
Кліча песьня сонечны
Край свой бараніць.

*25 лістапада 1945 г.*



## 138

Сярод мужчын я самы нешчасьлівы:
Мяне ніхто ня можа пакахаць.
Мае душы палаючай узьвівы
Я ціхай песьняй мушу калыхаць.

Але тых мук маіх ніхто ня бачыць;
Я галавой ня кідаюся ў вір,
А цісну сам, вяжу вузлом сабачым
Мае душы чульлівае узьвіў.

З пагардай да ўсяго, зацята-горды,
Я мукі песьняй мушу калыхаць.
Мо' прыйдзе час, за песьні той акорды
Мяне хто-небудзь зможа пакахаць.

*5 сьнежня 1945 г.*









Нада мной — полаг сіняга неба,
Прада мною — плюскоча рака...
Абяцала прыйсьці да мяне;
Я каханую моўчкі чакаю.
Ды ня знаю і сам, што хачу я.
Завязалася вузлам туга.
Сумятлівыя крокі пачуў:
Падышла не яна, а другая;

Цішыня скалыхнулася вокал;
Паплыла прыбярэжная твань
Ў недалёкі зацішны ставок.
Заквітнела усьмешка на твары.
Вусны з хварбаю, пышныя грудзі
І парфумы п'янючы туман...
Бачу, бачу распусту і бруд, —
Яны ў сеці мяне не заманяць.

*25 сьнежня 1945 г.*



Прыйшла... З вясёлаю усьмешкай
Мае кранула валасы,
І зазьвінелі ў маім сэрцы
Званочкі шчасьця і красы.

Прыйшла й вясну мне падарыла.
Хоць за вакном зіма і стынь,
Сьмяюцца ў пацерках іскрыстых
Шыпшыны пышныя кусты.

Пайшла... Пакінула надоўга
Зьвінець вясну ў маёй душы.
Ні злыя людзі, ні завеі
Ня змогуць звон той заглушыць.

*26 сьнежня 1945 г.*



## 141

### 1863

Ня звонам зьвініць сьпелы колас,
Ня вецер шуміць у траве, —
То праўды мужыцкае голас
Народ на змаганьне заве.

Ня бура-пярун з бліскавіцай
Грукоча, грыміць над зямлёй, —
Над змучаным краем ірдзіцца
Народнае волі узьлёт.

Прыслухайся! Гэта ня громы,
Ня дзікі разбойніцкі сьвіст, —
У жаху сьмяротным харомы
Дрыжаць, як асінавы ліст.

У змучанай катам краіне
Вызвольніцкі ўзьвіўся штандар,
Да неба пагрозьліва хлынуў
Народнае помсты пажар.

Ня зьзяньне на небе віруе,
Ня сьвеціць на моры маяк, —
То сілай паўстанцаў кіруе
Кастусь Каліноўскі — ваяк.

Ён люду свайму і Радзіме
Здабыць хацеў шчасьця пару...
Яго легендарнае імя
Запомніць навек Беларусь.

*26 студзеня 1946 г.*



## ГАЛЯ ОРСА

(Акраверш)

Гляджу на цябе ў задуменьні,
А думка у далеч імкне.
Лагодная сталасьць імгненьня —
Я чую — палоніць мяне.

О, як-бы хацеў я: прадвесьнем
Расквеціць нядолю сваю,
Сабраць у вянок свае песьні,
Аздобіць галоўку тваю!

*17 лютага 1946 г.*



## 143

## СПАДЗЯВАНЬНІ Й МАРЫ

Мае спадзяваньні і мары усе,
Як дым у блакіце, растал.
Ізноў адзінота, як сябра-сусед,
Мяне кліча-вабіць у далі.

Ды шляхам адвечным маё йдзе жыцьцё,
Гайдае, як чайку на хвалях.
Я з ціхай мальбою далоні прасьцёр:
Заву сваю песьню з аддаляў.

Яна, як сяброўка, ідзе да мяне
І ласкава зорыць у вочы;
Ня кратае ранаў душы, не кляне,
А мне аддаецца ахвоча.

І з ёю нуда маё сэрца ня сьсе,
І чары ка мне завіталі,
І мары мае, спадзяваньні усе,
Як вырай, вяртаюцца з даляў.

*17 лютага 1946 г.*



## 144



На сэрца зноў туга апала,
Як на траву з нябёс раса.
Кахала ты ці не кахала, —
Не дакажу сабе і сам.

Відаць, я марна думкі песьціў,
Дарэмна мары-крозы ткаў.
Хацеў я жыць каханьня песьняй,
Але адказу не спаткаў.

Таму ізноў туга апала,
Як на траву з нябёс раса.
Кахала ты ці не кахала, —
Не адкажу сабе і сам.

*17 лютага 1946 г.*





## 145



Ня кіну я табе дакору,
Ня буду болей дакучаць...
Ці-ж не такія, як учора,
І сёньня зорачкі гараць?

Ці-ж не такі і сёньня вецер
Злуецца, сьмешны, за вакном?..
Хіба-ж сышоў, як ліхалецьцем,
Сьвет клінам на табе адной?

Мяне другія пакахаюць,
Калі кахаць ня хочаш ты;
У сэрцы зноў запалыхаюць
Агні надзеяў залатых.

І заўтра гэтак, як учора,
У небе зоркі не згараць...
Ня кіну я табе дакору,
Ня буду болей дакучаць...

*17 лютага 1946 г.*



## 146

Навошта я пешчу дзівацкія мары
Аб шчасьці, аб радасьці ў нашыя дні?
Дарэмна, відаць, мая песьня зьвініць
Залётнаю пташкай з далёкіх абшараў,
Якія і клічуць, і сьвецяць, як зьніч.

*28 сакавіка 1946 г.*



## 147

## ВЫ ПРАСІЛІ

*Л.І.Каліноўскай*

Вы прасілі мой верш. Я гатовы
Услужыць. Ды аб чым напішу?
Хіба-ж можна ў звычайныя словы
Пераліць пачуцьцё і душу?

Напісаць пра вясновую цьвецень,
Ці пра восені звонкую медзь?..
Мы ўжо, дзякаваць Богу, ня дзеці,
Што ня ўмеюць бяз слоў разумець.

Лепей проста скажу Вам сардэчна
(І ніколечкі тут ня схлушу):
Ваша прыязьнь ка мне, чалавечнасьць,
Закранулі глыбока душу.

І прад Вамі – ў падзяку – гатовы
Я паслаць пачуцьця свайго шоўк.
Вершы – толькі прыгожыя словы,
А душа застаецца душой.

*30 красавіка 1946 г.*



## МАЛЕНЬКАМУ СЯБРУ

*Люсіку Каліноўскаму*

Маленькі сябра, любы мой!
Тваім сяброўствам я сагрэты...
Сваёю чыстаю душой
Ты зразумееў душу паэты.

Мне слоў звычайных нестае,
Каб перадаць мае пачуцьці...
Гляджу на забаўкі твае,
І думка рве гадоў акуцьці.

Лістаю дні, гады свае;
І прада мной, бы на экране,
Маё маленства паўстае
І болем сэрца мае раніць.

Я шчасьлівейшы быў, як ты, —
Ня меў хоць забавак і цацак:
Я мог — дзіцёнак беднаты —
Прыродай роднай забаўляцца.

Я піў Радзімы пах лясны
І сьпеў птушыны на сьвітаньні,
А ты у дні свае вясны, —
Атруту горкую выгнаньня.

Таму і думкі ўсе мае,
І сэрца боль мне смуціць.
І слоў звычайных нестае,
Каб перадаць мае пачуцьці.

*30 красавіка 1946 г.*





## АБ ЧЫМ ПІСАЦЬ

*Л.І.Каліноўскай*

Аб чым пісаць, — ня ведаю. Нялёгка
У пэрлы вершаў душу пераліць.
Хіба сказаць, што блізка і далёка
Вы ад мяне, як неба ад зямлі.

Хіба сказаць, што лёсам занядбаны,
Магу я толькі мроіць, толькі сьніць.
А сны і мроі ў памяці курганах
Хаваць навек, як даўнішнія дні?

Хіба сказаць, што кубак з акавітай
Ад нас дваіх вартуе пільна сьмерць?..
Душа мая надломана, разьбіта...
Ці-ж хто яе здалее зразумець?!

Ды знаю я: і блізка, і далёка
Вы ад мяне, як неба ад зямлі.
Аб чым пісаць, — ня ведаю. Нялёгка
У пэрлы вершаў душу пераліць...

*Красавік 1946 г.*





## 150

### МАЯ БЕАТРЫЧЭ

Душа імкне у высі, кліча,
І ў высях зорачкай лунае.
Ля хваляў бурнага Дунаю
Здалося мне: Вы — Беатрычэ.

З пашанаю сьвятой, глыбокай,
З душой узрушанай, бы хвалі,
Глядзеў на Вас я. Вы сьпявалі
Аб родных нівах сінявокіх.

У плыні песьні ціхазвоннай
Узьлёт красы я сэрцам вычуў;
Бо Вы — ня толькі Беатрычэ,
Вы — мне здавалася — Мадонна.

Душа імкне кудысьці, кліча...
Куды? Я сэрцам адчуваю:
На бераг бурнага Дунаю,
Да Вас — Мадонна, Беатрычэ.

*13 травеня 1946 г.*







## ЧАСАМ ХОЧАЦЦА

Часам хочацца стаць на калені
Перад Вамі ў начной цішы,
Перадаць у гарачым маленьні
Ўсе пачуцьці — крышталь душы.

Ды пакрыўдзіць, абразіць баюся
Нават словам, паглядам Вас.
І, ўсхвалёваны, шчыра малюся,
Каб агонь пачуцьця ня згас.

*25 травеня 1946 г.*







## ХАЦЕЎ-БЫ Я

Хацеў-бы я... Прабачце мне
Мае дзівачныя хаценьні,
Бо ў іх маланкай бліскане
Душа паэта ў лятуценьнях.

Глядзець на гордае чало
Хацеў-бы доўга, нямігуча,
Ці зьнічкай зыркаю далоў
Зваліцца; іскраю бліскучай

Упасьці блізу Вашых ног,
Шаптаць з пашанай Ваша імя...
Хацеў-бы я, каб толькі мог,
Уславіць песьнямі сваімі

Красу і Вас, як неба дар,
Як сонца вечныя праменьні, —
Пакуль ня згас у сэрцы жар,
Язык ня змоўк у аняменьні...

*Травень 1946 г.*



## ЖЫЦЬЦЁ — ВАР'ЯЦТВА

Жыцьцё — найбольшае вар'яцтва,
І той вар'ят, хто 'шчэ жыве.
Нашто-ж аберучкі трымацца
За гэты прасьмярдзелы сьвет?

Парваць жыцьцё раз назаўсёды —
Ня бачыць зьдзеку і маны.
Няхай апошні раз адзвоняць
Па мне хаўтурныя званы.

Ня лейце толькі сьлёз над трупам;
Вы труп няздольны ажывіць,
Дый вам сьляза не дапаможа...
Дык лепш — душою ня крывіць.

Жыцьцё — найбольшае вар'яцтва,
Прытулак злосьці і маны.
Парву жыцьцё; няхай адзвоняць
Па мне апошні раз званы.

*2 чэрвеня 1946 г.*

## 154

Я шчасьлівы сёньня, як ніколі;
Шчасьце хмелем пеніцца праз край.
Толькі хтосьці шэпча мне: «Паволі!
Ты зьнячэўку шчасьця ня спужай!

Вельмі цяжка, горна і балюча
Атрымаць бязьлітаснае: «Прэч!»:
Сотні дзідаў войстрых і калючых,
Могуць душу пацягнуць на грэх.

А ці помніш? Сэрцам сваім чыстым
Ты кахаў калісь (і ці адну?!)
Заміж хмелю радасьці іскрыстай
Выпіваў ты горыч і ману».

Вось затым я гэтакі халодны
І закуў пачуцьці ў ланцугі,
Каб яны ракою паўнаводнай
За свае ня вышлі берагі.

Але я шчасьлівы, як ніколі,
Шчасьце хмелем пеніцца праз край.
Што пачуцьцям не даю я волі,
Сёньня ты мяне не дакарай.

*8 чэрвеня 1946 г.*



## 155

### БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Над табой насьміхаліся, кпілі,
Зьневажалі тваё імя.
Каб я целам і духам абмяк, —
Над табой насьміхаліся, кпілі,
Зьневажалі тваё імя.

Абляплялі, абкідвалі брудам
Найсьвятое мае душы.
Каб любоў да цябе задушыць, —
Абляплялі, абкідвалі брудам
Найсьвятое мае душы.

Гэтай крыўды я век не забуду,
Не дарую я кпін над табой!
Хоць памру, уступіўшы у бой, —
Гэтай крыўды я век не забуду,
Не дарую я кпін над табой!

*9 чэрвеня 1946 г.*







## ДА ВОЛІ

Сэрца штосьці прарочыла, клікала,
Каб ішоў я за ім усьлед;
І дарогай цярністай, вялікаю
Павяло мяне ў дзіўны сьвет.

Прад сабою шукаў я мэты,
А за мной дагаралі масты.
Быў і босы я, быў і разьдзеты,
Але сілаў давала мне ты.

Ты была пуцяводнаю зоркаю,
Ты казала: «Ідзі, давяду!»
Хоць нямала ’шчэ зьведаю горкага,
Да цябе я усё-ж дайду!

*9 чэрвеня 1946 г.*







Міхайло ОРЭСТ

## ДУША

Ваду, закаханую ў неба, цёмная зямля паланіла;
Параю стаўшы, яна ў родныя высі ляціць.
Але законаў адвечных ёй самахоць не здалеці:
Зноў на зямлю дажджом падае смутна яна.

*З украінскае мовы.*
*22 чэрвеня 1946 г.*



## 158

Ня сумуй пры няўдачах
Ды іх ня пужайся,
Смейся ў горы, бядзе, —
І ты іх не зазнаеш.

*28 чэрвеня 1946 г.*





## 159



Калі суворы лёс табе дасьць аплявуху,
Суцеш сябе, што быць магло-б і горш;
Пакуль жывеш, ня траць надзеі, веры,
Што прыйдзе да цябе прамудрасьць і любоў.

*28 чэрвеня 1946 г.*



**160**

## ВОБМАЦКАМ

Хаджу я вобмацкам, блукаю
Ў густой і прыкрай цемнаце.
Што — сам ня ведаю — шукаю,
І боль душу маю гняце.

Няўжо-ж я мушу век пакуту
Цярпець у страшных ланцугох?
Пячэ нутро маё атрута,
І галава — бы ў абцугох.

Мяне пужае нават ціша,
Трызненьне хворай галавы,
Ці шэлест-грай галодных мышаў
Каля ракі ў кустох травы.

*14 жніўня 1946 г.*





161

## БОЖА ЎСЯЎЛАДНЫ

(Малітва)

*Музыка Міколы Равенскага*

О, Божа Ўсяўладны, о, Божа Магутны,
Пазбаў Беларусь ад напасьці;
Дай волю краіне, і нам шматпакутным
Дай сілу, надзею і шчасьце!

Цябе, Божа, молім у сьпеве сугучным:
Зьяві сваю добрую волю!
О, Божа Ўсяўладны, о, Божа Магутны,
Пайшлі нам шчасьлівую долю!

Мы — дзеці твае, мы з пакораю просім:
Пазбаў нас ад цяжкае мукі!
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім
Табе ў справядлівыя рукі.

О, Божа Ўсяўладны, о, Божа Магутны,
Пазбаў Беларусь ад напасьці;
Дай волю краіне, і нам шматпакутным
Дай сілу, надзею і шчасьце.

*Жнівень 1946 г.*



6 Зак. 365





## ЛЮБЛЮ Я

(Акраверш)

Люблю я зьзяньне яснай зоркі
І вэлюм срэбнае начы.
Ды хіба-ж ім перамагчы
У сэрцы чар твае гаворкі?
Самоту, боль пякуча-горкі
Яна здалее залячыць.

*29 жніўня 1946 г.*



## ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ

Зьвіняць адвечныя званы
Сьвятое Полацкай Сафіі;
З далёкай мілай стараны
Нясуць надзеяў хвілі.

Звіняць званы. Я чую іх
Праз пушчы, горы, долы, рэкі;
Мая душа ў палоне ў іх
Ад сёньня і да веку.

Я чую іх і у мяне
Душа ад гукаў тых сьвятлее:
Ня вечна быць у чужыне
Выгнанцам скрух-падзеяў.

Зьвіняць адвечныя званы
Сьвятой Прамудрасьці — Сафіі;
Праз безьліч прыкрасьцяў яны
Нясуць надзеяў хвілі.

*7 верасьня 1946 г.*

## У ДЗЕНЬ НАРАДЗІНАЎ

Мінула трыццаць і чатыры,
І на парог стаў трыццаць пяты.
Як гаспадар гасьцінны, шчыра
Прашу яго зайсьці у хату.

І ён ідзе паважна, стала,
Мяне віншуе гучным тостам:
«Хай ня спыняе бур навала
Тваіх упартых крокаў поступ!

Хай ліра звонкая ня моўкне,
А ў сэрцах сее праўду, веру;
Хай над табою меч Дамоклаў
Ня вісьне жудасьцю бязьмернай!

За права жыць адважна біся —
І хмары шлях твой не зазасьцяць,
Бо толькі мужныя ня ў высях,
А на зямлі знаходзяць шчасьце.»

Гучыць ягоны голас грозна,
Ў маёй душы надзеі будзіць.
І кажа: «Рана або позна,
А праўда выплыве на людзі.»

Мінула трыццаць і чатыры,
І на парог стаў трыццаць пяты.
Як гаспадар руплівы, шчыры
Ён сам прыйшоў ка мне у хату.

*1 лістапада 1946 г.*

## ВІЮЦЦА ЎСПАМІНЫ

*Лідусі*

Віюцца ўспаміны цудоўнаю нізкай
Аб тым, як вясною цябе я сустрэў.
Ты стала мне мілаю, роднаю, блізкай,
І прагна чакаў я з табою сустрэч.

Я помню і бераг Дунаю, і ўзгоркі,
І кветкі лясныя, і гуд камароў;
Пазьней — закаханыя шэпты, гаворкі,
Абдымкі, пяшчоты ў цішы вечароў.

Я помню і дзень незабыўны навекі,
Што зьвёў нас аднымі шляхамі ісьці,
Піць разам і болі й гаючыя лекі,
І долю й нядолю дзяліць у жыцці.

З табою пражыў я не так яшчэ многа,
Ды шчасьця такога ні з кім я ня знаў.
І сэрцам, душою я дзякую Богу
За тое усё, што дала мне вясна.

*1 лістапада 1946 г.*





## Я — ДЗІДА

Я — апошняя дзіда ў шыпшыне;
Яркай кветкаю мне і ня быць.
Кветку людзі сарвуць і пакінуць;
Ў дзідах — ветру-свавольніку выць.

Не сарве вецер дзіду ніколі,
Хіба зломіць шыпшынавы куст.
Вось таму буду дзідай шыпшыны!
Гэта воля мая і мой густ.

*22 студзеня 1947 г.*





167

*Тарас ШАЎЧЭНКА*

## НА ЧУЖЫНЕ

Я на гору высокую
Выходжу, дзіўлюся
І згадваю Украіну,
І згадаць баюся.

І тут стэпы, і там стэпы,
Тут інакш пакрыты:
Тут да чырвані рудыя,
Там — нібы з блакіту,

Зялёныя, вышытыя
Нівамі, палямі;
Высокімі магіламі,
Цёмнымі лугамі.

*З украінскае мовы.*
*4 красавіка 1947 г.*







*Аляксандр ПУШКІН*

## ВЯЗЕНЬ

Сяджу я за кратамі ў цемры гады.
Узрослы на волі арол малады —
Сябрук майго суму, махае крылом,
Крывавую ежу клюе за вакном.

Клюе і кідае, глядзіць у вакно,
Як быццам са мною задумаў адно;
Заве мяне поглядам, крыкам сваім,
І хоча сказаць мне: «Давай паляцім!

Мы вольныя птахі; пара, брат, пара!
Туды, дзе за хмарай бялее гара,
Туды, дзе за морам віднее маяк,
Дзе толькі вятрыскі гуляюць ды я».

*З расейскае мовы.*
*16 красавіка 1947 г.*



## МІНАЮЧЫ ПРЫСТАНЬ

## ПАЭМА

### I. Ліст да маці

Апанованы чорнай распаччу,
Што бязьлітасна смокча мяне,
Даражэнькая! Я ня плачу,
Я ня плачу, матуля, не.

Чужына — не радзімая маці;
Чужына — як ліхая зьмяя.
Потам горкім у полі і ў хаце
Умываюся штодзень я.

Чужына не галубіць, ня песьціць,
Не пачуеш тут: «Сынку», «Люблю».
Што-ж рабіць мне? Мо’ лезьці
Галавою ў тугую пятлю?

Не, каханая! Я ня ў стане
Сьмерць прыняць ад уласных рук.
Сэрца прагне з табою спатканьня,
Сэрца прагне пазбыцца мук.

Ня сумуй-жа, радзімая, болей!
Мы убачымся: еду к табе...
Што-ж так сэрца заходзіцца з болю?..
Штось нядобрае душу скрабе...

## II. У цягніку

Закалыхваюць думкі і цела
Аднастайныя сьпевы калёс.
Як маланка, ў мазгу праляцела:
«Чым-жа стрэне, пацешыць лёс?»

Кружаць птушкаю думкі аб доме:
«Як-жа там маёй беднай старой?»
У куточку на бруднай саломе
Мроіць сны наяву мой герой.

«Вось прыеду да роднае маці, —
Сын, заступнік і гаспадар, —
Усё агледжу ля хаты і ў хаце,
Узару ўздзірванелы папар.

Ні спачынку, ні стомы ня знацьму,
Абы толькі прыехаць дамоў..."
Нейкі голас у сэрцы зьнянацку
Адазваўся і... раптам замоўк.

Расчыніўшы душу сваю насьцеж,
Прагна піў пачуцьцёвы наплыў
І, захоплены думкай аб шчасьці,
Ён у царства Марфея паплыў.

## III. Сон

З гулам, грукатам, громам і сьвістам
Гураганіць вірлівая бель.
Абмінаючы ціхую прыстань,
Мора гоніць у даль карабель.





Ён то ў бездані дзесьці зальлецца,
То ўзьнясецца над хваляй-гарой...
Нібы птушка падбітая ў клетцы,
У няроўным змаганьні герой.

Наляцела разьюшана хваля;
Карабель — толькі трэскі адны.
З дзікім рогатам ветры сьвісталі:
«Пахаваем жыцьцё бяз труны!»

«Божа, Божа! За што мне загуба?»
Вочы к небу з гарачай мальбой...
Карабельнае бэлькі абрубак
Ён убачыў, адчуў пад сабой.

Мора сьціхла. На хвалях паблізу
Перад ім параплаў задымеў...
Сьлёзы радасьці бурнай, вялізнай
Ад людзей захаваць ня умеў.

**IV. На разьбітым прыстанку**

Прахапіўся... Разьбіты прыстанак
Пазіраў на яго і на ўсіх.
Можа, зараз хвіліна настане,
І пабачыць ён родных сваіх?

Можа, хутка па моры загонаў
Паплыве ён да роднай страхі?..
Ды з расчыненых насьцеж вагонаў
Выганялі усіх штыхі;

Заганялі ў другія, дзе краты
І да кратаў — суровы канвой.
Кожны ўспомніў аб долі чубатай,
Разьвіваючы думак сувой:

«Ой за што, за якія правіны
Заганяюць за краты нас?
Ці-ж за тое, што скарб свой адзіны
Збераглі мы ў няпэўны час?"

Праз ваконныя краты, у грудзі
Водар мёду струменіў з ліп...
А героя панурыя людзі
З крыкам злосным кудысь вязьлі.

### V. Крык душы

О, радзіма у цьвеце каліны!
Прабіваючы цемру начы,
Лётам сэрца свайго сакалінам
Я ляцеў, каб душой адпачыць.

Твае гоні мяне ўзгадавалі,
Ды прыблуды з чужое зямлі
Маё шчасьце — цябе — аплявалі,
А мяне у няволю ўзялі.

Мо' цябе ўжо ня ўбачу да скону,
Праліваючы пот на чужых...
Душу смокча мне боль шалёны,
Сэрца крояць мне жалю нажы.

Што-ж чыніць мне? Як вырвацца з клеткі,
Каб душою і целам ня сох?
О, любімыя сэрцам палеткі!
Хочу вашай упіцца красой.

У душы не змаўкаюць акорды...
Не праб'юся праз мур ілбом...
Лепш памерці мне стоячы, горда,
Чымсі жыць на каленях, рабом.



173

**VI. Воляй лёсу**

Толькі ноч закалыша жывое,
І глыбокі, салодкі сон
Разаўе сваіх чараў сувоі, —
Ён жыццё сваё ставіць на кон.

Ціхачом і зацята, як мышы,
У падлогу ўгрызаецца нож...
Не варушыцца сам, ня дыша.
Утаймоўвае цела дрож.

Дні трывожныя, ціхія ночы
Ўзгадавалі жаданы плён...
«Божа Моцны, ратуй!..» і скочыў
У цямрынь, на зямлю пад вагон.

Апрытомнеў... Знаёмыя далі
Пракаўтнулі далёкі гук...
Навакольныя пушчы звалі
У абдымкі магутных рук.

Усьміхнуліся зоры іскрыста,
Задрыжалі над морам начы...
Воляй лёсу, мінаючы прыстань,
Плыў ён, помсту сваю нясучы.

*26 чэрвеня 1947 г.*



## 174

# НОВЫМ ВОРАГАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

Мяне вы гатовы сягоньня
У лыжцы вады утапіць
За тое, што вашай Мамоне
Я пляскаць ня хочу ў далоні
І з вашага келіха піць.

Агідныя вашыя справы
Ляжаць прада мной на стале:
Каб мець сабе сілу і права,
Вы мне ўжо рыхтуеце «страву»:
Кулак і наган-пісталет.

У гнёздах у вашых асіных
Схаваць вы ня здольны ігру:
Шалёнаю росячы сьлінай,
Вы росьціце дбала асіну —
Павесіць мяне й Беларусь.

Ня страшна, калі хоць сягоньня
Ад вашай рукі я памру;
На зло вам і вашай Мамоне,
На вольным уласным загоне
Жыць будзе мая Беларусь.

Дык плюйцеся-ж злоснаю сьлінай!..
Зьнячыць дарогі маёй
Ня зможаце вы й на часіну.
Расьціце, гадуйце асіну:
Павісьнеце самі на ёй!

*3 жніўня 1947 г.*





175

## СУМЕЖНІКАМ

Моц адмаўляючы ў нас, зьневажаеце
Нашы правы чалавека;
Топчаце душу, а цела ўважаеце
Белым жалезам расьпекаць.

Кажаце нам, што ад іншых мы слабшыя,
Што не дамо сабе рады.
Хочацца вам упрагці нас у вашыя
Згнілыя ўшчэнт панарады.

Толькі ніколі прыждаць вам ня трапіцца
Гэтай жаданае хвілі.
Той, хто на нашу свабоду паквапіцца,
Хутка прызнае нам сілу.

Жыў і жыве беларус. Будзе вечна ён
Жыць. І ва ўпартым змаганьні
Зьдзейсьніць замеры, жаданьні адвечныя,
Імя свайго ён ня зганіць.

*2 лістапада 1947 г.*



## ВЕНЦЕР З КРЫВІ

Цягнецца ў моры сусьвету
Ловіць ён рыбу людзей
Рыба трапечацца
Б'ецца аб сетку ілбом
Жах яе кідае ў бокі
Жыць яшчэ жыць
Хоць бы трохі яшчэ
Пагуляць у свабоднай стыхіі
Шнур з крыві
Моцны ня рвецца
Звужвае круг ня дыхнуць
Сонца высока яшчэ
Вечар ня выйшаў
На шпацыр
Цягне свой венцер рыбак
Прагнасьць б'е з вочаў
Яму ўсё мала
Хочацца большай здабычы
Спрытны шчупак
Усім целам вільнуў
Дзе ня сышліся краі
Хуценька шлях пракладае
Рэшта за ім грамадой

*1 сьнежня 1947 г.*



## СОНЦА Ў ЗЭНІЦЕ

З хмурыначкі дождж
Ніткі шкляныя павесіў
Шапку стракатую грыб-мухамор
Мые у золата іскрах
Ў дугу з сямі колераў
Сонца ўпрагло
Тройку бяроз беланогіх
Ў шыбе сьмяецца дзіцё
Трымаючы ў прыгаршчах сонца

*1 сьнежня 1947 г.*



## ЧОРНЫ МОРАК

А ў ім зыркае сьвятло
Пляма сьветлая надзея
Вабіць кліча заклікае
Цела й дух імкнуцца разам
Да сьвятла таго сьвятога
Чорны морак як вужака
Абвіваецца вакол
Душыць цела каб напіцца
Чыран-сьвежае крыві
Кружыць лебедзь белы ў змроку
Лебедзь Божая любоў
Рух спрунжыністы і рукі
Трушчаць змею галаву
Лебедзь радасна раняе крык
І сэрца змагара
П'е са смакам акавіту веры

*6 сьнежня 1947 г.*







*Олэкса ВЛЫЗЬКО*

## МАТРОСЫ

Мы гартованы сонцам, вятрамі,
Нам — няведамы сьвет праплысьці,
Мы ня ведаем сьцежкі і брамы,
Да якое прыйсьці.

Сэрца кінуўшы ў штормы і шцілі,
Мы плюём табе ў твар, вадзянік,
І упарта на тоны і мілі
Мы разьлічваем дні.

Наша зброя — гартованы корцік,
Нашы думы — марскі бурацьвет,
Наша сэрца — у чорным порце,
Антрацыту дзе цьвет.

*З украінскае мовы.*
*17 сьнежня 1947 г.*



**180**

## ЗАМЕСТ
## КАЛЯДНАГА ПАВІНШАВАНЬНЯ

*Мімі*

Дзень радасны, дзеньНараджэньня Хрыста
Людзей саграваае любоўю і верай.
Каб сум назаўсёды ад сэрца адстаў,
Хай вочы глядзяць із надзеяй наперад.

Каб радасьцю, шчасьцем ясьнеліся дні,
Ты вер, спадзявайся і шчыра маліся;
Да Бога малітвай гарачай імкні,
Як сокал імкнецца ў блакітныя высі.

*5 студзеня 1948 г.*



## 181

## ВАСІЛЬКІ

*Л.Каліноўскай*

Помню... Помню: каштаны і клёны
Ў неба галавы горда ўзьнялі.
У алеях вячорна-сьцюдзёных
Цені ўзорам карункаў лягглі.

Сонца долу хілілася ў стоме,
Расьсьцілала свае касьнікі.
Мы ішлі па алеях знаёмых
І плялі успамінаў вянкі.

Мы ішлі у баварскае поле,
Напаіць свае сэрцы красой
Там, дзе вецер гарэзіць-сваволіць,
Дорыць ласкі свае каласом.

Навакола нас — мора палёў тых,
Гадаванцаў чужое рукі.
Як-жа радасна, ветла здалёку
Усьміхаліся нам васількі.

Мы вярталіся з ціхіх аддаляў,
Сэрцы білі, як моцы стае.
Васілёчкаў пучкі нагадалі
Нам палеткі Радзімы свае.

*6 лютага 1948 г.*



## ЛЫСКА

(Байка)

У пана Яна ў катуху
Жыў-быў сабака Лыска.
І дзень, і ноч — на ланцугу,
Яда — памыяў міска.

Каб зарабіць смачнейшы хлеб,
Гаспадарову ласку, —
Ён на чужых і на сваіх
Зьвягаў, зубамі ляскаў.

І так стараўся, так хацеў
Дапяць жаданай мэты,
Што, бедны, нават ашалеў
Яшчэ у тое-ж лета.

Сарваўся з прывязі, пусьціў
Шалёнай злосьці пену...
Каго ўкусіў, ці ня ўкусіў,
Ды ў лоб дастаў паленам.

* *

Такі вось лёс усіх
Шалёных Лыскаў:
Замест падзякі й пахвалы, —
Даўбнёй па пыску.

*20 чэрвеня 1948 г.*





## ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Хрыстос Васкрос! Хрыстос Васкрос! —
Званы ўрачыста звоняць.
А родны Край — у моры сьлёз,
Крывавіцца ў палоне.

Хрыстос Васкрос! Хрыстос Васкрос! —
Пяюць паўсюдах людзі.
І гэты сьпеў, як сьпеў нябёс,
Надзею ў сэрцы будзіць.

Хрыстос Васкрос! Хрыстос Васкрос! —
Пяюць анёлы з раю.
Як Божы Сын — Ісус Хрыстос, —
І ты ўваскросьнеш, Краю!

*14 красавіка 1949 г.*



Цяжка сёньня забыцца на тое,
Што калісьці было, бо й цяпер яно ёсьць:
Брат на брата гадуе ў душы зьмяю-злосьць,
Лезе ў вочы сьляпіцай-слатою.

Перагрызліся ўсе між сабою,
Асьляпіла ўсім зрок прагавітасьць-аса;
Паўз людзей праплывае-праходзіць Краса,
Ня прыносячы ў сьвет супакою.

*14 красавіка 1949 г.*







## БАЛЬЗАМ ВЯСНЫ

Блакітны пыл цярусіцца з вышыняў,
Мігціць-хвалюецца блакітны пыл.
Найчульшых струн кранаецца пяшчотна
І будзіць звон найчульшых струн.

Палойкі кос расьпешчанага сонца
Струменяць золата — палойкі кос.
Бальзам вясны ліецца хмельнай брагай,
П'яніць душу бальзам вясны.

*26 красавіка 1949 г.*



## 186

Ручайкі залатых лятуценьняў
Перасохлі ад сьпёкі жыцьця,
Толькі, часам, празрыстыя цені,
Ціхі шэпат сухога трысьця
Прыгадаюць аб іх на імгненьне
І ледзь чутна ў душы зашасьцяць:
Ручайкі залатых лятуценьняў
Перасохлі ад сьпёкі жыцьця.

*26 красавіка 1949 г.*





## 187



За сьцяной, у суседнім пакоі
Нехта водзіць смычком па струне.
Што сьпявае струна? Што такое?
Гэта-ж — песьня знаёмая жней.

У той песьні — і смутак і гора,
У ёй чуецца скарга душы;
У ёй тое, што збожжа гавора
У часе бураў і ў часе цішы.

*6 ліпеня 1949 г.*



## БАБІНА ЛЕТА

Дзень усьміхнуты празрыстасьцю цэдзіць,
Кросны снуюць павучкі.
Сонца спускае пучкі
Звонкага золата, яркае медзі.

Шчасьце нясуць павучкі ў ніцях шоўку,
Ціха зьвіняць верасы.
Звоны асеньняй красы
Звоняць навокала, звоняць ня моўкнуць.

Сьцелецца марляю бабіна лета,
Радасьць, надзею нясе.
Жыцьце — ахвяра красе —
Доля таго, хто радзіўся паэтам.

*23 ліпеня 1949 г.*



## 189

Галашэньнем азвалася скрыпка,
Пацякла ручаінай сьляза.
Маю песьню зацiснула хрыпка,
Затужыла ля рэчкі лаза.

Маю песьню зацiснула хрыпка,
Ня ўзьвіецца яна ў сiняву.
Залатая чароўная рыбка
Не гаворыць з людзьмі наяву.

Залатая чароўная рыбка
Болей шчасьця людзям не дае.
Галашэньнем заплакала скрыпка,
І заплакалі песьні мае.

*29 ліпеня 1949 г.*



**190**

## ТРЫ ГАДЫ

*Лідусі*

У руках тваіх — кніжка паэзій,
Вочы сочаць радок кожны пільна,
А на вуснах усьмешка гарэзіць,
Ды усьмешка такая мілая.

Ты чытаеш паэзіі іншых,
А сама, відаць, думаеш штосьці.
Можа, ўспомніла годы калішнія,
Як хадзіў да цябе ў госьці.

Тры гады прамінула з тых часаў,
А я помню усё да драбніцы.
Ты — мой лёс, маёй долі акраса
І каханьня майго — Мілавіца...

*3 жніўня 1949 г.*





## 191

## АСТРЫ

Кунежыла сонца у кветніку астры,
Купалася ў іхнай халоднай расе.
І сонечны промень, самлелы ад шчасьця,
На іхных пялёстках асеў.

*15 жніўня 1949 г.*







## ПАПАЦЁМКУ

(Трыялет)

Аб чым ты мроіш папацёмку,
Каго чакаеш ля вакна?
Вячорнай зоркаю адна
Аб чым ты мроіш папацёмку?
Сядзіш ты, часам, давідна
І дум сваіх снуеш тасёмку.
Аб чым ты мроіш папацёмку,
Каго чакаеш ля вакна?

*22 жніўня 1949 г.*







## ДАРОГА

Бяжыць дарога ўдалячынь,
Віецца шэрай стужкай...
«Прысядзь, вандроўнік, адпачынь!
Табе я — вернай служкай.»

«Адкуль, дарога, і куды
Ты цягнешся ў прасторах?
Куды вядуць тваe сьляды:
Да шчасьця ці да гора?»

«Магу я ўсюды завясьці,
Каб толькі меў ты сілу.
... Дарог нямала у жыцьці,
Вядуць-жа ўсе — ў магілу.»

*29 лістапада 1949 г.*



7 Зак. 365



## 194



Б’ецца, трапечацца бедная рыбка,
Трапіўшы ў сецьрыбака.
Гэтак-жа б’ешся і ты, чалавеча,
Злоўлены ў нерат жыцьця.

*1 сьнежня 1949 г.*







## СУСТРЭЧА

Я іду палявою дарогай,
Навакол палавеюць жыты.
З каласкамі — як сябру старога —
Васілёк сустракае: «Ці-ж ты?».

Усьміхаецца ласкава, шчыра,
Падстаўляе мне вусны: «Цалуй!»
І душа расчыняецца шырай, —
Хочаш злуй на яго ці ня злуй.

Прытуляю да вуснаў пяшчотна,
Вочы цьмяніць расінка-сьляза.
Тут і ты, васілёчак, самотны.
А ці-ж вернемся ў Край свой назад?

*1949 г.*



*Людміле Каліноўскай*

Ні ўзьлётам дум, ні прагай чынаў
Цябе ня скрыўдзіў добры кон.
А васемнаццаць год, дзяўчына,
То — першы крок за Рубікон.

Сьпявай, пясьнярка і сьпявачка;
Цьвіці, як ружа ў летні дзень!
Твая рука — рука мастачкі
Кладзе сьвятло умела й цень.

З-пад гнуткіх пальцаў тваіх гукі
Няхай плывуць шырока ў сьвет!
Працуй, вучыся, каб бяз мукі
Ісьці дарогай прышлых лет!

*2 лютага 1950 г.*



## ПСАЛЬМ 129

(Вольны перасьпеў)

З глыбіні, о Госпадзе, клічу Цябе:
Пачуй Ты мяне ў маёй шчырай мальбе!

А голас мой мкнецца да вушаў Тваіх,
Няхай яны чуюць маленьняў маіх.

Калі-ж не забудзеш, о Божа, правін,
Ці-ж хто устаіць прад Табой, хоць адзін?

Ў Цябе й дараваньне й збаўленьне з бяды,
Каб людзі Цябе паважалі заўжды.

І я спадзяюся на Бога майго,
Душа мая прагне чуць слова Яго.

Душа мая Госпада прагне йшчэ больш,
Чым прагнуць сьвітаньня на варце у золь.

Надзеі кладзі ўсе на Бога, народ,
Бо ласка ў Яго і ключы ад свабод.

Імкніся-ж, народзе, да Бога ў мальбе,
І ён ўсе правіны даруе табе.

*17 лютага 1950 г.*

## ПСАЛЬМ 122

(Вольны перасьпеў)

Да Цябе, што ў нябёсах жывеш,
Узьнімаю я вочы свае.
Сапраўды: так, як вочы рабоў
Паглядаюць на рукі паноў,
Так, як вочы рабыні глядзяць
На руку гаспадыніну ўсьцяж,
Так і нашыя вочы ўвесь час
Скіраваны на Госпада Бога,
Аж пакуль ні памілуе нас.
О, зьлітуйся над намі, зьлітуйся,
Бо мы сыты пагардай па край!
Аж да дна нашы душы, о Божа,
Ужо насычаны зьдзекамі гордых,
І зьнявагай пыхлівых вяльможаў.

*17 лютага 1950 г.*



**199**

## ПСАЛЬМ 126

(Вольны перасьпеў)

Калі які дом непатрэбным Бог лічыць, —
Дарэмны стараньні усіх будаўнічых.
Калі не ахоўваеш гораду, Божа, —
Дарэмна ня сьпіць і вартуе старожа.
Дарэмна вы ўстанеце рана паночы,
Дарэмна і позна ня сплюшчыце вочы
І ў смутку свой хлеб ядзіцё вы, а Ён
Свайму улюбёнаму шле ціхі сон.
Ад Госпада дар — гэта нашыя дзеці,
Плод лона — Яго нагарода на сьвеце.
Як стрэлы імклівыя дужай рукі,
У бацькі так дзеці — сыны-юнакі.
Шчасьлівейшы, пэўна, ёсьць той між жывымі,
Каўчан свой напоўніў хто стрэламі тымі:
Ня зганьбяць яны ні сябе, ні свой род
У гутарцы з ворагам злым ля варот.

*19 лютага 1950 г.*



200

## ПСАЛЬМ 132

(Вольны перасьпеў)

Як добра, як міла братом жыць супольна!
То быццам каштоўны алей, што павольна
З валос галавы ў бараду Аарону
Сьцякае і зьзяе каменьнем кароны,
А потым сьцякае духмяным струменем
Па краю ягоных сьвяточных адзеньняў:
То — быццам Ярмонскія срэбныя росы,
Што гораў Сыёнскіх расквечваюць косы,
Бо там пасылае Гаспод блаславеньне,
Жыцьцё на век вечны і людзям збавеньне.

*19 лютага 1950 г.*







## ПСАЛЬМ 119

(Вольны перасьпеў)

Я Госпада клікаў у смутку маім,
І Ён мяне выслухаў сэрцам сваім.
О Госпадзе! Вызваль, прашу я цярпліва,
Ты душу маю ды ад вуснаў хлусьлівых,
Ад злых языкоў і іх словаў здрадлівых.
Што дасьць для Цябе і прыспорыць Табе
Язык хітра-злосны ў лісьлівай хвальбе;
Навойстраных стрэлаў магутнага змоўцы
З гарачымі вуглямі дрону-яноўца?
Знаходжуся я у Масоха, — о гора! —
Жыву ля Кідарскіх шатроў у пакоры.
Душа мая доўга жыла сярод тых,
Спакой ненавідзяць што ў душах пустых.
Я — сам супакойны; калі-ж не маўчу,
Яны ўсе — за войны: даць працу мячу.

*21 лютага 1950 г.*



## «ДАБРАДЗЕЮ»

Да «карыта» дабраўшыся з боем,
Ты ад пыхі, — як чырвань суніц.
Ты-б хацеў, каб і я прад табою
Прыніжаўся і кланяўся ніц.

Твае-ж мары — табе не па росту.
Ты застаўся, як быў, пацуком,
Хоць выдумваеш кары і подступ
Ды капаеш мне яму цішком.

Удаеш ты з сябе дабрадзея,
Прыкідаешся ціхім ягнём.
Толькі думкі твае ўсе, надзеі —
Небясьпечныя гульні з агнём.

Ня ўзьнімаецца ў неба ніколі,
Хто народжаны поўзаць ля ног.
А таго, хто заручаны з воляй,
Ты ня зможаш, каб нават і мог.

*21 лютага 1950 г.*

**203**

## ЖУДАСЬЦЬ

Чорная бездань
Прорва пякельная
Корчыцца ў скурчах
Шчэрыць выскальвае зубы
Вясёлкавы колер
Вабіць кліча
Пяшчотай сьмяртэльнаю
Падыйдзі
Абніму прыгалублю
Дам уцехаў шалёны вір
Стой ні кроку
А сіла а воля
А упартасць памкненьняў тваіх
Не пайду
Бездань чорная
Колер вясёлкі
Разрываецца ў злосьці бясьсільнай
Дзікі рогат і скрыгат зубоў
Прападае зьнікае
Сьмяротная жудасьць

*27 чэрвеня 1950 г.*

## ЛЯВОН СЛУЧАНІН

(Эпіграма)

Адабралі фашысты ў яго
Кабыліцу бацькоўскую гнедую;
І застаўся Лявон усяго
Са сваёю «дачушкай» «Рагнедаю».

Залатую яго маладосьць
Растапталі чэкісты ботамі...
Ён людзям і сабе на злосьць
Да чэкістаў вярнуўся з ахвотаю.

*22 кастрычніка 1950 г.*







## СПАТКАНЬНЕ МУЗЫ

— Добры вечар, Муза, добры вечар!
Зноў прыйшла ты да мяне у госьці?!
Абняла пяшчотліва за плечы,
Як у маладосьці. —

Прыгарнуў я Музу і бяз сваркі
Дараваў ранейшыя правіны.
— Налівай-жа, любая, у чаркі
Пеністыя віны!

*22 кастрычніка 1950 г.*



## 206

Я над лёсам тваім, над нядоляй
Больш ніводнай сьлязы не пральлю.
Каб не гэта выгнаньне і болі, —
Не спазнаў бы людзей і зямлю...

*25 лістапада 1950 г.*



## КРЫЛАТАЕ СЭРЦА

Як сонца ў зэніце,
Як зоры ў блакіце,
Як водарны вецер гаёў, —
Над роднай Краінай
Вітае няспынна
Крылатае сэрца маё.

Як гукі прадвесьня,
Як жніўная песьня,
Як срэбраны звон ручаёў, —
Сьмяецца, сьпявае
І горна рыдае
Крылатае сэрца маё.

Як пчолка, старанна
З палёў назьбіраны,
Нясе мёд да родных вульлёў, —
Так роднаму Краю
Дабро прыспарае
Крылатае сэрца маё.

Як сьвечка ў алтары,
Што шчырай ахвярай
Палае для Бога агнём, —
Для роднага Краю
Паволі згарае
Крылатае сэрца маё.

## 208

Калі-ж я ў чужыне
Спачну ў дамавіне,
Прыкрыты няроднай зямлёй, —
Свой Край не забудзе,
Вітаць над ім будзе
Крылатае сэрца маё.

*1 красавіка 1951 г.,*
*31 травеня 1954 г.*



## ДВА КАЗЛЫ

(Байка)

Праз ручай на вузкай кладцы
Два сустрэліся казлы.
Адзін з іх — як вол упарты,
А другі — як д’ябал, злы.

«Уцякай з мае дарогі, —
Крыкнуў першы варагу, —
Бо табе зламлю я рогі!"
— Гэта й я табе магу!

«Я ўзышоў на кладку першы!»
— Ты ўзышоў, а я ўжо быў!
І счапіліся рагамі,
Аж прастор стагнаў і выў.

* *

Як ня дойдуць да ладу, —
Разам плюхнуцца ў ваду.

*14 красавіка 1951 г.*





## 210



П'ю не апошні каўток
Пахка-мядвянай атруты.
Думак і дзеяў уток
Нечай рукою закуты
У цяжкія моцныя путы.

Цела пранізвае ток,
Рвуцца нябачныя путы;
Мкнецца крыніцы выток,
Крышыць зыгзагі-закруты.
Ці-ж я нядоляю скуты?

Ногі пусьціліся ў скок,
Грук чаравікаў падкутых.
Дайце яшчэ мне каўток
Пахка-мядвянай атруты,
Зьнікне і змора-пакута.

*20 ліпеня 1951 г.*





211

## МІНУЛАГА ЎСПАМІН

Нішто нас так ня кратае,
Як мілы успамін.
Ён радасьцю багатаю,
Як водарам язьмін,
Напоўніць сэрца чулае
Да самых берагоў.
Мы ў памяці мінулае
Як скарбы берагом.
Яго мы працай рупнаю
Зьбіраем у вянкі,
Каб хваляю падступнаю
Варожыя вякі
Ня змылі, не разьвеялі
Лягендаў, быляў чар;
Каб віхрамі, завеямі
Не засыпала жар
Даўнейшай славы гучнае,
«Пагоні» меч, крыжы,
Чаканьня хвілі зручнае,
Што можам зноў ажыць.
Былое сэрцы гушкае,
П'яніць, як хмелем він...
Здаецца яркай стужкаю
Мінулага ўспамін.

*29 ліпеня 1951 г.*



212

## ТАНКІ

### І

Песьню ў лёт пусьці,
Хай яна чаруе сьвет!
Не заўжды ў жыцьці
Вішня дасьць і ўвосень цьвет.
Сэрцу-ж — двойчы ня цьвісьці.

### ІІ

Крок людзей заўжды
Скіраваны проста ўдаль!
Нашыя сьляды —
Пена ў отмуці ад хваль.
Ад радзін да сьмерці — цаль.

### ІІІ

Песьню прапела
Яна ў белым хораме.
Песьня нясьмела
Птахам за горамі
Мляўка у стоме асела.

*4—6 жніўня 1951 г.*



## 213

## РЫГОР КРУШЫНА

(Эпіграма)

Жыцьцём пакрыўджаны Рыгорка мой.
Хоць ранам сэрца не зажыць,
Жыве гарачымі аўторкамі
Ды хоча й серадамі жыць.

*5 жніўня 1951 г.*



## НА КАРАБЛІ

Пяшчотныя сумныя хвалі
Палошчуць барты карабля.
У сіняй, засмужанай далі
Зьнікае зямля.

Схіляюцца ніжай галовы
Пад цяжарам думаў тугіх.
Дрыжаць у прыцішаных словах
Сьлязінкі тугі.

І кожны у думках варожыць,
Што дасьць яму ў прышласьці лёс:
Абдымкі ці позірк варожы,
А мо' рэкі сьлёз?

Зьлілася з вадой акіяну
Блакіту празрыстая столь.
У нізках уздыхаў стрыманых —
І радасьць, і боль.

*5 ліпеня 1952 г.,*
*31 сакавіка 1955 г.*

## НАД СЛУЧЧУ

Над Случчу нахіліўшыся,
Вярбы дзьве п'юць ваду;
З ракою парадніўшыся,
Гамонку-сьпеў вядуць.

Шапочуць ветру ласкава:
«Цалуй нас гарачэй!»
... Малюнкі ўспомню наскія, —
І ў сэрцы боль гарчэй.

*20 лістапада 1952 г.*



## 216

Прозалаць, золата, пурпур,
Бляскам халоднай зары
Вецер пад ногі мне шпурнуў:
— На, паспрабуй, сабяры!

Вецер завые і... ў рогат.
Капне з хмурынкі сьляза...
Эх, не схапіць мне за рогі
Восень жыцьця, ня стрымаць!

*20 сьнежня 1952 г.*

217

## РАНАК

Празрысты ранак прагна п’е
Бурштын іскрыстых росаў.
Ён мне нагадвае мае
Духмяныя пракосы.

Любіў я ў сонечную рань,
Умыўшы твар расою,
Складаць пракосы — сонцу дань —
Пявучаю касою.

*1952 г.*



## ЗЯЗЮЛЯ Й ПЕВЕНЬ

(Байка)

Калі слухаць ваша ласка,
Раскажу вам быль, ня казку.

Ў нашым садзе на ігрушы
Адпачыць Зязюля села.
Каб навокал ціш парушыць,
Яна голасна запела:
«Ку-ку, ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Хто стары, ці малады,
Без запросінаў-прынукі
Палічы свае гады!»

Той парой на сьметнай кучы
Певень важна пахаджаў;
Сярод сьмецьця і анучаў,
Мабыць, зернятак шукаў.
Як пачуў Зязюлі сьпевы,
Крыльлем хлопнуў, ды — на плот!
(Бо ўзьлящець ня мог на дрэва)
Закрычаў на ўвесь гарод:

«Як-жа хораша, як слаўна
Ты, Зязюленька, пяеш!
Сьпеваў гэтакіх ад даўна
Я ня чуў. Мяне хоць рэж,
Твайго сьпеву не забуду;
Расхвалю цябе й курам.





На'т музыка з сваёй дудай
Не заграе гэтак нам».
«Як пайшло на тое, браце,
Ды і я скажу да ладу:
Неаднойчы з захапленьнем
Чула я твае рулады.
Не адна птушына Божа
Пазайздросьціць табе можа.
Не маню нікольќі я:
Лепш пяеш за Салаўя!"

Ня пытайцеся завошта
Пеўня хваліць так Зязюля.
Гэта — бачыце — адплата
За салодкую пілюлю.

* *

Зязюлі й Пеўні, як на злосьць, —
Сярод людзей нярэдка ёсьць.

*3 студзеня 1954 г.*



## ЛЁС БЕЛАРУСКІХ ЧАСАПІСАЎ НА ЧУЖЫНЕ

Мільганула раз колькі «Маланка»,
Дзесь пад плотам «Крапіва» сасхла;
Нават «Пуга» была дратаванка,
Ды схвасталася й тая датла.

Паламалі бязьлітасна «Дзіду»,
Адгудзеў свае гуды «Шарсцень».
(Не давайцеся, братачкі, дзіву:
Апусьцела чырвонцаў кішэнь).

Згінуў «Дзяцел» на горкай асіне
(Не да смаку прыйшлося ў гасьцёх).
Адцьвітае цьвятком сваім сінім
Прыдарожная кветка «Асьцё»...

*21 жніўня 1954 г.*

221

## ЮРКА ВІЦЬБІЧ

(Эпіграма)

То йдзе дарогай ён, то — бокам,
Каб быць бяз плям і парушынак,
Ды пад яго нядрэмным вокам
Збуцьвела ссохлая «Шыпшына».

*19 верасьня 1954 г.*



## КАХАНЫЯ КВЕТКІ

Васілёчкі, каханыя кветкі, —
Родных ніваў аздоба-краса!
Вас ці ўбачу на родных палетках,
Я ня знаю напэўна і сам.

Мо' ў далёкай, нязнанай краіне
Дажыву мне прызначаны час;
Ды куды мяне лёс ні закіне,
Буду помніць заўсёды пра вас.

Буду сьніць я Радзімы палеткі
І рачулку, дзе йскрыцца жарства,
Васілёчкі, каханыя кветкі, —
Сымбаль вечнай Красы-Хараства.

*1954 г.*





## СЯРГЕЙ ХМАРА

(Эпіграма)

У «Грамадзе» ён — цар і бог,
А у грамадзтве — дэмагог.

*3 красавіка 1955 г.*









Не хацелася-б сёньня мне плакаць,
Не хацелася-б сёньня стагнаць,
Але лёсу сіберную сьлякаць
Я ня ў стане з дарогі сагнаць...

*9 чэрвеня 1957 г.*





## 225

## ПРЫЙСЬЦЕ

Мой дух, узьвіўшыся ў прасторы,
Да сонца, збраў і плянэт,
Глядзіць з вышынь на Божы сьвет —
Істужкі рэк, грамады гораў.

І бачыць ён: як прывід-змора,
Блукае ў цемры з веку ў век
Сварлівы, злосны чалавек —
Каваль жыцьця і дойлід гора.

Яму насустрач — яркі промень
Сьвідруе цемру, крышыць, ломіць,
Бы крохкае й сухое лісьце.

Штомчас імклівей ды іскрысьцей
Ідзе магутным ледаломам
Жаданае вякамі Прыйсьце.

*3 лютага 1958 г.*



8 Зак. 365

Россыпам яркіх маністаў
Зорачкі ў небе гараць...
Шчыра каханьнем агністым
Буду цябе абдараць.

Кожная зорачка рада
Вечна сьвятло сваё ліць...
Хочу я смутак і радасьць
Разам з табою дзяліць.

*1958 г.*



## 227



Вішня на дрэве на тое і сьпее,
Каб потым яе хто сарваў.

*10 травеня 1959 г.*





## 228



Ня будзь ні горкім, ні салодкім!
І саладосьць, і гарчыня —
На ногі цяжкія калодкі,
А не сьвятло і цяплыня.

*10 травеня 1959 г.*



## ВЯНОК

(Акраверш)

*От века терн венец поэта.*
В.Брюсов

Вянок цярновы — дар паэту
Як плата за цяжкую працу.
Ні ружаў-кветак, ні палацаў...
О, як з паэта не сьмяяцца,
Калі ён дзякуе й за гэта?!

*27 студзеня 1961 г.*







## МІХАСЬ КАВЫЛЬ І СЛУЧЧАКІ

Ён сам случчак, але для сьмеху
Па случчакох рашыў «праехаць».
І за касу схапіўшы Музу,
Ён случчакоў узяўся тузаць:
Адных зваліў, а іншых ганіў.
(Нібы іграў ён на аргане).
Ці ганіў іх, ці выхваляў,
Але па ўсіх «пракавыляў».

*1961 г.*





## 231

## ВЯТРЫСКА
## З РАДЗІМАЙ КРАІНЫ

Праз моры, вазёры, праз шыр акіянаў,
Праз гораў хрыбты, праз даліны
Да нас прылятае, як госьць наш чаканы,
Вятрыска з радзімай Краіны.

І подых ягоны, як дотык пяшчотны
Матулі у годах дзяцінных;
Лагодзіць наш боль, суцяшае самотных
Вятрыска з радзімай Краіны.

*1961 г.*







## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ ДЗЕНЬ САКАВІКА

У прыгожы ясны дзень вясновы —
Дваццаць пяты дзень сакавіка, —
Тоўсты лёд, бы ржавыя аковы,
Разарвала бурная рака.

Застагналі з енкам крыгі лёду
У струменях вольнае ракі…
Зазьвінелі радасьцю народу
У блакітных высях жаўрукі.

Беларускі люд, што быў закуты,
Зрабаваны сілай чужака, —
Разарваў свае няволі путы
Ў дваццаць пяты дзень сакавіка.

Засьвяціла сонца й беларусу…
Толькі-б жыць і цешыцца вясной;
Ды навокал носьбіты прымусу
Зноў вілі нам церневы вянок.

Ня судзіў нам лёс… І край гаротны
Ні вясны, ні волі ня ўтрымаў.
Зноў прыйшлі к нам хваляю зваротнай
Чужакі, няволя і зіма.

Цісьне сівер… Ды рака пад лёдам
Набірае сілаў да вясны.
Не зламана воля у народа
Скінуць з плеч прымусу кайданы.



## 233

Вернецца яшчэ той дзень вясновы —
Дваццаць пяты дзень сакавіка!
Зноў няволі нашае аковы
Разарве народная рака.

*24 сакавіка 1963 г.*







## ІМКНІСЯ Ў ВЫСЬ!

(Акраверш)

Ляцяць у бездань крохкія надзеі,
Енк роспачы сьціскае грудзі.
Акрушынай з талеркі дабрадзея
Ніхто й ніколі сыт ня будзе.
Імкніся ў высь: да сонца і да зораў;
Лаві хвіліны, што бяз гора,
А не чакай пагоды з мора.

*4 красавіка 1963 г.*



Я.ПІТРУС

## ВЁСЕНКА

Зашумелі воды,
Паплылі ільдзіны.
Вёсенка-вясьніца —
Паплылі ільдзіны.

Зацьвілі на лузе
Водарныя краскі.
Вёсенка-вясьніца —
Водарныя краскі.

Буду тыя краскі
Рваць я на вяночкі.
Вёсенка-вясьніца —
Краскі на вяночкі.

Я вію вяночак,
Жаўранак сьпявае.
Вёсенка-вясьніца —
Жаўранак сьпявае.

*З польскае мовы.*
*12 красавіка 1963 г.*







Залатой пшаніцаю
Сьпелі мае крозы...
Не паспелі высьпець —
Сьцялі іх марозы.

Сьцялі іх марозы...
Сівер і завеі
Патушылі ў сэрцы
Кволыя надзеі.

Кволыя надзеі?
Горкія ўспаміны
Засталіся беднаму
Ў цяжкія хвіліны.

У цяжкія хвіліны
Думы мае, крозы
Не пасьпелі высьпець —
Сьцялі іх марозы.

*31 жніўня 1963 г.*



## ІЗНОЎ АДЗІН

Нібы забыты ў полі колас,
Я зноў адзін, зусім адзін...
Дзе твой пяшчотны ціхі голас,
О шчасьце радасных гадзін?

Дзе твой пагляд вачэй палючых,
Тваіх пяшчот агністасьць дзе?
І раняць сэрца мне балюча
Прамяньні колішніх надзей.

Няма твайго цяпла. У далі
Ты павязла яго з сабой.
Нібы на рэчцы бурнай хвалі
Імкнуцца думкі за табой.

*1963 г.*

Нарадзіўся я, мабыць, ня ўпору,
Таму й мучыцца ў целе душа.
На радзіме — нявольнік чужынца,
На чужыне — нявольнік граша...

*19 студзеня 1964 г.*



## 239

У цяжкай кашмарнай дрымоце
Плывуць мае ночы ў самоце.

І губы пасьмягнуць: няма акавіты,
І рукі, і ногі — вяроўкай абвіты,

І потам халодным пакрыецца цела...
Хутчэй-бы ты, ночка, у бездань ляцела!

А скончыцца ночка, засьвеціцца раньне,
Зьнікаюць кашмары і прывіды, й здані.

Ды мляўкае цела, у косьцях ламота...
Заснуць бы!.. Ды нельга: чакае работа.

Як ночка мінула, і дзень праміне,
І прыйдзе мо' хутка спачын у труне.

*30 красавіка 1964 г.*

**240**

## АДНО ІМЯ

(Акраверш)

Як толькі цяжкая хвіліна
На сэрца мне, бы камень ляжа
І рухі цела майго зьвяжа, —
На зло ўсяму, мне штось падкажа
Адно імя. І камень — гліна.

*12 травеня 1964 г.*





## 241



Ня ведаю, чым правініўся прад Богам
І як я дайшоў да такога жыцьця.
Ня варта судзіць мяне строга,
А трэба мяне шкадаваць!

*30 травеня 1964 г.*



## ТАРАС ШАЎЧЭНКА

Ты прасторамі стэпу шырокага
Праязджаў ці праходзіў няраз,
І з усьмешкай сваёй яснавокаю
Ты дарыў ім каханьне, Тарас.

Ты кахаў іх, як бацьку і матку,
Што цябе нарадзілі на сьвет,
І жыцьцё сваё ўсё, да астатку,
Ты аддаў ім, мастак і паэт.

Нездарма у сваім «Запавеце»
Ты прасіў, каб цябе землякі
Пахавалі у стэпавым цьвеце
Каля вольнай магутнай ракі.

*4 ліпеня 1964 г.*





243

## МАЯ ФІЛЯЗОФІЯ

*Веры К-ка*

Вер, спадзявайся, чакай,
Едка з няўдач насьміхайся;
Радасьць па кроплі зьбірай,
А мэты свае дабівайся!

*13 ліпеня 1964 г.*



## 244



Мне часам здаецца: ня дам сабе рады,
Ня выйду я цэлым з жыцьцёвых ляшчот.
І хочацца мне тады трошкі спагады,
І хочацца трошкі дзявочых пяшчот.

Зірну я навокал — о, доля-нядоля! —
Нідзе я ня бачу жывое душы.
І хочацца выць, скавытаць тады з болю,
І хочацца сьвечку жыцьця патушыць.

*21 ліпеня 1964 г.*



Лістапад бязьлітаснай рукою
Атрасаў дрыготкі сумны сад,
Ня плылі над Случаю-ракою
Галасы прывабныя дзяўчат.

Залягла пякучая трывога
Над прасторам Случчыны усьцяж...
Не адна матуля ад парога
Выпраўляла роднае дзіця.

«Знаю, сынку! Можа, я ніколі
Сьлёз гарачых з твару не сатру,
Можа, ты загінеш дзе на полі,
Каб жыла радзіма — Беларусь.»

Горна плача вецер у галінах, —
Ня прыйшоў дамоў паўстанец-сын.
Дасьпявае ў Случчыне каліна,
П'юць журбу матулі верасы...

*29 лістапада 1964 г.*



## 246

## МАЯ ВЯЛІКАСЬЦЬ

*Я сам сабе адзін вялікі.*
М.Сяднёў

Ня быў для іншых я вялікім
І быць вялікім не хачу,
Ды пад чужыя дудкі й смыкі
Я не скакаў і не скачу.

Не для сябе гару душою:
Радзіме сэрца аддаю,
Хоць часта мне, нібы іржою,
Душу аплёўваюць маю.

Зьвягі-ж вакольнай не баюся,
Хоць няпрыемна рэжа слых.
Я Богу Сьветламу малюся,
Але ня богу злыдняў злых.

Абразы, крыўды чорнай клікі
Пускаю міма і маўчу,
Бо я для іншых не вялікі,
Бо быць самім сабой хачу.

Я горды тым, што не вялікі
І быць вялікім не хачу,
Што пад чужыя дудкі й смыкі
І не скакаў, і не скачу.

*7—24 сьнежня 1965г.*





247

## ГАЗЭЛА

За вакном маім ластаўкі кружаць…
Пасьля дожджыка яркая ружа

Усьміхаецца ласкавей неяк.
І п'яніць мяне водарам ружа.

Маё сэрца цяпер палымнее,
Як расьцьвіўшая толькі што ружа.

І душа мая гэтак-жа сьвежа,
Як абмытая дожджыкам ружа.

Я гляджу на весёлкі мярэжу…
Гэта — ярка цьвіце ў небе ружа.

Я і сам маладзею, мой дружа,
Як пад сонцам і дожджыкам ружа.

*25 сьнежня 1965 г.*







## У ЛЕСЕ

Шумяць вяршыны соснаў, звоняць,
Унізе-ж — сонны супакой.
Ручай сьмяецца і гамоніць,
Аб нечым шэпча з асакой.
І мы, каб сыцішыць сэрцаў жар,
Як пчолкі, п'ём вясны нэктар.

*24 красавіка 1967 г.*



## МОЙ ЧАС

(Складакраверш)

МАРна праходзе мой час,
НАват няма адпачынку.
ПРАцаю толькі рэдчас
ХОчацца рукі мазоліць.
ДЗЕ мяне й хто прыняволіць
МОЙ упарадкаваць час?
ЧАС-жа — ня хлеба скарынка.

*6 ліпеня 1967 г.*



**250**

Ня суджана мне знаць, калі са мной што будзе;
Ня суджана мне знаць, калі самкну павекі...
Вакол мяне блукаюць толькі людзі,
А я між іх шукаю Чалавека.

Быць можа, я хачу занадта многа,
Быць можа, мару марна і бязбожна?..
Таму што Чалавек падобны Богу,
Яго знайсьці паміж людзей ня можна...

*14 ліпеня 1967 г.*



## 251

### ЭПІТАФІІ САБЕ

I

Дапрадзены жыцця пачынак...
Больш не зьвязаць парваных столак...
Тут лёг на вечны супачынак
Паэта Янка Золак.

II

Тут спачывае Янка Золак.
Ня быў нікому ён назолай.
Як Дыяген, шукаў ён Чалавека;
Знайшоў-жа дамавіну з цяжкім векам.

*21 кастрычніка 1967 г.*



## АБЯЦАНКА

*Абяцанка — цацанка,*
*а дурному — радасьць.*
Народная прымаўка

Я спытаў Разаліну-цыганку,
Што прыйсьці абяцала ка мне:
«Ці ты помніш сваю абяцанку,
Ці ўжо, можа, забылася?» — «Не!»

Зноў тады я спытаў у цыганкі,
Каб быць пэўным хоць раз у жыцьці:
«Як-жа доўга чакаць абяцанкі?
Ці ня зможаш ты сёньня прыйсьці?»

«Абяцанага ждуць аж тры годы, —
Адказала з усьмешкай вачэй, —
Пачакай трохі лепшай нагоды,
Хай агонь разгарыцца ярчэй!"

Вось і вер тут ты словам цыганкі!
Абяцае, ды толькі насьмех.
Абяцанкі, вядома, — цацанкі,
Але дурню — хвіліны уцех.

*8 сьнежня 1967 г.*



## 253



Ніхто з нас ня знае, што лёс нам рыхтуе
І песьню якую й калі прадыктуе.
Лічыў я ўжо старасьць дакучлівай госьцяй,
Але ты вярнула мне час маладосьці.

*4 лістапада 1968 г.*



## ОДА МАЦІ

*Маме Ганне*

Хвала табе, жанчына-Маці,
Хвала і мой зямны паклон!
Бо ты, каб даць жыцьцё дзіцяці,
Сваё жыцьцё кладзеш на кон.

Дзяцей ты песьціш і гадуеш,
Каб іх людзьмі пусьціць у сьвет,
Хоць мо' ня кожны з іх шануе
Цябе — жыцьця зямнога цьвет.

Быць можа, хтосьці з іх няўдзячны
Прынёс у косы твае сьнег;
Ад іх ты, часам, і паплачаш,
Але дзяцей не праклянеш.

Ты — жыцьцядайная крыніца,
Што жывіць нас із роду ў род.
Табою сьмела ганарыцца
І сем'янін твой і народ.

Ня грэх тут будзе прыгадаці:
Табе пашану й Бог прынёс,
Бо праз цябе, людзкая Маці,
На сьвет прыйшоў Ісус Хрыстос.

Хвала-ж табе, руплівай Маці!
Я прад табой хілю чало.
Каб не магла жыцьця ты даці, —
На сьвеце й нас-бы ня было.

*10 травеня 1969 г.*

## ЯНКА ЮХНАВЕЦ

(Эпіграма)

Перабольшваньнем гэта ня будзе,
(Сам сябе я хваліць ня люблю);
Толькі ведайце, дробныя людзі:
Я — адзіны сучасны Калюмб.

*7 кастрычніка 1969 г.*



## 256

Скаргай льлюцца песьні словы
Ноччу, поўнай дзіў.
На спатканьне ў гай вясновы,
Сэрцайка, прыйдзі!

Ў бляску месячнага зьзяньня
Гай вядзе свой сказ,
Каб ніхто, маё каханьне,
Не падслухаў нас.

Звоняць, сэрца мне трывожаць
Трэлі салаўя;
Млею ночкаю прыгожай
Ад каханьня я.

Сьпеў пяшчотны салавейкі,
Шум вяршалін-крон,
Як чароўная жалейка,
Усхвалююць кроў.

Дай сваёй душы каханьнем
Расквітнець, як май,
На таемнае спатканьне
Ты прыйдзі у гай!

*30 сьнежня 1969 г.*

Паклон табе, вецер!
Ляці нясупынна
Праз моц перашкодаў у сьвеце
Да роднай каханай Краіны!
Скажы яе людзям
І дрэвам, і травам:
«Дакуль-жа раз'юшана будзе
Тыран распаношвацца правам,
Што каменем цяжкім на грудзі
Лажыцца надгробкам крывавым?»

*6 жнiўня 1970 г.*



9 Зак. 365

## СЬНЯЖЫНКІ

Што так мігціць у паветры?
Ах, як прыгожа навокал!
Сеткай дрыготна-міглівай
Кружаць у танцы сьняжынкі.

Мілыя зоркі-пушынкі,
Кволыя дзеткі нябёсаў!
Шкода мне вас, ненаглядных:
Вы не ў пару прыляцелі.

Хто з вас зямлі дакранецца, —
Сьлёзкай завісьне на траўцы.
Хай бы яшчэ пачакалі,
Покуль зямельку мароз абцалуе.

— Добрай душы чалавеча! —
Шэпчуць сьняжынкі ў адказ мне: —
Мы не загінем, а параю
Вернемся зноў у нябёсы.

Стуль, як пара наша прыйдзе,
Зноў прылящім да цябе;
Будзеш зноў цешыцца намі:
Сьветлыя згадкі навеем.

*4 сьнежня 1972 г.*



## 259



Хоць на карку шэсьцьдзесят,
Заслужыў-жа я ня шмат:
Ні пашаны, і ні чэсьці.
Бо ня ўмею «жукам лезьці».

*18 сьнежня 1972 г.*









Лепш няхай прысьніцца малпа,
Але піць ня буду залпам,
Бо, як вып'ю ўсю нагбом, —
Апынуся пад сталом,
Не пабачу свайго дому.
Што рабіць тады, старому?
Для кагосьці я — назола,
А для Музы — Янка Золак.

*19 сьнежня 1972 г.*



## КАЛІНА

*Беларускаму хору «Каліна»*

(Саўт Рывер)

Зацьвітала у садзе каліна,
Гадавалася ў вёсцы дзяўчына;
У нядзельку выходзіла з хаты,
Да яе йшлі сяброўкі-дзяўчаты.
Пад калінаю, сеўшы у згодзе,
Карагод гэты песьню заводзіў.
І плылі у прастор адгалоскі,
Песьню слухала цэлая вёска.
За прыемныя сэрцу хвіліны
Карагод той назвалі «Калінай».
Ды нядоўга было тое шчасьце,
Наляцелі на вёску напасьці:
Рвала непагадзь кветкі каліны,
Ў чужыну вывез вораг дзяўчыну.
Праца цяжкая, сэрцу балесьне,
Але помніла родныя песьні.
У нядзелю ці ў іншае сьвята
Заклікала сяброўак-дзяўчатаў.
Ля чужое стуліўшыся хаты,
Мілагучна сьпявалі дзяўчаты.
І пад шэпты вячорнага лісьця
Чуў і я тыя песьні калісьці.
Хоць і цяжка было мне, балесьне,
Сэрца цешылі родныя песьні.
Я прыгадваю тыя хвіліны,
Калі слухаю песьні «Каліны».

*23 чэрвеня 1973 г.*



10 Зак. 365







*М.*

Не кажы, што жыву па-сабачы
І нічога ня варт у жыцьці!
Сьвет знайшоў я, пабачыў,
А сябе не магу знайсьці.

*6 студзеня 1974 г.*





# 263



Глядзі, як прыгожа ў гаях
Вясноваю ночкай маёвай!..
Пакуль ты яшчэ нічыя, —
Пабудзь хоць разочак маёю...

*21 студзеня 1974 г.*





## 264



Ты сьпявала ўчора мне рамансы...
Можа, я ня так іх разумеў,
Ды гучалі іхнія нюансы
Як надзея й радасьць, а ня гнеў.

І здалося мне пад гукі сьпеваў:
Я знайшоў Эдэм свой на зямлі.
І ў душы самотнай, набалелай
Хвалі ціхай злагады плылі.

А сягоньня ў сьпевах тваіх чую
Штосьці непадобнае да тых.
Ці зьмяніў цябе хто на другую,
Ці мяне падманвае мой слых?

Не хачу я роспачы паддацца,
Не хачу быць іншым ад людзей.
Мне заўсёды будуць падабацца
Песьні веры, радасьці й надзей.

*25 жніўня 1974 г.*





## 265



Гадаваў, сьпяліў я спадзяваньні-мары:
Выпіць акавіты з залатое чары.

Палыхалі ў сэрцы радасьці зарніцы,
Што хоць раз нап'юся з чыстае крыніцы;

Што душой і целам аджыву тады я,
Вернуцца здалёку годы маладыя.

І былі мне мары, як бальзам на болі.
Толькі іх чакала чорная нядоля:

Наляцелі зьнекуль завірухі-веі,
Сіверам дыхнулі на мае надзеі;

Напаілі душу ня віном, атрутай.
І завялі мары, як у сьпёку рута.

Эх, каб не марозы, эх, каб не завеі!
Расьцьвіталі-б крозы пышнаю ліліяй.

Адгулі завеі... Зьніклі спадзяваньні,
Як туман касматы залацістым раньнем.

Ды застаўся ў сэрцы нейкім прыкрым гулам
Жаль па тым прыгожым, што мяне мінула.

*24—25 жніўня 1976 г.*









Ляцяць гады, як спуджаныя коні...
Юнацтва час хаваецца ў туман...
Дары жыццю, што можаш даць, сягоньня;
Адкінь спадзевы — заўтрашняга зман!

*2 кастрычніка 1976 г.*



Што было учора,
Тое ўжо мінула,
І яго прыгожасьць
Лета праглынула.

Што прыйшло сягоньня,
Параўнаць мне з нечым,
Бо яно і душу
Й цела нам калечыць.

А што прыйдзе заўтра,
Тое людзі ўбачаць:
Ні ўчарайшым-сёньняшнім, —
Будзе нейк іначай.

*12 лістапада 1976 г.*

*Тарас ШАЎЧЭНКА*

## ЗАПАВЕТ

Як памру, дык пахавайце
Мяне у магіле,
Сярод стэпу шырокага
Украіны мілай,

Каб палёў шырокіх гоні,
І Дняпро, і кручы
Былі бачны й было-б чутна,
Як раве магучы.

Як нясьціме з Украіны
У сіняе мора
Кроў варожую, тады ўжо
І лясы, і горы —

Ўсё пакіну й палячу я
Да самога Бога,
Каб маліцца... А да тых пор —
Я ня знаю Бога.

Пахавайце і паўстаньце,
Кайданы парвеце,
І варожай, злой крывёю
Волю акрапеце!

І тады ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай,
Не забудзьце мяне ўспомніць
Добрым, ціхім словам!

*З украінскае мовы.*
*1 кастрычніка 1979 г.*



## ДОЛЯ БЯЗЧУБАЯ

«Ой, ты доля-ж мая ды чубатая,
Да ніхто-ж мяне ды ня сватае.
А мо', доля мая, ты бязчубая,
Што нікому ўжо я ды ня любая?!»

Галасіла у песьні дзяўчына,
Праклінала нядолю са скрухай,
Бо ня знала з якое прычыны
Засталася ў бацькоў векавухай.

Мы-ж таксама у роднай краіне
Наракалі на лёс, галасілі;
Цяжкай долі і змрочнай часіны
Каб пазбыцца, забракла нам сілы.

Можа й мы векавухай нялюбаю
Ды ў нянароднага бацькі былі?
Нашу долю-нядолю бязчубую
І за карак узяць не змаглі.

Мы пазьбеглі, здаецца, загубы
І ў чужыне шукаем акрас;
Ды і тут доля злая, бязчубая,
Падлавіла сяго-таго з нас.

*4 кастрычніка 1980 г.*

*Юры КЛЭН*

## ПАМОЛІМСЯ

Памолімся за тых, што у разлуцы
Памруць, із родных вырваныя хат;
За тых, што ў роспачы на волю рвуцца,
Ўначы грызуць пранты зялезных крат,
Што душаць жаль у нявымоўнай муцы;
За тых, каго вядзе на згубу кат.
Над імі, Госпадзі, ў нябеснай цьвердзі
Раскінь свае далоні міласэрдзя!

Памолімся за тых, хто ў бездарожжы,
Надзею страціўшы у сілы,
Пайсьці на чын і дзеяньне ня можа,
Каго нядоля у ярмо схіліла,
Хто у няшчасьці (злітуйся, о Божа!)
Гавора, што ён самы найшчасьлівы.
Паэтаў тых, Магутны, не карай,
Што пекла услаўляюць, нібы рай!

Бо лёс іх, можа, самы найцяжэйшы:
Яны, ўслаўляючы чужы закон,
Які нікога не сагрэў і не пацешыў,
Выпростваюць у хаце вольную далонь,
Уночы іншыя складаюць вершы
І кідаюць дзеля бясьпекі у агонь.
Ня ўбачыць іх: вясна у тых канцонах
Галосіць так, што на душы сьцюдзёна.





Памолімся-ж за тых мы шчыра ўсе,
Каго суворы лёс наш ня прыгорне,
Хто не зазнае радасьці й уцех,
Каго бязьлітасна друзгочуць жорны,

Каму замёр у горле крыкам сьмех,
Хто ў днёх захмараных, як ночы чорных.
Ня кінь Ты, Божа, ў цемрадзі ўсіх тых,
Благаславі іх на шляхох крутых!

*З украінскае мовы. 1980 г.*



## КАЛЯ РЭЧКІ ЛАНІ

Сьнежань... Холад і золь... На сьвітаньні
Сонца з цемры ледзь промні выносіць...
Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць:

«Сонца, сонца, маё залатое,
Пасланец паслухмяны Самога!
Ой чаму-ж нашым змучаным воям
Ня прыйшло сваячасна з падмогай?
Ты чаму іх цяплом не акрыла,
Ня было для іх маткаю мілай;
Чаму ворагаў іх ня ссушыла
Сваёй грознай, агністаю сілай?»

Сьнежань... Сьцюжа і золь...На сьвітаньні
Вецер сьнежную гурбу тармосіць...
Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць:

«Вецер, вецер! Ты ўсюды на сьвеце.
Аблятаеш ты й нашы прасторы.
Ці-ж ня бачыў, як Случчыны дзеці
Напаўнялі крывёю разоры?
Ты чаму іхніх ворагаў кулі
Не разьвеяў па чыстаму полю?
Вецер, вецер! Былі то ня гулі:
Палеглі воі ў бітвах за волю.»





Сьнежань... Холад і золь... На сьвітаньні
Вецер лісьце сарванае носіць...
Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць:

«Лістапад! Агаляў ты галіны,
Шапкі з дрэваў зрываць быў ахвочы;
Чаму ворагам нашай краіны
Не засыпаў лістотаю вочы?
О спагадная маці-зямліца!
Змагароў супраць лютай навалы,
Што палеглі, каб ёй не скарыцца,
Ты ў улоньні сваім пахавала.»

Сьнежань... Холад і золь... На сьвітаньні
Вецер сьнег разьмятае, разносіць...
Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць:

«Лань, сястра мае роднае Случы!
Дзе мой бацька і брат, і каханы?
Ты чаму ім вадою гаючай
Не абмыла крывавыя раны?
Ты чаўны іх на хвалі пяшчотнай
Дзесь загнала ў сьцюдзёную зіму.
Як-жа быць мне дзяўчыне самотнай?
О, вярні іх, вярні на Радзіму!»

Сьнежань... Холад і золь... На сьвітаньні
Вецер плача і літасьці просіць...
Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць:

## 274

«О суседзі з заходу! Вы людзі?
Як нам зваць вас сваімі братамі,
Калі вашыя сэрцы у грудзях
Абрасьлі, мабыць, плесьні кустамі?
Вы забралі ў нас зброю і волю,
Нашых вояў у сьвет разагналі.
Каб такую жахлівую долю —
Даў Бог — вы й вашы дзеці пазналі!»

Каля рэчкі — лагоднае Лані —
Маладая случчанка галосіць,
І яе галашэньні-літаньні
Вецер беламу сьвету разносіць...

*2 лютага 1981 г.*



## НАША МОВА

(Акраверш)

Наша мова — бярозавік весьні,
Аксаміт жаўруковае песьні,
Шум гаёў, пушчы грознае голас,
Акавітай успоены колас,
Матак нашых пяшчоты адвеку,
Отмуць-вір у вазёрах і рэках,
Васілёк сінявокі у збожжы,
Агняцьвет нашай сілы, дар Божы.

*16 лютага 1981 г.*







## У ЧУЖЫНЕ

Ў чужой краіне я лёгка дышу,
Жыву спакойна, нібы ў зацішшу.
Я ганаруся: ў сваёй сьпіжарні
Я кнігі маю з мае друкарні.

*7 красавіка 1981 г.*





# 277



Служу свайму народу,
Чым можа моц мая;
Прыблудам, сумазбродам
Я — не радня!

*28 красавіка 1981 г.*



*Лэся УКРАІНКА*

## НАДЗЕЯ

Няма ў мяне долі, і волі няма,
Жыве толькі ў сэрцы надзея сама:

Надзея вярнуцца яшчэ на Ўкраіну,
Пабачыць яшчэ дарагую краіну.

На сіні Дняпро яшчэ раз паглядзець,
І там ці памерці, ці жыць між людзей.

На стэп, на магілкі яшчэ раз зірнуць,
І сьветлыя згадкі яшчэ раз вярнуць.

Няма ў мяне долі, і волі няма,
Жыве только ў сэрцы надзея сама.

*З украінскае мовы.*
*11 травеня 1981 г.*





## АЛЕСЬ ЗМАГАР

(Эпіграма)

Да сэксу ён яшчэ ахвочы,
Трасе старога ліхаманка.
Свае кахаць яго ня хочуць,
Дык пакахала карэянка.

*26 травеня 1981 г.*



## УЛАДЗІМІР ДУДЗІЦКІ

Ходзіць чутка, што Дудзіцкі,
Мабыць, матчынае цыцкі
Захацеў.

А мо' іншая прычына,
Што паэт наш, бедачына,
Звар'яцеў.

Ці падбілі Ўладзю чэрці,
Каб на «родине» памерці,
Паляцеў?

*31 травеня 1981 г.*





281

## ПРОСЬБА

Спагады вашай
не хачу я.
Хацеў-бы жыць я,
як і ўсе;
Ды хто сумленьне
ў сэрцы чуе, —
Хай мне
атруты прынясе.
Няхай ён
грэху не баіцца.
І дасьць мне тое,
што прашу.
І хай яму
спакойна сьпіцца:
Грэх ляжа
на маю душу.

*6 кастрычніка 1981 г.*



11 Зак. 365

## НАВАГОДНЯЕ

З Новым Годам, браты Беларусы:
Зарубежнікі хто і Ліцьвіны,
Крывічоў неўгамонная раць!
Адкідайма былыя спакусы,
Забывайма былыя правіны,
Пачынайма пра новае дбаць!

*9 студзеня 1982 г.*





## 283

## РОДНАЯ МОВА

(Акраверш)

Роднай мовы чароўныя гукі,
О як любы вы нам ад прадвесьня!
Дзіцянём яшчэ цягнем к вам рукі,
Нібы ловячы матчыну песьню.
А як толькі ўбяромся мы ў сілу, —
Яркай зоркай вы нам да магілы.
Мілагучных, ад шчырага сэрца,
Одаў мала яшчэ напісана
Вам, каб можна было імі грэцца,
Аздабляючы вечар і ранак.

*26 лютага 1982 г.*



## МАЯ БЕЛАРУСЬ

Беларусь для мяне — мая родная маці,
Што ў залочаны восені цьвет,
У сялянскай з лучынаю хаце
Спарадзіла мяне на сьвет.

Беларусь для мяне — гэта шчырая вера,
Гэта сэрца сыноўнага стук.
Беларусь для мяне — гэта звонкая лера
І цымбалаў раскацісты гук.

Беларусь для мяне — гэта белыя зімы
І вясновы бурлівы разьліў;
Васількі у жытох гаманлівых,
Водар бэраў, антонавак, сьліў.

Беларусь для мяне — гэта восень з кастрыцаю,
Верацёнаў гудзеньне, красён перастук,
Кужаль, тканы матуляй, сястрыцаю,
Гэта — плёны ад працы мазолістых рук.

Беларусь для мяне — Каліноўскі, Скарына,
Багушэвіч, Купала і сотні такіх,
Каго гора-бяда не скарыла,
Хто ніколі не зрокся сваіх.

Беларусь для мяне — гэта слуцкія ткальлі,
Што прыгожыя ткуць паясы;
Гэта рэк і вазёраў срабрыстыя хвалі,
Белавежская пушча і Бранска лясы.



## 285

Беларусь для мяне — Сакавік Дваццаць Пяты —
Пуцяводная зорка мая, —
Случчакі, Вяліжане у бітвах зацятых
Ды імклівай «Пагоні» ваяк.

Беларусь для мяне — гэта сьпеўная лера
І крынічка, што з лесу бяжыць;
У свой край непахісная вера,
Што ён жыў і жыве й будзе жыць!

*24 сакавіка 1983 г.*





## 286

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

На замёрзлую зямельку
Лебядзіны пух ляціць,
Сьцеле белыя абрусы,
Яркім срэбрам зіхацiць.

Ах, як хараша, цудоўна!
Усё заціхла, як у сьне.
Поўнай сілай дыштуць грудзі,
Пахне мёдам першы сьнег.

*24 сьнежня 1983 г.*



## З ЛІСТА Ў БЕЛАРУСЬ

... Ад навалы прыжджэш толькі згубы...
Дык ня сьпі ў абрабованай хаце
І ня хныкай, а сьціснуўшы зубы,
Ты мацуйся, няскораны браце!..

*21 верасьня 1984 г.*









Белая, сьветлая, чыстая,
Мой галасісты жаўрук!
Ты — мая доля вячыстая,
Маці мая — Беларусь!

Летняй улевай купаная,
Першага сьнегу бялей.
Толькі адна ты каханая,
Цэлага сьвету мілей.

Сьвежай расою абмытая,
Многа ты зьведала скрух.
Сынам сваім не забытая
Маці мая — Беларусь.

Доля твая не згалелая,
Ты яшчэ ўбачыш зару,
Сьветлая, чыстая, белая
Маці мая — Беларусь!

*22 сакавіка 1985 г.*



Даўно не бачыўся з табою,
Ня знаю, як ты там жывеш.
Ад цяжкіх дум няма адбою,
Здаецца, — ты мяне завеш.

Хацеў-бы зноў з табой спаткацца
І ўжо не разлучацца больш,
Ды прыкра мне чужым скарацца
І я цярплю пякельны боль,

Бо над табой туман кашлаты
Вісіць, нібы Дамоклаў меч...
А я-ж ня злодзей, не пракляты,
Каб галаву зьнялі мне з плеч.

І, ад цябе цяпер далёка,
Я чую твой трывожны звон...
Братам і сёстрам сінявокім
З чужыны нізкі шлю паклон.

*22 сакавіка 1985 г.*

## ПЕРШАЯ КВЕТКА

Кветку першую вясною,
У чужым спаткаўшы краю,
З нечаканай сьлязіною
Ёй у тварык пазіраю.

Нагадала гэта кветка
Мне радзімую старонку,
Як вясна йдзе па палетках
З жаўруковай песьняй звонкай.

Ды ня цешаць мае грудзі
Прамінулыя ўжо зімы...
Ці ж цябе калі забудзе
Сын твой, любая Радзіма?!

*23 сакавіка 1985 г.*



## 291

## ГОЛАС НАРОДНАГА ГНЕВУ

І ў часе упальнай сьпякоты,
І ў час навальніцы-улевы,
Я чую з Радзімы грымоты
І голас народнага гневу.

Гучыць ён у звоне кайданаў,
Якімі скут Край мой айчысты;
У шуме лясоў нясьціханым
І ў шолаху ніў каласістых.

Гучыць ён прыцішаным звонам
І сумнаю жніўнаю песьняй.
Але набярэ ён разгону,
І з новаю сілай ускрэсьне.

*23 сакавіка 1985 г.*







## РОДНЫМ

Ліхалецьце вайну нарадзіла
І пагнала мяне ў край другі.
Каб вярнуцца да вас на Радзіму
Ня пускалі мяне ланцугі.

А цяпер ланцугі паслабелі
І зьмяніўся на лепшае час.
Я чакаю пагоднай нядзелі,
Каб прыехаць у госьці да вас.

*4 лютага 1990 г.*



## НА ЧУЖЫНЕ

Тут доля мая дагарае,
І сэрца ня мае спачыну.
Ці ўбачу цябе, дарагая,
Каханая змалку Айчына?

Я тут каратаю, бязьвінны,
Бясконцыя хмарныя тыдні.
За што, за якія правіны
Мяне сюды выгналі злыдні?

Каму я стаў поперак горла,
Каму перабег я дарогу?
О як-жа балюча, як горка
Разьвітвацца з родным парогам!

*28 лютага 1990 г.*







Хачу я сьцерці з памяці благое,
Што перажыць прыйшлося на вяку.
Ды як сатрэш, калі не паддаецца
Яно ні сьцірцы, а ні наждаку?!

*15 чэрвеня 1990 г.*



## ПРАЧНУЛАСЯ МАЯ РАДЗІМА

*Лявону Случаніну*

Прачнулася мая Радзіма,
Ды ня зусім;
Яшчэ над ёю хмарных зімаў
Вісіць кілім.

Прачнуўся горад, вёска
Страсае сон,
А па-над імі адгалоскам
Лунае звон.

І ўжо узьвіўся ў высі зорнай
Айчыны сьцяг,
Гучыць над людам непакорным
Кліч да жыцьця.

І дзеці роднае матулі:
Брат і сястра
Паветра сьвежага каўтнулі,
Збываюць страх.

Уваскрашаюць маці-мову
І жар крыві.
Ня хочуць больш схіляць галовы,
Душой крывіць.

А цэрберы былога ладу —
Стражы акоў —
Яшчэ драсуюць нашы грады
Ганьнёй ваўкоў.



**296**

Ды запаліў мой брат каханы
Агонь душы.
Ня дасьць ён колісь Край Забраны
Зноў задушыць!

*1 сьнежня 1990 г.*







## «КНІЖКУ НОВУЮ КУПЕЦЕ!»

Міхась Кавыль, пакуль няхворы,
Задумаў выдаць свае творы.
Каб выдаць зборнік і харошы,
Знайсьці патрэбна многа грошай.
Дык ён пачаў шукаць дарогі,
Дзе б мог «схапіць быка за рогі».
Але тут з мэтай дапамогі
За справу ўзяўся Інстытут.
І стаў Міхась на шлях пакут.
Ішоў па ім і муляў ногі.
Аж дзесяць год цярпеў ён мукі,
Каб «Міжагнёўе» ўзяць у рукі.
Цяпер гукаць мусіць па сьвеце:
«Гэй! Кніжку новую купеце!»

*2 сакавіка 1991 г.*



## 298

### КЛЯШЧЫ

Ці ж хто ня ведае кляшча натуру?
Ён-упіваецца ў чужую скуру
І смокча кроў свае ахвяры,
Пакуль здаволіцца, пачвара.
І сёньня — бачу я у скрусе —
На целе нашай Беларусі
Сядзяць былых часоў кляшчы,
Хоць сёй-той з болю і крычыць.

Дакуль жа будзеш, беларус,
Цярпець былых кляшчоў хаўрус?

*21 сакавіка 1992 г.*

**299**

## ЦЬВЕТ ВІШНІ

(Рандэль)

Цьвет вішні бела-ружаваты
Глядзіцца ў нашае вакно
Й нібы гаворыць, што даўно
Вясна ўжо ходзіць каля хаты.
Твае сьмяюцца вачаняты
І грэюць сэрца мне ізноў.
Цьвет вішні бела-ружаваты
Глядзіцца ў нашае вакно.
Жаўрук сьпявае, як наняты,
Яго ў паднеб'і ня відно,
Ды сьпеў яго такі багаты!
П'яніць мяне, нібы віно,
Цьвет вішні бела-ружаваты.

*20 красавіка 1992 г.*





За вакном маім нягода:
Дождж і вецер, гул і шум;
Я ў пакоі бяз прыгодаў
Віскі п'ю і верш пішу...

*4 сакавіка 1993 г.*

Я ў госьці прыехаў да роднага Краю
Напіцца яшчэ раз прынаднай красы.
Мяне сустракаюць і шчыра вітаюць
Палеткаў шырокіх сыны-каласы.

Бярозы ля хаты, буслы на папары
І родныя людзі — мае землякі.
Ну вось і збыліся заветныя мары:
Страчаюць ласкава мяне Лучнікі.

Самота былая зрабілася друзам.
Старонка радзімая, як ты жывеш?
На роднай зямлі мне вярнулася Муза.
І сэрцу нашэптвае ціхі свой верш...

*14 ліпеня 1994 г.*

## 302

У грудзях — пачуцьцяў бура,
Ў галаве — ад думак вятругі:
Звар'яцела Беларусь і, здуру,
На сябе надзела ланцугі;

Канаплянную зьвіла вяроўку,
Каб зрабіць добротную пятлю
І ўсадзіць туды сваю галоўку,
Як з Расіяй пажадае «шлюб».

Не хачу пры гэтакай нагодзе
На хаўтурах Бацькаўшчыны быць.
Ці ж сапраўды ты здурнеў, народзе,
І пажыць ня хочаш бяз журбы?

*Ліпень — жнівень 1994 г.*







Што я пішу? Каму й навошта?
Хто прачытаць гэта захоча?
Так думаю. Душы-ж кароста
Сьвярбіць і словамі ласкоча.

Што за бязглузьдзіцу ты пішаш?
Ты звар'яцеў ужо, напэўна...
А што рабіць, калі кілішак
Зноў разбудзіў мой голас сьпеўны?

Пакуль булькоча у графіне
Хмяльная радасная вадкасьць, —
Мяне натхненьне не пакіне!
І я пішу. Няхай ня гладка, —

А так, як хочу і умею.
Бо для сябе, а не для кніжак.
Дык будзь здароў, мой дабрадзею, —
Хай поўным будзе твой кілішак!

*17 кастрычніка 1994 г.*



# 304

Пытаюць мяне колькі раз: ці пазбыўся
Я суму свайго па далёкай Радзіме?
А што адказаць? Не, сябры, не забыўся
Я землю, якая мяне нарадзіла.

Радні і знаёмым я кланяцца мушу:
Прышліце мне вестку з бацькоўскага Краю,
Каб мог наталіць ёй сасмяглую душу,
Каб мог я пазбыцца нуды і адчаю...

*24 кастрычніка 1994 г.*

## ЗЬМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданьне

**Золак Янка**

ВЯТРЫСКА З РАДЗІМАЙ КРАІНЫ

Збор выбраных твораў

Укладальнік *Пранчак Леанід*

Галоўны рэдактар *Я. Знак*
Мастак *У. Якунін*
Мастацкі і тэхнічны рэдактар *Г. Емец*
Карэктар *М. Хадыка*
Кампьютэрная вёрстка *Г. Барысевіч*
Адказны за выпуск *Л. Дайлідка*

Падпісана да друку 17.02.1996. Фармат 84x108 1/32. Папера афсетная. Гарнітура Пецярбург. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 16,38. Ум. фарб.-адб. 16,38. Ул.-выд. арк. 7,95. Тыраж 1000 экз. Заказ 365.

Беларуская асацыяцыя «Дзелавая ініцыятыва». Ліцэнзія ЛВ № 1165. Рэспубліка Беларусь, 220026, Мінск, вул. Грэкава, 23.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.